*Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!*



# ПОЛЫМЯ

## БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 7—8

ЧЭРВЕНЬ—1923—ЛІСТАПАД

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА
«САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ». МЕНСК, 1923.

# Чырвонакрылы вяшчун.

(*Поэма—фантазія*)

## ПАЛЁТ ПЕРШЫ.

### 1.

Бэнзыну гаручага пах...
Тр-р-р-а—та-та-тах!
Машына запела.
Па зямлі прабеглі калёсы...
Завярцеўся віхрам пропэлер—
Панёсься!..
Панёсься!..
Панёсься!..
Я—селянін,
Лётчык—рабочы...
Крычыць мне: „ня бойся!..“
На аэропляне
Вышай!..
Вышай!...
Вышай!...
—Таварыш лётчык, я не саскочу,—
На зямлю толькі гляну
І можа—
Навекі пакіну.
Ляцець я хачу ў падарожжа,
Каб выведаць шчасьця краіну,
Што бачыў я ў марах...
А чорнае царства—ў пажары
Няхай апранецца,
Дзе высі нябеснай плывун,
Чырвонакрылы вяшчун
Пранясецца!..
Матора вяшчунныя песьні
Хай счуюць, дзе дні ліхалецьця...
Таварыш! Хачу паляцець я
Туды—ў паднябесьсе!..
Высока!..
Высока!..
Высока!..

Мы закружыліся
Птушкай Чырвонай
Над Беларусьсю
Разбуджанай...
Крыльлі срэбным імгляць
Пералівам!
А над соннай,
Перапуджанай
Закрычу я ў блакітную гладзь:
—З зямлі хто узьняўся:
Шчасьлівы!
Шчасьлівы!!!..

2.

Крыльлямі хмары
У высі мы рэжам...
Там не адзначаны межы...
Там воля—ня мара.
Ня хочу быць сокалам...
—Гэй, машыністы!
Ня трэба ўздымацца высока,—
Хачу разглядзець усё чыста
На пакінутай намі зямлі...
Чырвоным туманам—
Глядзі—абляглі
Лясы, балоты і поле...
Бураю плача прастор...
Туды паляцім мы—заглянам,
На край, дзе няволя,
Дзе рэкі напоўнены потам...
А потым—
Зьлятаем да Сонца і Зор.

3.

Паплылі! Паплылі! Паплылі!..
Адарваная частка зямлі—
Беларусь...
Не зямлі я шкадую—
Працоўнага люду...
Я над імі нясуся, нясуся...
І чую
Усюды,
Як шуміць паднявольны лес-бор...
Здаецца,
Ён, магутны,
Вось-вось зварухнецца...
Хвалі Нёмну затопяць прастор...
У чырвані ўсё захліпнецца...
Песьні помсты будуць чутны.
Тагды вольная краіна
Будзе рада госьцю-сыну,—

І ад маткі, ад бяздольнай
Дар багаты
З новай хаты
Прыме Нёман,
Нёман вольны!
А пакуль—песьні жалю ня змоўклі.
Пазіраю ў бінокль...
Кружуся раз пяты
Над долам-балотам...
Туман белай коўдрай расьпяты
Начуе.
Хачу я,
Каб загароду калючага дроту
Рука з мазалямі парвала,
Каб згінула зьдзеку навала...
Я веру іх сіле!
Кружыся, лётчык-рабочы!
Хай чырвоныя крыльлі
Дзень новы прарочаць!..

4.

Рук мільёны узьняты ўгору—
Крычаць прывітаньне!
Зямля у чырвоным убраньні...
Крывёю заліты разоры...
—Больш не падзелены!
Чуваць на зямлі страляніна...
—Лётчык, ці спраўна машына?
Мы не падстрэлены,
А дух паднявольных узьнялі,—
Усё скончыцца слаўна!
—Машына спраўна,
Можна ляцець цяпер далей!
Замільгаліся крыльлі у высі...
Лётчык гукае: „Дзяржыся!“
Паляцелі!..
На захад! За сонцам!
Зямлі апяразваем цела
Голае
Вогненым колам...
За намі ніхто ня угоніцца.
Мы на кані паветранай коньніцы
Ляцім за сонцам!

5.

Над абшарамі Польшчы,
Арол белы ў паветры палошча
Крывавыя когці...
Уніз пазірае ён ласа,
А там сьвежае, цёплае мяса...
Меры няма яго злосьці,

Як пабачыў чырвоныя крыльлі...
—Эх, арол, тваё бясьсільле
Асароміць дзень астатні
Твайго жыцьця!
Што? У бойку хочаш выйсьці
З нашай птушкаю крылатай?
Лепш ня кратай
Ты арла чырвонай масьці,—
Ад яго табе прапасьці...
Прэч са шляху!
І адным магутным махам,—
Галавы яго ня стала...
На ўвесь край засакатала...
І арол забіты—белы
Камянём зьляцеў ў бяздоньне...
На зямлі крычаць: „Пабеда!“
—Лётчык! Сьмела!
Сьмела!
Сьмела!
На чырвоных крыльлях еду!..

6.

Ад меж Пазнані
Да нізін Рура
Рабочыя ходзяць панура...
Мы сталі кружыцца...
Чырвоную птушку спазналі...
І там—Ур-р-р-а-а-а!
Народ весяліцца.
Штандар волі мільгацее,
Змоўклі лаянкі зладзеяў.
—На вуліцу!
—На вуліцу!
Чуваць нам пад хмарамі
І дым па Нямеччыне
Курыцца.
Запахла пажарамі...
Чалавеччынай...
Гарматы гручэлі бясконца...
Барабаны бомкалі...
Раптам ўсё змоўкла.
Збор зазванілі,
І над вызваленай
Сьвяціла Чырвонае Сонца.

7.

Пропэлер жалобна сьпявае...
Пад намі Францыя.
—Лётчык! тут загукаць каму мне?
Ты знаеш: у гэтай краіне
Магілы насыпаны першай Комуне,

А цяпер—
Свабода захована ў ранцы.
Справа пачатая гіне...
Лётчык гаварыць:
—Цела зьнішчылі,
А дух іх магутны вітае...
Пропэлер віхураю сьвішча...
Навальніца...
Чырвонае мора
Абшары наўкол залівае.
Маланка іскрыцца!..
З магіл паўстаюць комунары
Сыплюць іскры ўлева, ўправа!
Слава паўстаўшым!
Слава!
—Помста! Помста!
Вяшчуну чырвонакрыламу!
Чуваць пагрозы злыя, крыкі.
Чырвоным памостам—
Пэжарам вялікім
Свой шлях услалі!
—Лётчык! На поўдзень пахілім,
Дзе нас не чакалі...
У новую часьціну
Сьвету—
У чарнакожых краіну,
Дзе вечнае лета.

8.

Над краем
Чарнакожых
Лятаем.
Яны таксама людзі няволі.
Гэтакай птушкі,
Нават пахожай,
Ня бачылі, пэўне, ніколі...
І чырвонай істужкай
Сьцелем мы шлях...
Чарнакожым ня страх!
Іскра ляціць на Алжыр...
Гарыць чарнакожых пустыр...
Замест плачу—песьні, скокі
Разьлягаюцца далёка:
—Нам ня жаль!
Нам ня жаль!
Хай агонь затопіць даль...
Ад Алжыру да Дамары,
Хай простор схаваюць хмары,
Хай там скачуць готэнтоты...
—Птушка, хто ты?!
—Птушка, хто ты?!

А нехта крычыць з Трыполі:
—То вяшчун ўсясьветнай волі!

9.

А цяпер над акіянам
Чырвонакрылым баянам
Пранясёмся над выспай
Сьвятой Алёны,
Над магілай Наполеона,
Што век цэлы выспаў...
Можа пачуе ён...
—Гэй, Наполеон!
Вось якім пажарам
Асьвечаны чорныя царствы...
Патугі твае былі дарам
Здабыць над зямлёй уладарства!
Не ўладаеш і выспаю гэтай!
Каб быць пакарыцелем сьвету,
Ня толькі зямлёю трэба ўладаць,
А трэба узьняцца
На сінюю гладзь—
І неба павінна табе пакарацца!
На гэтай чырвонакрылай
Машыне,
Тваю мы спалілі
Айчыну!..
Зашумелі матора калёсы...
Няма адгалосу...
Хвалі стагналі глуха...
—Лётчык, слухай!
Ці блізка Калюмбія?
—Відаць горы Анды...
Люблю я
Сіні край Атланты,
Бушуючы яго прастор...
Там вечна бойка хваляў—гор...
Ў ім неба бачу я адбітак...
Узоры вытканыя з зор,
Нібы са злота-срэбных нітак.
Але відаць ужо Чылі...
Над выспай Вогненнай Зямлі...
Матор сакоча...
Сонца паўдзённага бліск
Сьлепіць вочы...
Але ад ветру
Ў паветры
Ня горача...
Мы над зямлёю нізка...
—Лётчык, стрымай машыну,
Хачу запаліць Аргенціну!

10.

Калюмбія—край капіталу...
Фабрыкі і заводы
Форда
Гудкамі рагочуць,—
Доляраў мала...
А рабочы
І неба чарнее ад дыму...
Ніхто ня ўздыме
Мураваныя гмахі...
Капіталу сьцяна
Вадою абнесена—
Няма страху...
Але вось вяшчуна
Чырвонакрылага песьні
Зьверху нясуцца...
І больш ня куюцца
Стопудовым молатам
Аружжа, машыны,
Чужымі рукамі за чужое золата...
Згіне нявольніцтва, згіне!
Узьняўся агонь
Ад Патагоніі
Да самай Аляскі...
—Гэй, магутнейшы Форд!
Зубамі са злосьці паляскай...
Ня будзеш ты ўласьнікам
Ні фабрык, заводаў, ні гораду...
Даволі ў аўтамабілі
Па зямлі поўзаць!
Мы панясёмся ў іх горда!..
Мы пабядзілі!
Людзей ня купіў усіх—позна!
Свайго ня выпрашваем—
Мы пабядзілі!
Наша ўсё! Наша!
Заводы, аўтамабілі,
Гарадоў небаскробы...
Магутней няма—нашай сілы...
За намі узьняцца папробуй?!..

11.

—Лётчык, завінчывай!
Мы над Вялікім...
Ляцім праз Сандвічавы...
Ад неба акіян сінее.
Выспы, выспы бяз ліку.
Новая Гвінея...
Аўстралія...
Перапуджаны каланісты.
Крыльлі пропэлера, перасталі
Вярцецца.

Чуць-чуць ніжай...
Дзікіх нявольнікаў сьвісты...
Спаткалі скокамі.
Іскры мяцеліцай,—
Агонь—калоніі ліжа...
Зноў высока мы—
Над Явай, Суматрай...
—Лётчык, варта
Праляцець над жоўтакожымі:
І тут паможам мы
Узьняць паўстаньне...
Загулі над Кітаем...
А вось і краіна тая,
Што выспай чырвонай
У акіяне
Бачу адбітай.
Японія...
Край усходзячага сонца
Пад пропэлера перазвоны
Быў асьвечан Фузі-Ямай.
Помню я:
Гарады заліты
Выбухам з вогненнай ямы
Гаручага чырвонца...
Край усходзячага сонца—
Сілы падземнай ахвяра...
—Лётчык, зямля ўся ў пажары:
Стары сьвет і новы...
Ляцець трэба зноў,
Скуль падняўся вяшчун
К блакітнай высі...
Загуло нібы тысяча струн...
—Таварыш, дзяржыся!—
Крыкнуў лётчык-рабочы,—
—Апускацца вось тут на зямлю
Няма як!....
Вачамі даль маўчлівую лаўлю
І ў ясны дзень і ў цемру ночы...
—Лётчык! Лётчык!
Бачу чырвоны маяк...
А вось знаёмыя нізіны,—
Крывёю рэкі ўжо ня льюцца...
Лётчык, завярці машыну—
Хутчэй свабоду прывітаем...
Мы ляцім над краем—
Першай Вялікай Рэволюцыі...

12.

О, як прыгожа з вышыні
Акінуць вокам лес і поле...
Дзе сэрца слодач вып'е болей,
Як ні ў бязьмернай вышыні.

А колькі сілы і адвагі
Ты чуеш там—у вышыні...
Няма жыцьця прагненьня—смагі...
Ты—няўмiручы ў вышынi.
Плыве, плыве вяшчун крылаты...
Блакітну даль прастору ніжа.
Разьдзьмухавае хмары ветрам...
На тысячы узьняўся мэтраў...
Плыве, плыве вяшчун крылаты

І раптам—

Ніжай!

Ніжай!

Ніжай!

Замоўк гучлівы сьпеў матора.
Здаецца рэчкі, поле, хаты,
Увесь абшар—нізіны, горы,—
Плыве ўсё ўвысь, адкуль мы едзем...

Нясуся!
Нясуся!
Нясуся!

—Лётчык! Наглядзім,
Каб там апусьціцца,
Скуль быў узьлёт.
Мы пачалі кружыцца
Над Беларусьсю
Вольнай і Злучанай...
Вяшчун-самалёт,
Ахварбованы
Вечарам рыжым,
Сьпявае гучна,
Лятае чаруючай птушкай...

Ніжай!

Ніжай!

Ніжай!..

Лётчык кіруе на дым,
Што сьцелецца чорнай
Істужкай...
Шугнула полымем
Салома,—
Дзе быў уздым!...
—Над полем мы—
Аэродромам...
Прыемны ахопляе страх...
Матор галосіць...
Нізка!
Нізка!
Нізка!

Гаручы бэнзын бліскае!
Тр-р-ра—та—та—тах!...
Зямлю цалавалі калёсы...

—Таварыш лётчык! Як прыгожа
Ляцець было ў блакітнай высі,
Калі вяшчун за хмарай віўся
І шлях шукаў для падарожжа!

Што тут мяне уцешыць зможа?
Вайна, пажар? Зямля і людзі?..
Увысь імкнуцца вечна будзе,
Хто быў у гэткім падарожжы!..

# Крываві вір.

Дзед Патап прачнуўся рана, толькі што пачынала разьвідняцца. Хацеў яшчэ заснуць, але, паляжаўшы трохі, праканаўся, што ўжо не засьне. Ён устаў, адзеўся і выйшаў на двор. Ніхто з сялян яшчэ не падымаўся. Пайшоў паглядзець каня. Конь стаяў над пустою кармушкаю. Убачыўшы дзеда, прывітаў яго кароткім—гы-гы-гы!

Дзед прыпыніўся каля коніка, сказаў яму колькі добрых слоў і запытаўся:

— Есьці хочаш? Дык няма-ж, брат, чаго даць табе!

Але пайшоў у пустую клуню.

На таку ляжала кучка сечкі, а ў куточку—крышан сена. Дзед разважліва паківаў галавою. Заўтра трэба ехаць араць: авёс сеяць пара. Не пакарміўшы каня, многа не наарэш. Сёньня-ж—сьвята, работы няма.

Дзед разважыў, што корм лепей прыберагчы назаўтра, а цяпер каня можна выпусьціць на пашу. Але каб ня зводзіць салодкіх надзей каня, ён узяў жменю сена і панёс да кармушкі. Покі конік хрустаў сена, дзед зьняў з-пад страхі пута і завязаў каню на шыю.

— Ідзі, брат, на свой уласны хлеб!

І павёў з двара.

На вуліцы было ціха і пуста.

Па адзін бок стаялі сялянскія хаты, а па другі цягнуўся высокі пляцень, спускаючыся к возеру. У гэтым пляцені была ўложана і дзедава праца—два гады, як гарадзілі тут. А вось гэты высокі кол быў забіты ўласнымі рукамі дзеда Патапа. Не дарма-ж ён і пазіраў на дзеда прыветней ад другіх калоў. Там за плецянём—панскі сад, ліпавая дарожка, дубы старыя і такія слаўныя садовыя дрэвы: грушы, яблыні, вішні. Сад яшчэ пусты, нядаўна зьлез сьнег, але ўжо паказалася зялёная траўка ў садзе.

Падняўшыся на ўзгорак, дзед параўняўся з панскім дваром. Праз двор быў свабодны праход. Дзед прыпыніўся, думаючы над тым, ці абыйсьці гэты двор, ці проста прайсьці праз яго, каб спутаць каня за садам. Падумаў і павёў праз двор. У панскім доме жыве старая пані і яе ўнук, студэнт. Нядзелі тры, як прыехаў ён з Харкава. Цяпер-жа паны пападжымалі хвасты і сядзяць, як мышы пад венікам.

„Мінулася ваша краса", сказаў сам сабе дзед і досыць сярдзіта зірнуў на панскі дом. Дзед помніць панскую крыўду, моцна яе помніць! Часамі памяць аб ёй прытуплялася, а другі раз так моцна ажыве ў сэрцы гэта крыўда, што хоць ты... няма ведама што! Так, гэта тут, вось у гэтым самым доме, сьвёкар старое пані аддаў такі загад, каб паклікаць матку дзеда Патапа—Патапу тады было ня болей, як паўгода,—каб сваімі грудзьмі карміла яна панскага завадзкога шчанюка. Хіба-ж не балюча было мацеры дзяліць малако паміж сваім Патапкам і панскім шчанём? А лазою ня секлі яе, каб выбіць з душы яе згоду на гэта? А самому дзеду Патапу прыемна было чуць, калі яго называлі „сабачым братам?" І ўсё-ж такі, вядучы каня праз двор, дзед апусьціў наніз свае панурыя вочы. З першага разу было крыху нялоўка: калі-ж то бывала, каб мужык вадзіў каня міма вакон панскага дома? І яшчэ трэба помніць: часы сталі штось няпэўныя. Вось людзі кажуць, што з Украіны немец сюды пасоўваецца, і кажуць яшчэ, што ён трымае панскую руку. Аб гэтым учора яшчэ хадзілі такія гутаркі.

Але дзед пацяшаў сябе тым, што яго ніхто ня бачыў. Зьвярнуўшы за вугал саду, дзед спутаў каня і азірнуўся. На возеры ў чайцы сядзеў ужо каваль, па мянушцы Мамай. Ён стаўляў венцяры і цяпер выехаў глядзець рыбы. Пaглядзеў стары Патап і пазайздросьціў: корму ў яго хапае, сабе і жывёле, і рыбы ловіць, чорт ведае колькі—вёдрамі цягае! Праўда, Мамай ня раз ішоў з рыбы з пустым вядром, але ў чужой руцэ кусок здаецца заўсёды большым.

Крыху пастаяўшы, дзед павярнуўся і пайшоў назад на горку. На горцы стаялі старыя, выносныя дубы. Ладныя дубы! Зваліць-бы вунь таго, што на водшыбі стаіць ды папілаваць,—слаўныя былі-б дошкі! Крыху ўлева, ня больш, як паўвярсты ад панскага дому, была пасада яшчэ аднаго земляўласьніка, але ён зьбег адгэтуль, як толькі пачалася гэта завіруха.

Ой, быў гад!

Бывала, чуць адно ступіць скаціна на яго поле, дык зараз-жа зойме, і ўжо не садраўшы штрафу, ня пусьціць з два-

ра. Затое-ж ад пасады яго засталіся толькі слупкі ды падлога, але добрыя людзі ўжо пачалі выдзіраць дошкі з падлогі.

Дзед Патап паразважыў трохі над пытаньнем, як-бы і яму садраць з пару дошак, бо людзі разьбяруць, а яму дошкі патрэбны.

Вярнуцца назад панскім дваром цяпер дзед не адважыўся. Ён зноў спусьціўся ўніз, прайшоў каля свайго коніка. Прыпыніўся.

— Малая, брат, пажыва табе,—прамовіў дзед да каня і паківаў спагадна сіваю галавою.

Туляючыся ў кустох, пайшоў між садам і возерам, кіруючыся на Мамаеву кузьню. Тут дзед знайшоў сабе пералаз і выйшаў на вуліцу.

Вёска памалу зачынала свой звычайны дзень. Губанова „маладайка“ йшла па ваду. Крыху ніжэй кузьні быў калодзеж. Дзед Патап прыпыніўся каля кузьні: ня вельмі вялікая прыемнасьць спаткацца з бабаю ды яшчэ з пустымі вёдрамі.

Дзед пачаў нават прыпамінаць, каго ён сёньня бачыў першага: мужчыну ці кабету, бо калі ты выходзіш зранку на двор і першую згледзіш бабу, то гэта—знак кепскі: будзе якая-небудь няпрыемнасьць. Аказалася, што першы, каго бачыў дзед, быў каваль Мамай. Хоць і Мамай невялікае шчасьце, але ўсё-ж такі лепш, чым баба. Сям-там над хатамі заклубіўся дым. Дзед Патап таксама зьвярнуў увагу і на дым: з якога боку йдзе вецер, ці не зьбіраецца часамі дожджык. Але вецер быў не дажджавы. А трэба было-б, каб прайшоў дожджык: трава пайшла-б расьці.

На выгане, каля хаты Сымона-крупарушніка, ужо гаманілі сяляне. Звычайна тут адбываліся сходкі, сюды зносіліся розныя навіны, тут разьбіраліся наогул розныя справы, бо тут было і пасядзець на чым і паляжаць, асабліва, калі прыгрэе сонейка. Тут-жа йшла і дарога; чужыя людзі йшлі і ехалі па гэтай дарозе то ў горад, то з гораду. Адным словам, месца было добрае. Дзед зірнуў за возера. Ад лесу па дарозе, як мурашка, выпаўзала хурманка. Нехта ехаў сюды.

Павольна зрушыў дзед з месца і пасунуўся да сялян паслухаць, аб чым гавораць людзі. Дзед Патап ціха і стала, як і належыць старому чалавеку, павітаўся з сялянамі і стаў крыху збоку. Прыслухаўся, аб чым ішла размова. Гаварыў Рыгор, сын крупарушніка, чорнабароды мужык. Ён лічыў сябе чалавекам разумным. Да новага ладу жыцьця сэрца яго ніяк не ляжала. Любіў слухаць такія чуткі, якія гаварылі не ў карысьць новаму парадку. І калі ён ужо сам перадаваў іх, то пры гэтым не прамінаў зазначыць: „Так бабы гавораць“,

бо калі ўжо пачынаюць аб чым гаварыць бабы, то ў аснове іх гаворкі ляжыць нейкая праўда.

Пачатак яго прамовы адбыўся бяз дзеда Патапа.

—... а калатні можа быць столькі, што ўся вёска захлынецца.

—А пры чым тут вёска?—адказаў Губаноў Міхейчык:—няхай адказвае той, хто разбурваў.

Дзед Патап дагадаўся, што справа йшла аб разбураным доме пана Струкава, ад якога асталіся адны слупкі ды падлога.

„Шэльма ты, шэльма!“ падумаў сам сабе дзед Патап: „гаворыць так, як-бы ён і пальцам не крануў нічога. А хто-ж, як ня ты, пілаваў бярвеньні ды ў горад на дровы вазіў.

Чыя-чыя, а твая, брат, калі што, першая сьпіна заплача... Ну, і народ!“.

— Ось так табе і пачнуць наводзіць сьледзтва,—гарачыўся Рыгор:—хто ды што? Сьледзтва можа пазьней павядуць, а спачатку пусьцяць вёску сьвечкаю да бога. Пагараць і вінаватыя і невінаватыя. А з-за каго? З-за якіх там двух-трох прахвостаў... Запамагліся, ліха вашай галаве!.. Народ у нас!

Выходзіла так, што народ тут быў, як зазначаў кожны прамоўца, нікуды нягодны, дрэнь народ, і ў той-жа час ён быў вельмі слаўны народ, бо калі пагаварыць па чарзе з кожным гаспадаром, то ён выказваў сябе з найлепшага боку; усё можна-б з ім зрабіць, але „народ у нас дурны, халерны народ“.

Па характару размовы відаць было, што навіны прыйшлі нядобрыя.

— Так ім і трэба,—азваўся Міхалапаў Савось, мужык панурага віду:—не разбурваць, а спаліць трэба было-б, а котлішча заараць. Вось яшчэ тырчыць ідал,—прыгэтым Савось паказаў на панскі дом:—бо калі хоць голыя сьцены астануцца, то і за іх чапляцца будуць. А так—спаліць, зьнішчыць, то трасцу другі раз асталюецца... Народ у нас яшчэ дурны!

На гэты час пад‘яжджала хурманка, якую заўважыў дзед Патап за возерам. На возе сядзеў Піліп хамуток з Вялікіх Крукоў.

Колькі сялян падыйшло да Піліпа, бо адразу відаць было па Піліпу, што ён мае сказаць нешта цікавае.

— А што ён кажа?—запытаў дзед Патап, бо яго старыя вушы крыху не дачувалі.

А Піліп казаў:

— І далей Рудаўца ўжо ехаць нельга: зараз-жа за Рудаўцам пачынаюцца пазыцыі; войска—поўнае сяло, чырвоная

гвардыя стаіць. Каля Харланаўкі дзьве батарэі пастаўлены. Такая, брат, суматоха, катавасія... Эх, заварваецца каша!

— А горад?

— Забраў! учора пад вечар немец увайшоў.

— Горад забраў?—пачулася чыёсь трывожнае запытаньне.

— Бух! бух! бух!—адна за другою бухнулі тры гарматы лявей Рудаўца.

— Гурр!—адклікнулася ім яшчэ адна.

— Бум-бум!—грымела ў трэцім месцы.

— Во-о-о!—працягнуў тоненька дзед Патап.

Усе раптам змоўклі і пабляднелі ад страху. Піліп Хамуток шпарка пагнаў свайго коніка, уцякаючы дальш ад вайны. За ім уздагон пусьціліся, заядла брэшучы, сабакі з двара крупарушніка. Патрывожаныя сабакамі качкі матнуліся ў бок. Громка загергеталі на выгане гусі.

А сонейка сьвяціла ласкава і лагодна на ясным небе.

II.

Трывога і неспакой былі і ў панскім доме. Першыя гукі гармат абудзілі старую паню.

— Што гэта?.. Наташа! Наташа!—клікала пакаёўку старая пані, абапёршыся локцем на пухавую падушку.

— Бум! бум! бум!—зноў загрымелі страшныя гарматы.

Старыя сьцены панскага дому першы раз за сваё доўгае, спакойнае жыцьцё здрыгануліся моцна, парывіста, і крэхнула размалёваная ў турэцкім гусьце столь.

— Дррр!—жалобна забразгацела ў шыбах тонкае, халоднае шкло, нібы чагось плачучы.

Убегла пакаёўка, маладая, стройная дзяўчына.

— Войска ў Рудаўцы стаіць, выбіваюць немца з гораду! Немец у горад вайшоў!.. Ой, што-ж гэта будзе?—узбураная страхам, казала дзяўчына.

— Божа міласьцівы, зьлітуйся нада мною!—прастагнала старая пані.

Ей страшна, страшна, старой пані. Яна пачула, што нейкія варожыя сілы націскаюцца з усіх бакоў, як-бы на яе наступала бурлівае мора, каб зьмесьці яе і пахаваць у цемры свайго бяздоньня. Яна бачыла вакол сябе цёмны вір, які нямінуча зацягне ў сябе яе жыцьцё. А здарэньні апошніх дзён, сьмерць яе сястры і нявесткі, якія былі забіты ў сваім маёнтку, яшчэ больш падкрэсьлівалі думку аб чымся страшным, грозным, неадхільным. Кожны крык на вуліцы, кожная чалавечая фігура веялі на яе подыхам сьмерці.

Яна борзда адзелася, села на канапку і некалькі моманту сядзела нярухома, а кожны гарматны стрэл біў моцна па яе сэрцы.

Разам з гэтым і нейкая надзея часамі прабівалася ў яе душу. Яна думала аб немцах, думала аб іх ваяцкай выдатнасьці. Калісь, і ня вельмі даўно, яна шчыра жадала ім усякага ліха, лічыла іх разбойнікамі, катамі, ворагамі чалавецтва, якіх трэба зьнішчыць, пасадзіць на залезны ланцуг. А цяпер гэтыя „каты“ здаваліся ёй збавіцелямі, і яна прасіла бога ў патайных мысьлях сваіх, каб яны, гэтыя немцы, хутчэй прыйшлі сюды... О, каб толькі прыйшлі!

А гарматы грымелі не на жарты.

Відаць было, яны цьвёрда пастанавілі ня сьціхаць, покі вораг ня выйдзе назад з гораду. І сьцены панскага дому ўсё дрыжалі і дрыжалі, і жалобна зьвінелі ў вокнах шыбы. Страшна рабілася старой пані. Ніклі надзеі на прыход „збавіцеляў“.

— Наташа! Наташа!—зноў клікала пакаёўку старая пані.

— Бух-бух!—грымелі ў адказ ёй гарматы.

— Грыша! Грыша!—звала яна ўнука.

— Гум!—раўла з другога месца гармата.

— Божа мой! я адна. Хто заступіцца за мяне?

І яна борзда, на колькі магла, падыйшла да абраза, што вісеў у куце, і стала прад ім на калені. Прынікшы да зямлі лбом, яна некалькі мінют заставалася ў гэтай постаці.

Убегла пакаёўка. Хацела штось сказаць, але запынілася, убачыўшы паню на каленях.

Цяжка ўздыхнуўшы, паднялася яна з кален і села ў мяккае крэсла, схіліўшы галаву.

— Скажы, Наташа: чаму людзі такія ліхія? Зашто забіваюць яны кабет? Зашто забілі яны маю сястру і нявестку, зашто?... Ох, і мяне яны заб'юць! Чуе маё сэрца— заб'юць яны мяне! Хіба гэта людзі? Хіба ёсьць у іх кропля жаласьці?.. Дзіч, дзіч азьвярэлая!

Наталя, панурая, стаяла моўчкі. Яна хацела нешта сказаць, але не адважвалася.

— Ой, панічка мілая!—прамовіла яна,—такі праўда: азьвярэлі людзі! Што-ж я чула! Па сяле гутараць мужыкі, што трэба паноў усіх перарэзаць. І паноў, і папоў. Тады, кажуць, і пачнецца самае настаяшчае жыцьцё, калі адны мужыкі застануцца. І нават мне самой казалі, каб я пакінула панскі дом, бо каго захопяць у панскім доме, таму—каюк!

Пані, як аглушаная громам, асунулася на канапку. Яна пачула, як усё ў яе затраслося, стала горача, а потым усё ў

ёй анямела, пацямнела ў ваччу, а жыцьцё і ўвесь сьвет якбы адыйшлі кудысь далёка, і толькі адна сьветлая палоска, адна толькі шчылінка, праз якую сьвяціўся дзень, засталася ад усяго, што называецца жыцьцём.

Адзервянела старая пані. Нават думкі спыніліся. Вочы яе напалову зачыніліся і перасталі міргаць, уставіўшыся ў нейкі пункт.

Перапалоханая Наталя падыйшла да яе і ціха кранулася за руку.

— Пані!

Пані не паварушылася.

— Пані!

Яна паволі ўзьняла на дзяўчыну вочы і ціха прамовіла:

— Божа! як пуста і цесна на сьвеце!

І зноў змоўкла.

Пакаёўка пазірала на яе і ня ведала, што ёй рабіць.

Потым зноў як-бы да сябе самой казала пані:

— Мае дубочкі, слаўныя, мілыя дубы! Я была маленькаю, а яны былі, як вежы, і ніколечкі не зьмяніліся за мой век... Мяне ня будзе, а яны будуць стаяць тут яшчэ соткі гадоў... Але не... не: пасьсякаюць і іх!

Зноў задумалася пані.

Наталя пужліва пазірала на старую.

— Ох, матачкі! Яна-ж мусі-быць звар'яцела, бедная!— думала Наталя.

— Усё загіне, усё зьнішчыцца,—ціха да сябе самое казала пані. Яна зноў сьціхла, як-бы ўпаўшы ў нейкі сон.

— А Грыша дзе?

— Гу! гу!—адказалі ёй гарматы.

Наталя паціхеньку выйшла перад гэтым.

Грыша пры першых гуках гармат пабег у сад. Ён выбраў зацішнае месца ў густым вішняку, стаяў і слухаў, як бухалі гарматы і як аклікалася ім патрывожанае іх водгульлем поле з глыбокімі ярамі. Гарматы стаялі дзесь блізка, вярсты чатыры—ня болей. Самая блізкая адгэтуль батарэя страляла тройкамі.

— Гух-гух-гух!—цяжка стагнала яна.

Крыху пачакаўшы, дзесь далей, гэтым тром стрэлам аклікаліся па чарзе другія тры стрэлы, але шмат глушэй, слабей і больш каротка:

— Ву! ву! ву!

Гэта былі выбухі снарадаў.

Было страшна, нязвычайна страшна, асабліва спачатку. Нейкая моц, грозная сіла ўрывалася ў душу і заглушала ў

ёй яе звычайныя інтарэсы і разам з гэтым знаходзіла ў ёй водгульле.

Грыша першы раз чуў так блізка гарматы і захапляўся іх грознаю музыкаю.

Грыша быў хлопец малады, гадоў восемнаццаць, прыгожы, высокага росту, крэпкага складу. Часова ён змушан быў пакінуць унівэрсытэт, ня хочучы аставацца ў стане немцаў. Немцы тады пагражалі Харкаву, дзе Грыша быў студэнтам. Ня так даўно ён прыехаў сюды да бабкі. Рэволюцыя моцна захапіла Грышу, і ён прыймаў самы дзейны, самы жывы ў ёй удзел. Жывучы ў вёсцы, ён быў сэкратаром і народу ня цураўся. На грунцё захапленьня рэволюцыяй у яго нават былі непаразуменьні з сваякамі.

І вось, калі нядаўна забілі яго цётку і яшчэ адну сваячку з боку бабкі, то старая пані казала яму:

— Каму ты, Грыша, спрыяеш? ворагам сваім. Ну, каму, скажы, патрэбна сьмерць іх? Навошта гэта кроў?

Грыша маўчаў.

— Калі ты,—нападала на яго старая пані,—ідзеш з імі ў адну ногу, то ты і сам сукосна прыймаеш удзел у гэтых забойствах.

— Ах, бабуня! калі находзіць навальніца, то яна не разьбірае, дзе палын горкі і дзе пшаніца. Такі ўжо яе закон. Рэволюцыя—тая-ж самая навальніца. Хто вінаваты? Ніхто і ўсе.

— Я не разумею цябе, Грыша!—кіпяцілася старая пані:—як можаш ты гаварыць так? Забілі бяс сэнсу, бяз усякае патрэбы яго бабку, цётку, а ён кажа: Ніхто не вінаваты і ўсе вінаваты! І чаму ўсе? Тады і я ў гэтым вінавата?

— Так, бабуня, вінаваты і вы.

— Можа ты і вельмі адукован, але ў нашы часы так не разважалі студэнты,—прамовіла гнеўна бабка:—дагаварыцца да такой недарэчнасьці!

— Вось вы, бабуня, моліцеся богу...

— У тым і ўсё няшчасьце, што вы бога забылі!—перабіла ўнука старая пані.

— Бог за грахі аднаго раданачальніка клаў прakляцьце на ўвесь яго род, бабуня.

— Ты—вырадак, Грыша! Значыцца, будзе справядліва, калі і табе ў бок засуне вілы які-небудзь Міхалап ці які там Пракоп, з-за якіх ты так крыжуешся?

— Ня ведаю, бабуня, ці справядліва гэта, але што так можа ня стацца, то за гэта нельга паручыцца: усё можа быць.

Старая пані зірнула на ўнука, і сэрца яе пачула да яго нейкую жаласьць. Каб прыпыніць гэту размову, яна пачала плакаць аб нябожчыках і аб самой сабе.

Грыша так захапіўся водгульлем недалёкага бою, што не замеціў, як да яго падыйшла Наталя.

— Грыша!—з нязвычайнаю трывогаю ў голасе аклікнула яго дзяўчына.

Студэнт здрыгануўся, зірнуўшы на яе. Грыша быў моцна зражаны яе відам. Наталя была бледная, перапалоханая.

— Што з табою, Наташа?

— Уцякайце, хавайцеся, Грыша!

Студэнт яшчэ больш перапалохаўся. Ён нічога не разумеў і пужліва пазіраў на дзяўчыну, у яе ясныя вочы, у якіх адбіваўся страх і трывога.

— Уцякайце, уцякайце, Грыша, і чым хутчэй, тым лепей, бо вас хочуць забіць.

Студэнт, пачуўшы апошнія словы, задрыжаў.

— Зашто-ж забіваць, Наташа?—апаўшым, прарываным голасам, калоцячыся ад нейкага страху, прамовіў Грыша.

— Ну, я-ж сама чула. За вамі сочаць. Кажуць, вы нейкія знакі падаіцё немцам. Уцякайце!—ціха, у паўголаса казала Наташа і трасла студэнта за руку.

Грыша памяртвеў і стаяў, як-бы яго аглушылі абухам. Рукі і ногі яго трасьліся, сэрца заныла.

— Што-ж мне рабіць, Наташа?—як перапалоханае дзіця, пытаў студэнт, трымаючыся за руку дзяўчыны.

— Ідзеце куды-небудзь. Схавайцеся хоць на дзень, хоць на гэты момант... Пойдзем!

Наталя ўзяла яго за руку. Ён паслушна пайшоў за ёю.

У гэты час на грэблю з горкі спускаліся тры коньнікі. Яны галопам праімчаліся па грэблі, падняліся на горку, праскакалі вуліцаю каля яру і спыніліся на выгане, дзе стаяла сялянская грамада, якраз напроціў панскага дому.

Коньнікі пазлазілі з сёдзел.

— Таварышы!—зьвярнуўся адзін з іх да сялян;—нямецкая буржуазія прыйшла сюды для падтрыманьня расейскай буржуазіі. Яна хоча зьнішчыць нашу рабоча-сялянскую ўладу, вярнуць правы земляўласьнікам, каб на нашу шыю пасадзіць зноў пана. На Ўкраіне ўлада перайшла к царскаму генэралу Скарападзкаму пры дапамозе немцаў. Цяпер яны забралі наш горад. Калі мы пусьцім іх далей, то памятайце: за імі прыдзе пан, прыстаў, вураднік і нагайка. Паны зноў сядуць па сваіх маёнтках і будуць зноў заводзіць свае панскія старыя парадкі і законы, а за нарушэньне іх дваранскіх правоў, за іх раз-

бураныя маёнткі будуць арыштоўваць вас і саджаць у вастрогі. Не дапусьцім-жа гэтага! Нам няма на каго спадзявацца. Мы самі павінны даць адпор нашым ворагам. Мы, сяляне і рабочыя, не дапусьцім паноў-дармаедаў! Далоў контр-рэволюцыю! Таварышы! Таварышы-чырвонагвардыйцы стаяць на пазыцыях з вінтоўкамі, гатовыя палажыць свае галавы за вас. Яны чакаюць ад вас падтрыманьня. Яны паслалі нас к вам сказаць, што ім трэба дапамога. Таварышы! Наша ўлада, нашы правы ў нашых руках, але іх хочуць вырваць ад нас. Падтрымайце-ж нас у змаганьні з контр-рэволюцыяй, падтрымайце ўласную справу! Хіба-ж вы захочаце зноў стаць нявольнікамі і пакорна прасунеце шыю ў панскае ярмо? Хто ўмее страляць, а сярод вас ёсьць многа салдат, ідзеце ў нашы рады! Бярэце вінтоўкі, ідзеце на пазыцыі, бо вораг—на парозе вашых хат. Далоў гвалтоўнікаў! Няхай жыве рабоча-сялянская ўлада!

Сярод сялян узбудзіўся нязвычайны рух, абурэньне. У іх вачох загарэўся агонь помсты, абудзілася стыхійная сіла, гатовая зьнесьці ўсё з свае дарогі.

— Даць помач!—крыкнуў хтось з грамады.

— Даць! даць!—пранеслася бура галасоў.

— Хто йдзе, станавіся сюды!—заглушаючы шум натоўпу, крыкнуў Ільлюха Бліноў, і сам выскачыў на прагал. У нямецкую вайну ён камандаваў узводам і быў заслужаным старшым вунцер-афіцэрам.

— Рота, ка мне!—крыкнуў ён зноў, як ротны камандзір, і раставіў рукі, даючы знак, каб рота зьбіралася.

Адзін за другім, а то і цэлаю грамадою павалілі да яго ахвотнікі. Праз мінюту ваяк набралося на паўроты.

Мобілізацыя прайшла борзда.

— Дзякую вам, таварышы!—кланяўся ім прамоўца.

— І паніча забраць з сабою! Няхай пакажа на дзеле, а не языком, што ён за народ стаіць.

— Забраць, забраць!—загрымелі ваякі.

## III.

Другая вестка ў доме старой пані згусьціла яшчэ больш і без таго напружанае становішча.

Чуць толькі вайшоў Грыша з Наталяй у дом, не пасьпеўшы нават абсудзіць з бабкаю, што рабіць, як з суседняе вёскі, дзе жыў іх сваяк, адстаўны ротмістр, ім далі знаць, што два дні таму назад быў забіты родны дзядзька Грышы, брат яго мацеры.

— Божая кара нав'сла над нашым домам,—бледная, як сьмерць, сказала старая пані:—о, божа, божа!—стагнала яна і ламала рукі.

І Грыша быў, як труп. Гэта вестка яшчэ больш падкрэсьлівала няпэўнасьць цяперашняга часу, і тая небясьпека, якая пагражала яго ўласнаму жыцьцю, станавілася больш значнаю, больш рэальнаю. Свайго дзядзьку Сяргея Грыша вельмі добра помніў і любіў яго. Дзядзя Сяргей быў земскім доктарам, любіў просты люд і служыў яму чэсна. Праўда, забілі яго зусім выпадкова. Гэта сьмерць зрабіла цяжкае ўражаньне на Грышу. І калі сьпярша ён не згаджаўся сыйсьці адгэтуль на некаторы час і схавацца, то цяпер у яго было адно толькі жаданьне, адна думка: уцякаць, уцякаць ва што бы то ні стала.

На скорую руку ён адзеўся, захапіў ручны чамаданчык, некалькі кніг, яды на дарогу і, разьвітаўшыся з бабкаю, пакіраваўся ў сад другім ходам.

Наталя йшла за ім, праводзячы яго з дому. Студэнт на момант прыпыніўся, глянуў на Наталю.

— Ну, Наташа, прашчай!

Узяў яе за руку, паглядзеў ёй у вочы.

— Добрае тваё сэрца, Наташа. Ня ведаю чаму, але мне так шкода цябе, як нікога на сьвеце. Я гляджу на цябе, як на сястру.

І крэпка пацалаваў яе руку.

Дзяўчына ад нечаканасьці зусім замяшалася. Твар яе заліўся яркім румянцам. Потым яна заплакала ці ад таго, што ён пацалаваў ёй у руку, ці шкода стала хлопца, ці з другой прычыны. А ён ужо схадзіў з балькону ў сад.

У гэты самы час к панскаму дому падыходзілі тры самамобілізованыя сяляне. Двое другіх стаялі за кустамі язьміну на тэй дарожцы, па якой трэба было прайсьці студэнту. Яны выйшлі яму насустрэч. Гэта былі яго знаёмыя хлопцы, з якімі ён хадзіў на сходкі. Але цяпер яны былі зусім не такія, якімі ён іх ведаў звычайна.

Сур'ёзна і дзелавіта аб'явілі яму волю народу і вярнулі яго назад. У панскім доме спаткалі яшчэ трох дзяцюкоў і ў шасьцярых выйшлі на вуліцу. Там іх чакала цэлая грамада людзей, гатовых ісьці на пазыцыі.

Грышу паказалася, што на яго зірнулі варожа і падазрэнна. На душы ў яго было цяжка, усё роўна як-бы яго вялі на сьмерць.

— Ну, айда!—скамандаваў Ільлюха.

— Сьмерць буржуям!

— Далоў контр-рэволюцыю!

Шэрая маса заварушылася і пацягнулася, падымаючы пыл, у бок возера.

Хтось успомніў старую салдацкую песьню:

„Дружно, ребята, в поход собирайся,
Бери сухарей и белья для себя!“

— Добра, дзеткі, задайце немцу, каб помнілі доўга, акаянныя!—казаў дзед Патап, праводзячы ваяк.

Мінулі грэблю, падняліся на ўзгорок. Уперадзе, крыху лявей, стаяў лясок, пераважна дубовы. Ён быў яшчэ бяз лісьцяў, толькі кустоўнік дзе-ня-дзе пачынаў выпускаць сьвежую зелень.

Сонца стаяла ўжо на поўдзені. З узгорку былі добра відаць далёкія і блізкія вёскі, вежы цэркваў і цэлыя рады ветракоў. У прыродзе было так слаўна! З кожнае лапінкі зямлі прабівалася новае жыцьцё, ціхае, лагоднае. Прыветна пазіралі многадумныя, сьветлавата-сінія далі, адзінокія ракіты, раскіданыя там-сям на дарозе. А сама гэта дарога! Мілая, слаўная! яна бегла кудысь далёка адгэтуль і клікала з сабою ў новыя, спакойныя краіны, дзе няма гэтае буры, сьмерці, дзе ня чутно грому гармат.

Грыша йшоў маўклівы, пануры, адчуваючы страшнае адзіноцтва. Колькі разоў азірнуўся назад, украдкам, як злодзей. Іх пасада, роўная дарожка, высаджаная ліпамі, высокія, многавяковыя дубы пазіралі, як здавалася студэнту, тужліва і ўспагадна. А людзі, што йшлі з ім поруч, цяпер уяўляліся яму чужымі, варожымі. Яму страшна было ў кампаніі з імі.

А што, калі яны выведуць яго ў гэты лясок і застрэляць? Хіба гэта для іх трудна? Забілі-ж яго дзядзьку.

Яшчэ большая адзінота агортвала яго душу.

Чым бліжэй падыходзіў ён да пазыцыі, тым мацней валадала ім думка адстаць, схавацца і ўцячы.

Яму было вельмі няпрыемна—і ён гэта тлумачыў сабе, як нядобры знак,—што яго намеры выйсьці з дому незаметна скончыліся няўдала. Яшчэ добра тое, што ён знайшоў, што адказаць, калі запыталі яго, куды ён выбраўся. А ён сказаў, што йдзе на пазыцыі сам па добрай волe, каб рабіць раненым перавязкі. У вёсцы ведалі, што ён вучыцца на доктара, і такі яго адказ здаволіў і запакоіў найбольш заядлых непрыяцеляў.

Тымчасам людзкая грамада павярнула з дарогі ў бок лесу. Каля саменькага лесу павівалася вузенькая, адпачыўшая за зіму ад людзкіх ног сьцежачка. Вярсты паўтары бегла яна поруч з лесам, каб потым абагнуць другі яго край і за-

раз-жа спусьціцца ў глыбозны і шырачэзны яр, густа заросшы дубняком, дзікімі грушамі і хмелем.

Грыша прагным поглядам азіраў гэты яр і абмяркоўваў плян уцяканьня. Баязьліва і скоса кідаў вачамі на грамаду. Яму здавалася, што яна чытае ў ім затаеныя думкі яго. Але калі ня зробіць ён гэтага тут, то там, на чыстым полі, за ярам, ужо гэтага ніяк ня зробіш: там чужое сяло, там войска і строгі надзор за кожным. Толькі ў гэтым яры зьбегчы: ён цягнецца на дзесяткі вёрст і злучаецца з цэлаю сеткаю другіх яроў.

Лясок ужо аставаўся ззаду. Цяпер сьцежачка была па касагору, спускаючыся ў яр. Па другі бок яру ўжо відаць былі ветракі Рудаўца. Дзесь з боку ад вёскі яшчэ больш драпежна бухалі гарматы. Сяляне-салдаты прыціхлі і сталі сур'ёзны. Грыша пазіраў на іх і дзівіўся: іх ніхто ня гнаў, яны пайшлі самі, што-ж прымушала іх пайсьці? Сазнаньне доўгу? Свае асабовыя інтарэсы? Ён ніяк ня мог зразумець гэтага і пачуваўся тут лішнім і непатрэбным. Ён чуў, што на яго насунулася нейкая навала, гатовая сьцерці яго, як лёгкую пылінку.

Як толькі спусьціліся ў яр, ён зараз-жа азірнуўся, як профэсіянальны злодзей, зірнуў на салдат, зьмерыў вокам кусты, цяпер ён быў апошнім, за ім нікога ня было, прыгнуўся і шуснуў у яр, у кусты, прабег колькі крокаў, стараючыся не рабіць шуму, забіраючы ў гушчар і кіруючыся ў тое месца, дзе яр разгаліньваўся на многа яроў. Тут ён прыпыніўся і прыслухаўся. Нікога ня было. Толькі гарматы з кароткімі перарывамі бухалі й бухалі, пасылаючы ў горад снарады, ды дзесь правей вёскі тахкалі кулямёты.

І ўсё-ж самапачуваньне ў Грышы было няпрыемнае, бо ён выяўна цяпер стаў на шлях здрады. Нейкае нутраное пачуцьцё падказвала яму, што ён зрабіў нядобрае. Нават быў такі момант, калі ён хацеў вярнуцца, каб далучыцца да сялян, але ён ня мог перамагчы ў сабе нейкага страху. Гэта вайна, гэта кроў, зьнішчэньне жывых форм жыцьця—навошта ўсё гэта?

І яму, як ніколі, захацелася жыць, і ніколі такім мілым не здавалася гэта жыцьцё, як цяпер?

Туляючыся між кустоў, як злодзей, як воўк, ён ішоў усё далей і далей. А гэта страшнае месца з кожным крокам кудысь адыходзіла ад яго й заціхала. Што-ж рабіць цяпер?

Трэба прабіцца да блізшае станцыі і калі ня можна вярнуцца ў Харкаў, то паехаць у які-небудзь горад, хоць-бы і ў Курск

Яшчэ з паўвярсты прайшоў ярам, агібаючы вялікім кругам сваю вёску.

Прыпыніўся, прыслухаўся. Было ціха. Толькі гарматы, бухаючы глушэй і далей, надаедна напаміналі яму аб тым, што ён ухіліўся ад агульна-грамадзянскае справы, што карцела яму нейкім бясслоўным дакорам.

Асьцярожна прабіраючыся па сухіх леташніх лісьцях між разгатых кустоў, Грыша папрабаваў падняцца ўгору па схілу яру, каб выйсьці наверх, бо і туляцца ўвесь час у яры таксама небясьпечна: лёгка можа паказацца, што ён—асоба падазрэнная. Выйшаў. Перад ім ляжала пустое поле. Недалёка ад яру бегла дарога, то падымаючыся на ўзгоркі, то хаваючыся ў лагчынах. Крыху паразважаў. Хацеў ужо пакіравацца на дарогу, аж зірк—на горку ў галоп падымалася група коньнікаў. То быў разьезд. Грыша кулём пакаціўся ў яр. Ён моцна перапалохаўся і толькі тагды пачуўся спакайней, калі шырокім кругам абагнуў сяло Малыя Крукі і выйшаў на Рыльскі шлях. Вось толькі абмінуць Вялікія Крукі, што стаялі ў пяцёх вярстох ад яго вёскі. Але абмінуць гэта сяло было ня так лёгка: тут па адзін і па другі бок ляжалі шырокія балоціны, праз якія прайсьці было цяжка. Не даходзячы да сяла на тры чвэрці вярсты, Грыша спаткаў кабету. Разьмінуўшыся з ёю і прайшоўшы яшчэ дзесятак-другі крокаў, Грыша зьвярнуў з дарогі.

Кабета, як толькі з ім разьмінулася, прыпынілася і доўга ўзіралася ў незнаёмага паніча. Відаць, яе ўзялі нейкія падазрэнныя думкі. Яна шпарка павярнула назад, агародамі прайшла ў двор. Грыша не заўважыў гэтага і таксама йшоў борзда, каб абыйсьці гэты кут і зноў выйсьці на дарогу, дзе, як яму думалася, ён будзе сьмел.

Ішоў ён і баяўся нават падняць вочы і азірнуцца. Вось зараз пройдзе палавіну небясьпечнае дарогі. Ён ішоў, прыгнуўшы галаву. Яму здавалася, што за ім сачаць. Украдкам павярнуў назад галаву і здрыгануўся: два чалавекі выйшлі з-за клуні і пазіралі на яго. Ён несьвядома прыбавіў ходу. Зірнуў яшчэ раз назад—адзін чалавек махнуў рукою, даючы яму знак спыніцца. Грыша прыкінуўся, што не замеціў гэтага, а сэрца ў ім застукала мацней.

— Пастой! пастой!—пачуў ён за сабою.

Грыша, не аглядаючыся назад, пусьціўся наўцекі.

За ім кінуліся і сяляне.

— Стой! стой ты, кажуць табе!

Хрыплыя галасы цяпер сталі бліжэй. Грыша, як зьвер, за якім робіцца пагоня, бег, нічога не разважаючы; адно ён

толькі чуў, што скора павінна быць нейкая разьвязка. Упярадзе на пярэймы беглі яшчэ тры сяляне.

— Дзяржы яго! дзяржы!—гукалі ззаду.

Тры чалавекі перасякалі яму дарогу. Грыша выбіваўся з сілы, цяжка дыхаў, сэрца калацілася моцна.

Не дабягаючы сажняў пяць да пярэдніх, Грыша крута павярнуў у двор.

— Лаві! ня пускай!

Высокі, рыжы, сярэдніх гадоў мужык загараджваў студэнту дарогу.

Грыша з разгону штурхануў рыжага.

Рыжы паляцеў убок на некалькі крокаў, але ў гэты-ж міг нешта вострае і цяжкое чарахнула Грышу ў галаву каля вуха. Грыша пачуў, як бы яго апякло агнём На твар і за каўнер палілася кроў. Ён зрабіў яшчэ колькі крокаў. Ногі яго аслаблі, і ён тварам упаў на зямлю, а вочы яго заслаліся нейкім туманом.

Першы дабег да яго рыжы. Высока ўскінуўшы дручок, рыжы з усяе сілы хваціў Грышу па сьпіне.

У захапленьні дзікага абурэньня рыжы крычаў:

— Бі шпіёна!!!

Гэты крык як-бы прарваў нейкую заслону, якая адгароджвае чалавека ад зьвера. Набегшы натоўп стаў біць студэнта, чым папала, мясіць і таптаць яго нагамі, бо тут ня было месца ні розуму ні пачуцьцю чалавека.

Бледны, акрываўлены, зьбіты і ў сінякох Грыша ляжаў нярухома і толькі цяпер пачыналі больш чулыя душы прыходзіць да памяці; у агуле-ж натоўп быў настроен варожа. Нават дзеці-падросткі пацяшаліся відам акрываўленага незнаёмага хлопца і рабілі жорсткія ўвагі, і злыя ўсьмешкі крывілі ім губы.

І толькі цяпер пачуліся пытаньні:

— Хто-ж гэта?

Толькі цяпер пачуліся развважаньні, якая віна чалавека, якога з такім акамяненьнем нядаўна білі.

— Глядзі, глядзіі, ён яшчэ жывы!

Грыша застагнаў і павярнуўся. Узьняўшы галаву, ён абвёў поглядам натоўп і ціха сказаў:

— Браткі, за што?.. Не забівайце мяне. Мяне яшчэ вылечаць, я яшчэ буду жыць.

— Стой, рабяты!—пачуўся чыйся ўладарны голас, і шырокія плечы, адціскаючы народ, паказаліся з натоўпу.

— Распытаць яго трэба харашэнька ды пагглядзець дакумэнты,—казалі шырокія плечы.

— Ты хто такі ёсьць?

Грыша падняў памутнелыя вочы, ацёкшыя крывёю і сказаў:

— Студэнт Заплацінскі. Старая пані—мая бабка.

— А чаго ты прышоў сюды?

— Я йшоў на станцыю.

— А чаго ўцякаў, калі табе казалі спыніцца?

— Баяўся...

— Баяўся!—працягнулі шырокія плечы:—значыць, ёсьць прычына баяцца. Паказвай дакумант.

Колькі моманту Грыша стаяў, як-бы нічога не разумеючы.

— Дакумант твой дзе?—насядалі шырокія плечы.

Грыша дзіка азірнуўся. Відаць, ён поглядам шукаў свой чамаданчык, але яго тут ня было. Пачаў аглядаць кішэні. Рукі яго трасьліся, ногі не стаялі, падгібаліся. Дакуманты ніяк не знайходзіліся.

— Якія там у шпіёна дакуманты?—крычаў хтось з натоўпу.

— Га, і дакуманту няма!—зларадна крычаў рыжы.

Але дакумант знайшоўся.

Разглядалі яго доўга.

— Чаму пячаць не на месцы?—прыдзіраўся чалавек з шырокімі плячамі.

Студэнт маўчаў.

— Вядзі яго, рабяты, на зьежджую!

Хістаючыся, паплёўся Грыша. Разам з ім зрушыў і натоўп.

— Браткі, родныя!—прасіўся Грыша:—што злога зрабіў вам? Пусьцеце мяне.

— Там відаць будзе, што з табою рабіць.

Узышлі на горку. Недалёка стаяла цэркаў, а каля яе быў роўны выган. На выгане таксама былі людзі. У аднэй кучцы стаяў каваль Мамай і дзед Патап. Яны былі людзі набожныя і прыйшлі сюды ў цэркаў. Таксама мелася на ўвазе і коней сваіх дальш адвесьці на ўсякі выпадак.

З натоўпу, які вёў Грышу, хтось аклікнуў каваля і дзеда Патапа.

Мамай і дзед Патап падыйшлі. Натоўп прыпыніўся.

— Ваш гэта „барчук?“—спыталі каваля.

Каваль паўглядаўся.

— Здаецца, як-бы наш,—адказаў каваль.

Промень надзеі асьвятліў душу студэнта.

— А ты, стары, прызнаеш яго?

Дзед Патап кінуў на Грышу пануры погляд, крыху памяўся і цьвёрда прамоваў:

— Не, ня наш. Наш з рабятамі на немца пайшоў.

Заныла сэрца ў Грышы.

— Дзядок, дзед Патап!—прамовіў ён:—нашто вы грэх на душу бярыцё? Хіба-ж вы ня ведаеце мяне? Дзед Патап! дзядзя Сьцяпан!—зварачаўся Грыша да сваіх сялян.

— Ня ведаю, ня ведаю цябе, хто ты ёсьць,—упарта казаў дзед Патап.

На бяду прыехаў разьезд. Колькі сялян гаварылі з ім, паказваючы на Грышу.

— Дзе ён?—пытаў начальнік разьезду, пад'яжджаючы бліжай.

— А вось ён самы!

Натоўп расступіўся.

Грыша зірнуў у вочы начальніку разьезду. Жорсткія, цьвёрдыя, бязжаласныя вочы.

— А, гэты!—прамовіў начальнік.

— Ну, хлопцы, злазь з коней.

Пазлазілі.

— Ступай за намі!

Анямеўшы ад страху, бледны, як палатно, паплёўся Грыша з салдатамі. Ён быў пануры, маўклівы. Ні слова просьбы, ні слова жаласьці.

Чарада падросткаў і дзяцей пабегла за ім. Сярдзіта палайваючыся, туды-ж пасунуліся і мужчыны. Ззаду, стоячы на выгане, галасілі дзьве ці тры кабеты.

Мінюты праз дзьве схаваліся за горкаю. Яшчэ праз мінюту пачуліся ні то чатыры, ні то пяць стрэлаў.

Салдаты вярнуліся, а Грышы з імі ўжо ня было.

Тарас Гушча.

# Праца.

Зірні,
Як вакол
Процьма кол
Нясупынна,
Стройна, чынна
Ўюць кругі
Чарадою.
Шасьцярні
Мітусяцца.
Імчацца
Стралою
Пасы.
Галасы
Рабочых
Пры рабоце
Ў траскатні,
Ў бразкатні
Ня чутны—
Мруць яны
Ў духаце,
Ў стоме, ў поце.
Лезе ў вочы
Пыл-смурод.
Учарод,
Як зьвясьці
На пагляд—
Упярод
І назад,
Упадрад
Шэсьць радоў
Панахіленых сьпін.
Як адзін,
Колькі сот
Чалавек
За парухам
Машын
З заміраньнем
Дыханьня

Сачаць...
Малаты—
Тук-грук
Тра-а-ты!
Грукацяць·
Сюд-тут—
З кута ў кут
Прабяжыць,
Паглядзіць,
Майстар-цэх;
Яго бег
У адно
Валакно
Ніжа, ў‘е
Нясустрыманы рух.
Ззы-ы-ух!
Грыы-ры!
Шасьцярні,
Мянтухі...
Навакол
Процьма кол
Ў‘юць кругі.
Іх бягі
Сачаць сотні вачэй;
Сотні-ж рук
Ладзяць стук
У гармонь...
І гартуе агонь
Грозных Домнаў-пячэй
Працы пільнай вытвор,
Яе гмах, яе спор!..

Капыль, 15-VI—23 г.

Цішка Гартны.

# Зьлітасьць.

Я ляжу, як у шоўку, у сьвежай траве,
І гляджу у бязоднае неба, у далі,
А разьвістыя думкі снуюць ў галаве
І плятуць сеткі мар, што у сэрца запалі,
І кіпіць пачуцьцё, як бурлівыя хвалі.

Матылькі нада мною трасуцца-снуюць,
З сьцебялькоў на лісточкі гасьцінна садзяцца,
Паяскі свайго лёту мінютныя ткуць
І вось-вось прагуць скрыдламі твару кратацца,
Каб са мною, прышэльцам да іх, прывітацца.

Мне пяюць незгамонна, мне граюць наўкол
Перапёлкі, цвыркунчыкі, стрэлкі і восы,

стаў на дваццаць у тыл ворагу, нападаў на вайсковых хурманшчыкаў, выклікаючы гэтым спалох сярод значнай часткі цэлае арміі. За адвагу некалькі разоў хацелі яго павысіць у пасадзе, даць яму нагароду, але ён адмаўляўся, кажучы, што яму нічога ня трэба.

---

Была раніца ў пачатку жніўня. За паўвярсты ўперад вёскі Зембраў на Сакалоўскай шашы па той бок Бугу ламаным ланцужком цягнуцца часовыя адзіночкі-акопчыкі. У кожнай ямцы сядзіць па чырвонаармейцу. Стомленыя двухднёваю жорсткаю бойкаю за гэтую вёску, яны сьпяць. Толькі дасьледчыкі ўжо ўсталі і пайшлі на дагляд у лес перад пазыцыяй. Праз некалькі хвілін, пасьля таго як яны схаваліся ў лесе, адтуль выскачыла назад чалавек пяць чырвонаармейцаў, якія былі ў палявой варце.

— Таварышы! Польская кавалерыя!—закрычалі яны.

Не пасьпела заварушыцца наша цэп у акопах, як з лесу выскачыў адзін, другі, трэці эскадрон і лаваю памчаліся на акопы. Увесь батальён, быўшы ў акопах, пачаў зьбягацца ў адно месца. Але часу было мала: батальён ня мог самкнуцца, а конікі былі ўжо вот-вот на даўжыню пікі. Яшчэ адзін момант, і пачалася-б сечка шаблямі разьяднаных чырвонаармейцаў... Раптам в боку лесу трэснуў залп, і ў першым эскадроне грукнуліся вобземлю людзі, коні... Трэснула другі раз—і новая груда цел валіцца на зямлю. У эскадроне паднялася суматоха, на яго наляцеў другі эскадрон. Тымчасам батальён пасьпеў сьціснуцца ў кулак і таксама залпам стаў паліваць коньнікаў.

Трэці эскадрон, прымеціўшы вышаўшых з лесу чырвоных дасьледчыкаў, так удала ссадзіўшых першы эскадрон, кінуўся на іх. Дасьледчыкі хутка схаваліся ў лес і з-за дрэў сустрэлі ляцеўшых на іх коньнікаў наймацнейшым агнём, будучы самы недасягны ім. Васіль-жа застаўся на полі: стоячы на калене, ён пушчаў адну за другою кулі ў напрамку першага эскадрону. Потым ён ускочыў на ногі і, затаіўшы дух, з бязьмернаю радасьцю і шчасьцем у вачох глядзеў, як зьвіваліся ў крывавы клубок абодва першыя эскадроны пад залпамі і кулямётамі чырвонаармейцаў.

— Таварыш, уцякай сюды!—крыкнулі яму з лесу.

Ён азірнуўся. Якраз на яго ўгалоп ляцела каля дзесяці коньнікаў. Хацеў ён кінуцца к лесу, але было ўжо надта позна...

Праз паўгадзіны ўсё на полі замоўкла. Разьведчыкі крануліся ўперад, каб выпаўняць сваё, так нечаканна затрыманае, заданьне. Сярод іх Васіля ўжо ня было.

Я. Неманскі.

## Ой, туга!

Журавінамі плача восень,
спавіла тугою абшар.
Я ня ведаю, можа здалося,—
але-ж моцна баліць душа.

Паціскае нешта на плечы,
бы калёсамі сумны ток.
А кастрычнік сэрца калечыць
пальцамі жоўтых кляновых лістоў.

Ой, туга! Хай ляціць з журавамі,
хай далёка, навек ляціць.
Нас жыцьцё віратлівае вабіць,
разам з намі пяе ў трысьці.—

Разьвівайся, туман, дыванамі,
апрані сьцюдзёным крылом.
Наша доля павінна быць з намі,
бо дагэтуль яе ня было.

Дзераза—пасьцілайся пад ногі,
вецер—сып лістоту далоў.
Калі песьня журбу не прагоніць,
не адкіне яе далонь.

Каля возера, пушчы з'імшалай
я на пасту калісьці ганяў.
Мне здавалася—толькі шамаць
прыбалотны здолен хмызьняк.

А цяперака—сьпевы крыніцай
разьліваюцца ўночы і днём...
Журавінныя сьлёзы, званіце
і зьнікайце у твань, на дно!..

**У. Дубоўка.**

# Пры рабоце.

Ад накавальні зык за зыкам
Пушчае молат гулка ўдаль,
І аддае красой музыкі
Струна—распаленая сталь;

А іскры сыплюць, залацяцца,
Нібыта мар надзейны рой—
Ёсьць воку чым зачаравацца,
А вуха цешыцца ігрой.

У змроку ночы, ясным раньнем
Шугае полымя гарна,
Ды чутна меху завываньне,
Як зык далёкага звана.

Ад працы мне не адарвацца:
Прывычка, рупіць; а рука
З нядоляй здолее змагацца,
Як з стальлю ўзмахі малатка.

**А. Гурло.**

19/IX—23 г.

# Гымн барацьбіцкі.

Наш жар і жаданьні—агонь барацьбы,
А наша імкненьне—празрыстыя далі...
Даволі!—мы больш—не рабы, не рабы: —
Мы былі рабамі, а вольнымі сталі...

Кружылісь мы доўга ў віхуры жыцьця,
У нас моц гартавала стыхія і хвалі...
Мы лёс адкапалі з вякоў нябыцьця,
Каб шчасьцем і воляй дні ўсюды зіялі...

Ідзём мы наперад скрозь попел і дым,
Скрозь мукі пакуты і стогн і цярпеньне;
Мы родзім надзею, бадзёрым уздым,
Каб потым жыць вечна пад бляскам праменьняў.

Жыцьця мы свайго кавалі, ўладары,
Мы гонім мінулага цёмныя цені...
Усё—мы і ўсё—нашае працы дары!
Наш кліч ўсемагутны, наш кліч—вызваленьне!..

**А. Гурло.**

# Наша сьцежачка.

Уе гнязьдзечачка птушка-крошачка
Там, дзе куст хіснуў, куст зялёненькі;
Між травы снуе срэбра-мошачка,
Між квятоў матыль вельмі ёменькі.

А вунь з болечкі той бярозачкі
Па кары уніз пакаціліся
Кроплі-кроў яе, быццам сьлёзачкі,
І за пнём, у чвыр моўчкі ўліліся.

Вунь дыван ляжыць аксамітавы
Руні чысьценькай... яго межачка,
Сонцам змытая і аблітая,
Уся у кветачках—наша сьцежачка!

**Аркадзь Моркаўка.**

# Працуй.

Расьцяла неба зорнае
Шату сваю ўгары,
А тут вось глеба чорная—
Працуй штодзень, твары.

Працуй, пакуль ня зморany
Агонь тваёй душы,
Пакуль загон ня ўзораны
Сусьветнае глушы.

А там... там радасьць вечная
На шэрагі вякоў...
Дык дзякуй тым сардэчнае,
Хто рваў мэтал акоў!

**Аркадзь Моркаўка.**

# Закутаму.

*Ахвярую братом працоўным, што дагэтуль пад панскай няволяй.*

Заўжды вер! Толькі веры ў сябе ня губляй,
Ў перамогу сьвятла над імглою.
Толькі сілы ў душы ты сваёй захавай,
Каб змагацца з нядоляй ліхою...

Хай ня ласкаў твой кут, на табе многа пут,—
Калі прагнеш ты сонца ды волі,
Калі хочаш ты жыць, дык табе не забыць
Шчасных дзён, пражытых, ніколі.

Хай ты зломіш сябе, хай растопіш ў жальбе,
Ў шкадаваньні вясновыя сілы...
Зноў надойдзе вясна і пакліча яна
Цябе з жудаснай гэтай магілы.

З гэтай цёмнай труны, дзе сьвятляныя сны,
Думкі волі зьнікаюць нясьмела,
Дзе халодная ймгла навакол залягла,
Дзе шчасьлівая песьня зьнямела.

Заіскрацца яны, тыя думкі вясны,
І памкнецца душа маладая
Вольным сьпевам пяяць, на прасторы лунаць
Пад чырвонымі сьцягамі мая...

Не саромся ты іх, гэтых думак жывых,
Ня глушы іх у сэрцы ніколі,—
Гэта—жыцьця закон, ён зьнішчае прыгон,
Ён прыводзіць да шчасьця, да волі.

Вер ў жыцьцё!—Не бядуй, што васеньняя ноч
Закавала цябе ланцугамі.
Сілы ў сэрцы зьбірай, каб прыгон гэты змоч—
І злучысь, вольны, з вольнымі намі!

19—14/X—23 г.

**Хмарка.**

# Чырвоны каляндар.

* * *

Наш год,
Наш вечны сонцакруг
Нанова сьвеж і молад.
Закуты Промэтэй—раскуты волат.

Наш год
З роду ў род
Уціснут быў у рамы багамазаў.
Блудны мніх красу яго замазаў
Пальцам брудным.

Наш год,
Як тычкі тыя,
Запоўнілі „сьвятыя“.
У дзікую бажніцу ўсіх народаў
Ваал ператварыў
І дні і годы.

* * *

Устрахануўся год—збунтованы асілак,—
Ён скінуў з сваіх плеч агідны пыл вякоў.
Бунтарскі дух рабоў зварушыў яго сілы,
Пайшоў ён пад штандар паўстанцам-батраком.

Год-сфінкс надзеў шалом пажарышчных зарніцаў,
Узброіўся да ног стастрэльным пяруном,—
Пасыпаліся ў тхлань фальшывыя бажніцы,
І трызны цёмных дзён спаліліся агнём.

Наш адраджоны год, замест званоў, малітваў,
Сьпявае вольны гымн на ўвесь зямны абшар;
Ён трубіць на ўвесь сьвет да багатэрскіх бітваў,
Ён піша на сябе Чырвоны каляндар.

Паргаміны зіхцяць у казках гэроічных—
То летапісь баёў багом, царом на страх
Заве з турэмных крат пагудкаю стазычнай
Зьняволеных людзей у сонцасвветлы гмах.

У новае жыцьцё ідуць-плывуць народы,
Як зрушаны вулькан, як хвалі бурных вод.
Ня страшны на шляху каменьні-перашкоды:
У Будучыну йдуць, імкнуцца ў Новы Год.

## ДЗЕВЯТАЕ СТУДЗЕНЯ.

Пагрозна сталіца замоўкла.
Упарта заводы зьнямелі.
Бунтарскае, сьмелае вока
Яскравіла сьнежныя белі.

Дзевяты дзень студзеня ўраньне
Завіхрыў на вуліцах людам.
О,-страшнае будзе караньне—
Апрычнікі царскія ўсюды.

Рабочыя йшлі да палацаў—
Старыя, малыя і дзеці.
Мо' цар абароніць іх працу
У жудасны час ліхалецьця.

Ішлі да цара, як на споведзь,
Ратунку шукаць ад абманаў.
Тыран ім казаў свой адповедзь
На здрадніцкай мове тыранаў,—

То кулі былі, замест словаў.
Насіліся раненых стогны,
Быў Піцерскі сьнег размалёван
У колер крывавы, чырвоны.

На тысячы трупы лічылі
На памяць страшную патомству.
Народ упісаў злы учынак
Ў агнёвую летапісь помсты.

## МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ КАБЕТЫ.

*(8-е сакавіка).*

Ты— сьветлы дзень сусьветных працаўніц,
Аздоблены пажарам бліскавіцы,
Абрызганы сьпяваньнем барыкадным.
Вясновы восьмы дзень сакавіка
Праз процьму лет наперад пранікаў
Вяшчунскай постацьцю прынаднай.

Пайшла ў нябыт шматвекавая цьма,
Кабета вырвалася з-пад ярма,
У грозны час наперад быстра мчыцца.
У барацьбе нясе яна штандар,
Ідзе на сьмерць—за волю вольны дар,
У будаўніцтве мірным—будаўніца.

## РЭВОЛЮЦЫЯ ЛЮТАГА.

*(12-га сакавіка).*

Канец дынастыі Раманавай.
Ня можам жыць далей абманамі
Пад дзікасмаглымі тыранамі.

На фронце гінулі мільёнамі,
Па гарадох стагналі стогнамі,
Па вёсках—птухі жар-чырвоныя—

То—дзеці жудасных гранат.
Даволі біці брата брат!

Снарадамі шнуры завораны.
За што якое біцца з ворагам?
А хто ды з кім? О, гора, гора нам!

То-ж раб-працоўны б'е працоўнага,
Няволньік рэжа свайго роўнага,
У ланцугох усе закованы.

Для багачоў на сытны пір
Ідзе бядак у сьмерці вір.

Зачырванеўся Піцер сьцягамі,
Па вуліцах цягнулась цягамі
З бунтарскай слаўнаю адвагаю

Статысячная дэмонстрацыя.
„Гэй, прэч вайну! нам хлеба! працу нам!
Ня будзем з братам немцам драцца мы!

Багатай своры на карысьць,
Ня будзем беднага мы грызьць!

Гэй, прэч-далоў самадзяржавіе!"
Хоць змучаныя, але жвавыя.
На вуліцах стральба крывавая.

Салдат, рабочы люд з жандарамі
Спляліся. Волава зажарылі.
Пайшлі пажары за пажарамі.

То выбухнуў апошні бой.
І кончыў з славай наш гэрой.

Заварухнуліся гаротныя,
Паднялі сьпевы ўсе дрымотныя,
Ўсе гарады, куткі балотныя.

Гэй, ладзьце сьвята, ўсе сустрэчныя!
Сьпявайце песьні, папярэчныя!—
Загінуў цар навекі вечныя

І праваліўся трухлы трон.
Той дзень—адзін з сьвяточных дзён.

## ДЗЕНЬ ПАРЫСКАЙ КАМУНЫ.

*(18-га сакавіка).*

Жыве ў паданьнях сівых лет
Адгук Парыскае Камуны.
Яе каваў бунтар-поэт
На стогалосных сьпеўных струнах.

Чырвоназорны волі сказ
Крывёй рабочага упісан,
На памяць вечную для нас
У кнігу строгіх летапісцаў.

Забарыкадзіўся Парыж
Між стромкакаменных абшараў.
Дрыжаў багач, разбойны крыж
Ад слаўных дзеяў Камунараў.

А каты дзікія прыйшлі,—
Дзяцей, жанок, старых скрамсалі
Рабочых тысячы ляглі...
О, ганьба вечная Вэрсалю!

Ты задушыў тады Акцябр
Рукой разбойніцкай крывавай.
За вольніцу спрадвечны раб
Аддаў жыцьцё сваё на славу.

На ўзвыш Бастыліі наш Крэмль
Шалом чырвоны ўміг насуне,
Абшары волі заарэ
Для праўнукаў старой Камуны.

## ЛЕНСКІ РАСТРЭЛ.

*(4 (12) красавіка 1912 г.)*

Яшчэ адну крывавую расправу
Нарыхтавалі золата багі.
Стагнала стогнам дзікая дубрава,
Пужалі Лену водгукі з тайгі.

Замест яды, рабочым кулі далі:
Было забіта ў лесе да трохсот.
На сытны пір ваўкі прымчалі з даляў,
А крумкачы кагцістыя—з высот.

Дрыжалі з страху ціхія алені,
Ў палацах пышных п'янстваваў тыран.
Шумелі сумна хвалі срэбнай Лены,
Насілі скаргу ў вольны акіян.

Гэй, разгуляйся, бура, на прасторы.
Дрыжы, ўвесь сьвет,ад гучных навальніц!—
Паўстаў рабочы грозны, нібы мора,
Пажар сьцягоў, як водблескі зарніц.

## ПЕРШАЕ МАЯ.

І Май каштуе шмат ахвяр народам,
І ён крывёй працоўнага ахрышчан,
І ён зазорыць людзям з роду ў роды,
І ён акрылен сьцягамі з агнішчаў.

І Май абліт фантанам бурных клічаў,
І ён у будучыну мкнецца грозным лётам,
Трывожыць стары сьвет сваім аблічам,
Блішчыць вясной чырвоным самалётам.

У гымн адзін сусьвет людзей бяздольных
У гэты дзень да барацьбы імкнецца,
У гэты дзерь так хочацца раздольля
Нявольнікам суровых ліхалецьцяў.

У ліку дзён дзень вешні Першы Мая
Красуецца, бы сонца паміж хмараў.
Ён багачоў паўстаньнямі пужае,
Бяздольнікаў склікае пад штандары.

## МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МОЛАДЗІ.

(*2-ое верасьня*).

Дайце дарогу Зьмене Чырвонай.
Гэй, адступіся, сьвет забабонаў,
Шэптаў-замоў!
Сонечнай бурай, вогненай сілай
Богу старому рые магілу
Наш Камсамол.

Мчыцца па сьвету духам бязбожна,
Шлях свой знаходзіць на бездарожжы,
Мкнецца у даль.
Любіць паўстаньне, дужыцца рад ён,
Вольніцы воін, сын барыкадаў,
Бунтаў каваль.

Гэй, падымайце у вышку паходні
Ў дзень урачысты, дзень міжнародны,
Моладзі дзень!
Сьвет паднявольны зруш да змаганьня,
Ціхія далі ў бурнае раньне,
Ў чырвань адзень.

## ДЗЕНЬ УРАДЖАЮ.

Між сьвят агнёў,
Бароцьбаў і віхраў
Дзень Ураджаю—сьпеў між страляніны,
Найлепшая пабеда на прасторах.
Як пад курганам сьпіць наш вораг,
Араты—перш» волат у краіне.

І рыцар міру.
Рыцар тлустай глебы
Сьпявае песьні пры снапох у полі.
Нядаўна толькі кінуў дружку-стрэльбу:
На папялішчах будаваці трэба
Новую сялібу на раздольлі.

Сьпявайце песьні
Ў сьвята творчай працы!
То—сьвята Розуму,
То—сьвята адпачынку.
Хай кожны ў родным полі, ў роднай хаце
Падлічыць новае сваё багацьце
Пасьля мінулых царскіх злаучынкаў.

Мінулі дні
Нявольніцкай прынукі.
Абхопім неба самалётным гудам.
Праз радыё,
Электрыку,
Навуку
Здабудзем шчасьце для сябе, для ўнукаў
Пад Савецкім вагнязорным цудам.

## АКЦЯБР.

*7 лістапада (25-га кастрычніка) 1917 г.*

У лістападны дзень асеньні,
У дзень, спавіты туманамі,
Сяйбіт вясновага насеньня
Чырвоны сьцяг падняў над намі.

Паўстаньнем—вольніцай натхнёны,
Ён зьбіў з ног агідных катаў;
Штыком-агнём пісаў законы,
Сярпом і молатам пячатаў.

Старому сьвету яму вырыў,
У міг адзін стварыў стагодзьдзі,
Памчаўся ўверх—у зорны вырай,
Яскравіў гымнамі ў народзе.

Вяшчун-прарок пабедных клічаў
Кіруе Арміяй Чырвонай.
Зазіхаціць сваім аблічам—
Трухлее крыж, нямеюць звоны.

Стучыць у брамніцы сусьвету,
Грыміць праз радыё ў прасторах,
Хто неабуты-неадзеты,—
Віхром Акцябрскім люд віхорыць.

Вітаньні шле у далі-шыры
Праз агнявыя „аляльлюі“.
Дрыжаць сусьветныя банкіры—
Апошні баль яны балююць.

**Ясакар.**

Менск, 3/XI—23 г.

Л. І. Аксэльрод (Ортодокс).

# Курс лекцый па гістарычным матар'ялізьме*).

## Лекцыя II.

### Кароткі нарыс разьвіцьця філёзофска-гістарычнае думкі.

Кожная рэч, кожная зьява і кожная навука маюць сваю гісторыю. І каб дакладна зразумець рэч, зьяву ці навуку, канечна трэба пазнаёміцца з іх гісторыяй. Гісторыя кожнае навукі выясьняе запраўдны яе зьмест, а разам з гэтым раскрывае істоту тых поглядаў, якія павінна была перамагчы даная навука на шляху да ўласнага асталяваньня. Не пазнаёміўшыся з гэтымі поглядамі, нельга зразумець і істотнага зьместу навукі.

Філёзофія гісторыі, г. зн. тая галіна веды, якая займаецца выяўленьнем грамадзка-гістарычных законаў, мае сваю ўласную і з глыбокім зьместам гісторыю. Каб дасягнуць поўнага і ўсебаковага матар'ялістычнага разуменьня гісторыі, канечна трэба быць знаёмым з гістарычным разьвіцьцём філёзофіі гісторыі наогул, хаця-б і ў беглых нарысах. З гэтае прычыны, лічу патрэбным выкладзіць тут коратка і сьціста тыя асноўныя і галоўныя прынцыпы гістарычнага разьвіцьця філёзофіі гісторыі, якія маюць на мой погляд асабліва важнае значэньне для яснага разуменьня гістарычнага матар'ялізму.

У параўнаньні з іншымі галінамі чалавечае веды філёзофія гісторыі і соцыяльныя навукі—вельмі позьняга пахаджэньня.

Пытаньні прыродазнаўства зараджаюцца на самых першых ступенях чалавечага разьвіцьця, на зары культуры. Амаль-што ўва ўсіх першабытных народаў ёсьць свая рэлігія, якая і мае сваім галоўным заданьнем растлумачыць праявы прыроды. Да гэтага прымушае перш-на-перш змаганьне за істнаваньне. Першабытны, або карыстаючыся больш навуковым азначэньнем дасьледцы Рэвіля,—нецывілізаваны чалавек, агорнуты разнастайнымі зьявамі наўкольнай прыроды, спыняе сваю ўвагу на тых зьявах, якія вырашаюць складанае і цяжкае пытаньне аб яго істнаваньнасці

*) Гл. № 5—6 „Полымя".

ні, якія падтрымліваюць ці перашкаджаюць яго самазахаваньню, якія выклікаюць у яго ці надзею, ці пачуцьцё нейкай няўхільнай залежнасьці. Каб захаваць сябе, каб замацаваць сваё права на жыцьцё, каб ня быць раздушаным знадворнымі грознымі і незразумелымі сіламі наўкольнага сьвету, чалавек павінен быў так ці йнакш выявіць свае адносіны да гэтага сьвету і дабіцца пэўнага суладзьдзя паміж сваёй дзейнасьцю і дзейнасьцю знадворных супроцьлеглых сіл. Гэтае заданьне ў істоце і ўзяла на сябе першабытныя рэлігія, якая і зьяўляецца па свайму істотнаму зьместу прыродазнаўствам першабытнага або нецывілізаванага чалавека.

Гэткім чынам пачаткі прыродазнаўства паўсталі пад уплывам відавочнай залежнасьці чалавека ад сіл і зьяваў наўкольнай прыроды, а з другога боку—пад уплывам імкненьня ўхіліцца ад уплыву гэтых сіл ці ўзалежніць гэтыя сілы ад сябе. Прырода ад самага пачатку адчуваецца, як знадворны супроцьлеглы прадмет, які канечна вымагае сабе таго ці іншага тлумачэньня і выясьненьня.

Зусім інакш наладжваюцца адносіны чалавека да яго грамадзка-гістарычнага жыцьця. Грамадзкае асяродзьдзе нават на даволі высокіх ступенях свайго разьвіцьця прадстаўляецца чалавеку, як працяг яго ўласнай дзейнасьці, незалежнай ад ніякіх умоваў, як вынік свабоднай волі, скутак індывідуальных натугаў і сьвядома пастаўленых супольных мэт. І тады, калі лёсы грамадзкага жыцьця фэтышызуюцца, г. зн. калі яны перакідаюцца на той бок грамадзянства і прыпісваюцца волі боства, грамадзкая дзейнасьць усёткі ня ўспрыймаецца, як об'ектыўная, супроцьлеглая сіла, а ў дальшым цягу разглядаецца, як скутак выключна чалавечае сьвядомасьці і волі, пакіраваных і празначаных боствам; прыгэтым добрая ці ліхая воля самога боства гэтак сама ставіцца ў залежнасьць ад павядзеньня чалавека.

Другая прычына, якая тлумачыць, чаму філёзофія гісторыі паўстала гэтак позна, заключаецца ў тым, што гісторыкі зьвярталі сваю асаблівую ўвагу на выдатнейшыя гістарычныя падзеі. А штадзённае жыцьцё, праца і змаганьне за істнаваньне шырокіх народных гушчаў, г. зн. праявы грамадзкае рэчавістасьці, якія заключаюць у сабе істоту і аснову грамадзкага бытаваньня і гістарычнага руху, заставаліся недзе на задворках, па-за межамі сьвядомасьці і навуковае дзейнасьці гісторыяпісцаў (гісторыографаў). Прывычныя зьявы шэрае будзёншчыны ў гісторыі абміналіся гісторыкамі як зьявы нявартыя боль-менш значнае ўвагі. На паверхні ўзбуранага мора жыцьця найбольш прыметны былі выдатныя буйныя асобы, дзейнасьць каралёў, буйных законадаўцаў і ваенныя ўчынкі храбрых і ўмелых вайскаводцаў.

Зусім справядліва, з гэтае прычыны, кажа адзін з наватараў гістарычнага мэтаду—Огюстэн Т'ерры:

„Варта подзіву ўпартая схільнасьць гісторыкаў не прызнаваць за масамі ніякай самастойнасьці, ніякае творчасьці. Калі які-колечы народ высяляецца, шукаючы сабе новага месца, то нашы гісторыяпісцы і поэты тлумачаць гэта тым, што той ці іншы гэрой пастанавіў залажыць новую імпэрыю, каб праславіць сваё імя; калі паўстае якая-колечы новая дзяржава, то гэта тлумачыцца ініцыятывай таго ці іншага караля. Народ, грамадзяне—заўсёды увасабляюць толькі матар'ял, які адухаўляецца мысьлямі паасобных людзей“.

Гэтак гаворыць наватар гістарычнага мэтаду ў пачатку XIX веку, выказваючы сваё зьдзіўленьне і нават сваё абурэньне наконт гісторыкаў старой школы. Даючы выразную і справядлівую ацэнку даўнейшаму гістарычнаму мэтаду, знамяніты гісторык забывае аднак, што новы пог-

ляд, выказаны ім, на гістарычны процэс ня ёсьць плод гэніяльнай інтуіцыі, а прадыктаваны рухам мас XVII і XVIII сталецьця.

Зробленае О. Т'ерры даволі справядлівае абагульненьне мае, зразумела, і свае значныя недахваты. Гэтак, напрыклад, гісторыя Пэлёпонэскай вайны Фукідыда, напісаная ў працягу апошняй чвэрці V сталецьця да нашага летазьлічэньня, дае дакладную характарыстыку соцыяльных адносін разгляданае эпохі. А там, дзе ёсьць гутарка аб *соцыяльных адносінах*, там канечна высоўваецца наперад і значэньне шырокіх гушчаў насяленьня.

Далей, у эпоху заняпаду старажытнай Грэцыі, калі награмаджэньне клясавых супярэчнасьцей выразна выбіваецца наповерх, пагражаючы зруйнаваць грамадзка-дзяржаўнае жыцьцё, у Плятона (427—347 па водлуг старога летазьлічэньня) ўзьнікае такі агульны соцыолёгічны вывад, што гандаль і прамысловасьць нямінуча ўтвараюць *зайбочыя* для дзяржаўнага організму супярэчнасьці паміж грамадзкімі станамі насяленьня данае дзяржавы.

Вялікі ідэалісты клясычнай старажытнасьці, ствараючы новы, збаўчы на яго погляд, утопічны плян дзяржаўнага будаўніцтва, угрунтаваўся на падзеле працы. Падзел працы, па думцы Плятона, зьяўляецца асновай *еднасьці* і ў той-жа час і супярэчнасьці дзяржаўнага цэлага. Дзяржаўнае кіраўніцтва з гэтае прычыны мае сваім галоўным заданьнем кіраваць сіламі, што складаюць нацыянальную дзяржаву, і ўраўнаважваць супярэчныя, заўсёды гатовыя да змаганьня, грамадзкія элемэнты. Дзяржаву наогул Плятон разглядае, як нешта зьвязлае, адно цэлае, раўнуючы яе з чалавечым організмам.

Тут-жа трэба адзначыць, што органічная тэорыя ў соцыолёгіі мае свой выразна адбіты пачатак у навуцы Плятона аб дзяржаве. Погляд вялікага мысьліцеля на дзяржаўнае будаўніцтва быў значным крокам наперад на шляху да ўзьнікненьня проблемы філёзофіі гісторыі. Дзяржава, грамадзянства абвяшчаецца об'ектыўнай знадворнай сілай, якая кіруецца так ці йнакш нейкімі ўласнымі законамі.

Яшчэ далей у гэтым кірунку пайшоў гэніяльны вучань Плятона— Арыстотэль, глыбокі мысьліцель і ў той-жа час паважны і цярплівы дасьледца; ён імкнецца да таго, каб усталіць законы грамадзкага жыцьця, апіраючыся на конкрэтна-гістарычныя падставы. Абсолютна дасканалых форм дзяржаўнага ладу як і абсолютна нягодных,—няма. Кожная форма дзяржаўнага ладу залежыць ад тых ці іншых конкрэтных умоў жыцьця данага народу і ім адпавядае. Арыстотэль становіцца такім чынам на дыялектычны грунт; але найбольшай увагі заслугоўвае ў навуцы Арыстотэля аб дзяржаве падзел грамадзянства на клясы, галоўным чынам на падставе велічыні маемасьці, выразнае разуменьне таго, што змаганьне політычных партый залежыць ад соцыяльнага змаганьня паміж клясамі. „Істнуе“, кажа Арыстотэль у „Політыцы“, „ува ўсіх дзяржавах тры клясы: вельмі багатыя, вельмі бедныя і трэцяя кляса, якая знаходзіцца на сярэдзіне паміж імі. І калі ўмяркоўнасьць і сярэдзіна наогул павінны ўважацца за нешта найлепшае, то, зразумела, і сярэдняе маёмасьцевае становішча гэтак сама найлепшае“. А адгэтуль Арыстотэль робіць такі вывад: „Зразумела, што найлепшай формай дзяржаўнага ладу зьяўляецца тая, якая грунтуецца на сярэдняй клясе, і што толькі тыя якраз дзяржавы могуць завесьці ў сябе добры лад, якіх сярэдняя класа многалікая, або прынамсі, мацнейшая за адну з іх. Бо ў апошнім выпадку сярэдняя кляса, далучаючыся да аднае з дзьвёх ускрайніх кляс, зьяўляецца станоўчай сілай і не дазваляе панаваць ні аднэй з іх. З гэтае прычыны

трэба лічыць вялікім шчасьцем, калі грамадзяне жывуць у сярэднім дастатку, бо дзе адны маюць вялікую ўласнасьць, а іншыя зусім яе пазбаўлены, там узьнікае ў скутку гэтых ускрайнасьцей або найбольш ускрайняе панаваньне народнае масы, або самая сіберная олігархія, або тыранія...“ У зьвязку з гэтым нельга не адзначыць і яшчэ аднэй вельмі выдатнай думкі Арыстотэля. Каб пацьвердзіць справядлівасьць свайго погляду на дадатнае значэньне сярэдняе клясы, філёзоф адзначае той факт, што найлепшымі законадаўцамі былі асобы, выйшаўшыя з гэтае якраз клясы: з сярэдняе клясы выйшлі Салён, Лікург, Хордас і амальшто ўсе іншыя буйныя законадаўцы. Арыстотэль мае, такім чынам, яснае прадстаўленьне аб клясавых ідэолёгах, якія выражалі інтарэсы, настрой і імкненьні свае клясы.

Гэтыя надзвычай цікавыя думкі Арыстотэля, якія маглі-б, здаецца, стаць падставай дзеля далейшага разьвіцьця грамадзянскай і гістарычнай навукі, як-бы драмалі пад грузам бескаштоўнага гістарычнага матар'ялу, ня маючы беспасрэднага ўплыву на мэтады дасьледваньня і пісаньня гісторыі.

„Погляд“, кажа Энгельс у „Антыдзюрынгу“, „быццам істотнымі ў гісторыі зьяўляюцца палітычная дзейнасьць каралёў і дзяржаваў, гэткі-ж самы стары, як і сам гісторыяпіс (гісторыяграфія). Гэты погляд зьяўляецца галоўнай прычынай таго, што ў нас мала захавалася даных аб тым, як у цішы за гэтымі шумнымі праявамі адбываецца паступовае запраўднае разьвіцьцё народаў. Гэты погляд панаваў ува ўсім даўнейшым разуменьні гісторыі і ўпяршыню быў парушаны толькі буржуазнымі гісторыкамі часоў рэстаўрацыі“.

Наогул гэта бязумоўна так. Зусім зразумела з гэтае прычыны, што філёзофія гісторыі, якая ставіць сабе заданьнем вышукаць агульныя чыньнікі ў гістарычным працэсе, не магла ўтварыцца на раньніх ступенях культурнага жыцьця чалавецтва.

Філёзофія гісторыі, як асобная самастойная галіна веды, паўстала толькі ў XVII веку. Пачынальнікам яе лічыцца з пэўным правам францускі біскуп Босьсюэт (1627-1704), які ў сваім творы „Сусьветная гісторыя“ (паявіўся ў друку ў 1661 г.) упяршыню пробуе знайсьці агульныя філёзофскія падставы сусьветнай гісторыі. Погляд Босьсюэта наогул мае рэлігійны характар. Бог кіруе гістарычнымі лёсамі народаў, але сусьветная гісторыя выпаўняе загадзя накрэсьлены боскі плян. „Бог кіруе сусьветнай гісторыяй, маючы на ўвазе сваю мэту, а чалавек непакоіцца“. Гэтак выглядае агульная формуліроўка філёзофіі гісторыі знакамітага біскупа. Па думцы Босьсюэта гістарычныя падзеі выклікаюцца не вялікімі асобамі, а якім-колечы выбраным народам, які і зьяўляецца запраўдным прычыньнікам агульнага гістарычнага працэсу. Ізраільскае племя, выпаўняючы накрэсьлены богам плян, зьяўляецца дзейнікам сусьветнае культуры, і яно, ізраільскае племя, мела станоўчы ўплыў на культуру Грэцыі і Рыму. Глыбокадумнае разважаньне над гістарычным працэсам, над магутнасьцю об'ектыўнага поступу гістарычных падзеяў прывяло закладчыка філёзофіі гісторыі да бязьмерна важнае думкі, што гістарычнае жыцьцё разьвіваецца пад уплывам больш магутных і станоўчых сіл, чымся капрызная воля таго ці іншага караля або нават дзяржаўная творчасьць геніяльнага законадаўцы.

Рэлігійнае тлумачэньне гісторыі, высунутае Босьсюэтам, у сучасны момант, зразумела, лічыцца адсталым. Нават прадстаўнікі рэлігійнага сьветагляду нашага часу, як Гарнака і Эйкена, цалкам з філёзофіяй гісторыі Босьсюэта не згаджаюцца. І багасловы прымушаны цяпер рабіць

уступкі навуковай мысьлі, але бясьсьмертнай заслугай Босьсюэта будзе лічыцца тое, што ён высунуў проблему, а разам з гэтым фактычна пачаў шукаць агульных об'ектыўных гістарычных законаў. Бо калі мы разважаем над гістарычным разьвіцьцём думкі ў пэўнай галіне веды, важным ёсьць тое, што пытаньне было пастаўлена на правіловы грунт, а ня тое, як яно было разьвязана.

За Босьсюэтам паяўляецца філёзофска-гістарычная тэорыя Віко (1668-1744). Гэты вельмі выдатны і папраўдзе гэніяльны італьянец паставіў пытаньне аб разьвіцьці сусьветнае гісторыі на навуковы грунт. Свой твор, у якім разважаецца проблема філёзофіі гісторыі, Віко назваў „Новай навукай", і з поўным правам даў гэты загаловак. У гісторыі чалавецтва гэты мысьліцель вызначае тры пэрыоды, якія наступаюць адзін за другім у раз назаўсёды ўсталеным парадку: пэрыод багоў, пэрыод гэрояў і пэрыод дзейнасьці людзей. Гэтыя тры пэрыоды складаюць супольнае кола. Калі гэтае кола заакругліцца, то пачынаецца ў тым-жа парадку новае. Гісторыя зьяўляецца, гэткім чынам, як-бы нейкім, у заўсёдным руху калаўротам. Найбольш выдатным і папраўдзе гэніяльным зьяўляецца ў навуцы Віко найперш тое, што ўпяршыню была высунута і азначана *ідэя разьвіцьця* ў адносінах да філёзофіі гісторыі, а падругое— соцыолёгічная мерка ў адносінах да складаных элемэнтаў грамадзкага жыцьця. Віко закранае пытаньні аб сям'і, уласнасьці, дзяржаве, праве, мове і рэлігіі, разглядаючы ўсе гэтыя грамадзкія формы жыцьця, як элемэнты грамадзка-гістарычнага руху. Гэтыя элемэнты, падлягаючы бязупынным зьменам, на працягу гістарычнага часу зьмяняюць свае асноўныя рысы.

Наогул Віко грунтуецца на эклектычным поглядзе, аднак яго філёзофска-гістарычная доктрына зьяўляецца бязумоўна пачаткам навуковага тлумачэньня гісторыі. Гэткім пачаткам трэба лічыць, перш-на-перш, ідэю разьвіцьця, падругое перакананьне ў тым, што гістарычнае разьвіцьцё адбываецца праз руйнаваньне аўторытэту багоў і гэрояў, знаходзячы сваё завяршэньне ў дзейнасьці людзей.

Трэба тут-жа адзначыць, што гэніяльныя ідэі Віко былі ідэолёгічным выяўленьнем і абагульненьнем італьянскага адраджэньня, якое вызначаецца змаганьнем супроць аўторытэту і ўлады царкоўнай і фэодальнай герархіі.

Проблема філёзофіі гісторыі пасьля Босьсюэта і Віко зноў быццам замірае. Як спэцыяльная проблема, філёзофія гісторыі не займае асобнага месца ў грамадзкай ідэолёгіі. Наогул, ідэолёгія XVII і першых трох чвэрцяў XVIII сталецьця выдатнейшых капіталістычных дзяржаў цікавіцца, галоўным чынам, пытаньнямі дзяржаўнага будаўніцтва і проблемамі новапаўсталай навукі—політычнай экономіі.

Тут гісторыя гучна і бурліва іграе сваю прэлюдыю да вялікай францускай рэволюцыі. Грамадзкая дарослас'ць ангельскай і францускай буржуазіі, яе залаты век буры і націску зусім натуральна адзначаны глыбокім зацікаўленьнем перш-на-перш да экономічных, політычных і праўных проблем. Француская асьвета XVIII сталецьця зьяўлялася ваяўнічай ідэолёгіяй супроць шляхэцтва і духавенства ў імя навукі, перамогі розуму, свабоды асобы і, урэшце, у імя свабоднай конкурэнцыі. Асьвета была наскрозь прасякнута індывідуалістычнымі прынцыпамі. З погляду індывідуалістычнай філёзофіі Асьветы, грамадзянства зьяўляецца звычайным мэханічным злучэньнем паасобных індывідуумаў, і ўсё грамадзкае жыцьцё складаецца з свабодна-пераплеценых інтарэсаў і імкненьняў асоб. З гэтае прычыны пытаньне аб тым, што заложана ў аснову ўсяго грамадзкага цэлага, якімі ўнутранымі іманэнтнымі прычынамі вызна-

чаецца процэс гістарычнага руху, ня прыходзіла ў голаў дзеячом Асьветы. Характарызуючы грамадзкую ідэолёгію XVIII сталецьця, Маркс справядліва і, як заўсёды, вельмі ўдумна гаворыць у знойдзеных у 1902 г. уводзінах да „Крытыкі палітычнай экономіі“, што індывідуум гэтае эпохі, які быў з аднаго боку „вынікам раскладу фэодальных грамадзкіх форм“, а з другога боку—„новых вытворчых сіл, пачаўшых разьвівацца ў XVII веку,—разглядаўся ідэолёгамі гэтае эпохі не „як вынік гісторыі, а як яе прычыньнік“. „А з тае прычыны, што гэты індывідуум“, кажа далей Маркс, „лічыўся ўвасабленьнем натуральных уласьцівасьцей, што згаджалася з поглядам на прыроду чалавека, то ў ім бачылі нешта не гістарычна разьвітае, а ўсталенае самой прыродай“.

Захапленьне натуралістычным індывідуалізмам, кліч назад да прыроды, ідэалізацыя дагістарычнага часу і адмоўныя адносіны да ўсяго мінулага ня былі, па справядлівай думцы Маркса, „рэакцыяй супроць залішняй удалікатнеласьці і паваротам да неправілова зразумелай прыроды“. „Гэтак сама і „Грамадзкая ўмова“ Руссо, у якой узаемныя адносіны і сувязь паміж незалежнымі ад прыроды суб'ектамі азначаюцца праз умову, у ніякім разе ня грунтуецца на падобным натуралізьме. Усё гэта—павярхоўнасьць і толькі эстэтычная павярхоўнасьць вялікіх і малых робінзонад. Наадварот, мы маем тут намяненьне на „буржуазнае грамадзянства“, якое пачало разьвівацца з XVI-га сталецьця, а ў XVIII-ым сямімільнымі крокамі яно шыбанула да сваёй даросласьці. У гэтым грамадзянстве свабоднай конкурэнцыі асобнік (індывідуум) вызваліўся ад прыродных сувязей... пад уплывам якіх у даўнейшыя гістарычныя эпохі ён быў складанай часьцінай нейкага абмяжованага чалавечага конглёмэрату“.

Пад уплывам раскладу фэодальнага парадку гісторыя культуры была здадзена ў архіў, і, значыцца, не магло быць і гутаркі аб філёзофіі гістарычнага поступу падзеяў.

Рэволюцыйны буржуазны індывідуалізм мог будаваць сваю праграму і фактычна яе будаваў на дзьвёх падставах: папершае, на выхаваньні асобы, падругое—на дэмократычным законадаўстве. Поўным і запраўдным выяўленьнем гэтых дзьвёх падстаў былі „Эміль“ і „Грамадзкая ўмова“ Руссо.

(*Працяг будзе*).

# З гісторыі асьветы на Беларусі ў пачатку 19 сталецьця.

Пачатак 18-га сталецьця застаў Беларусь у складзе Расійскай імпэрыі, каторая перажывала лібэралізм першай палавіны аляксандараўскай эпохі. У 1802 годзе, замест застарэўшых ужо калегій пятроўскай эпохі, былі ўтвораны па заходняму прыкладу міністэрствы, лікам восем. На чале іх былі пастаўлены асобныя міністры, асабіста адпаведныя за сваю палітычную дзейнасьць перад самаўладным урадам. На чале тых міністэрстваў, каторыя ўрад лічыў асабліва ўдарнымі для свайго часу, былі пастаўлены асобы, блізка стаяўшыя да Аляксандара I, члены так званага Інтымнага Камітэту. Такімі міністэрствамі былі прызнаны—унутраных спраў (міністар Качубей, яго таварыш Строганаў) і міністэрства чужаземных спраў (таварыш міністра Адам Чартарыйскі). Паміж другімі было ўтворана і міністэрства асьветы, на чале каторага быў пастаўлен адзін з звычайных вяльможаў таго часу Завадоўскі. Асьвета ня была залічана да „ўдарных“ міністэрстваў імпэрыі.

У сувязі з утварэньнем міністэрства асьветы ўся Расія была падзелена на вучэбныя акругі. У склад кожнае акругі ўваходзілі па некалькі губэрняў. У 1803-м годзе (24 студзеня) была акрэсьлена і Віленская вучэбная акруга. Яна займала вялізарны раён, каторы складалі ніжэйпаданыя губэрні: Віленская, Ковенская, Горадзенская, Менская, Вітабская, Магілёўская, Валынская, Падольская і Кіеўская. Раней была думка ўтварыць з гэтых губэрняў дзьве акругі, але гэтая думка пад польскім уплывам на ўрад была адкінута. Польскім патрыётам патрэбна было, каб усе літоўска-беларускія і ўкраінскія землі былі сконцэнтраваны ў адным месцы, для пасіленьня ў іх польскай працы па „адбудаваньню сваёй айчыны“. Уся Беларусь, такім спосабам, увайшла ў Віленскую вучэбную акругу.

На чале вучэбных акругаў у Расіі былі пастаўлены папячыцелі. На чале Віленскай акругі быў пастаўлен куратар (латынізаваная назва папячыцеля), польскі „патрыёт“ Адам Чартарыйскі, член Інтымнага Камітэту, каторы адначасна, як мы паказалі вышэй, быў таварышам міністра чужаземных справаў. Такое назначэньне паказвае нам, што Віленская акруга была выдзелена з другіх акругаў і пастаўлена амаль што незалежнаю ад міністэрства асьветы, што таксама было на руку „патрыётам“ падзеленай Польшчы.

З Адамам Чартарыйскім мы спатыкаемся ў Расіі першы раз яшчэ ў 1795-м годзе, калі ён, пасьля падзелу Рэчы Паспалітай, разам са сваім

малодшым братам, зьявіўся да палацу Катарыны II, каб тут, робячы рускую кар'еру, здабыць славу польскага „патрыёта". Пазнаёміўся ён і з будучым рускім царом Аляксандарам I. Паступова знаёмства пераходзіць у прыяцельства. Вясной 1796 году паміж Аляксандарам I і Чартарыйскім адбылася ў саду Таўрыдзкага палацу цікавая гутарка, каторая цягнулася каля трох гадзін. Маладыя людзі сярод поэтычнай абстаноўкі, па звычаю таго сэнтымэнтальнага часу, зьліваюць адзін другому свае пачуцьці. Сваю гутарку з Аляксандарам Чартарыйскі потым падрабязгова апісаў у мэмуарах. („Memoires du prince A. Czartoryski. Paris 1887. T. I.). Пачалося з таго, што польскі магнат стаў гаварыць аб загінуўшай Польшчы, аб яе мінулым і аб сваёй любві да сканаўшай айчыны; стаў выражаць сваю надзею, што „слаўная і вольная" Польшча павінна ўваскроснуць. Возьмем вынятак з гэтай гутаркі, належачы да Аляксандара: „Ён (Аляксандар I) сказаў мне, што ён ня згодзен з поглядамі і правіламі двара і габінэту; ён зусім не спагадае палітыцы і способу дзейнасьці сваёй бабкі (Катарыны). Усе яго жаданьні былі на старане Польшчы і мелі сваёю мэтаю пасьпех яе слаўнай барацьбы. Касьцюшка ў яго вачох быў вялікім чалавекам па сваім дабрадзеяньням і яшчэ затым, што ён бараніў справу людасьці і справядлівасьці". Па словам Чартарыйскага Аляксандар I прасіў яго захаваць гэтую гутарку ў глыбокай таемнасьці і нікому нічога не гаварыць, апроч брата. Зразумела, што Чартарыйскі пастараўся скарыстаць спачувальны да Польшчы настрой Аляксандара. Яму, як польскаму патрыёту, гэты факт быў да рукі. „Я перадаў брату аб быўшай паміж намі гутарцы і, падзяліўшыся адзін з другім нашым захапленьнем, мы разам пачалі марыць аб яскравай будучыне, каторая, здавалася, адчынялася перад намі". (Memoires). Такім спосабам, праца Чартарыйскага ў Віленскай акрузе была пакіравана з ведама ўраду ў бок адбудаваньня Польшчы

На дапамогу Чартарыйскаму былі дадзены асобы, каторыя былі ім самім падобраны для працы. Гэта былі такія самыя польскія патрыёты, як і Чартарыйскі—Тадэуш Чацкі, Юльян Нямцэвіч і кзёндз Гуго Калантай. Юльян Нямцэвіч, вядомы польскі пясьняр, быў супадзьвіжнікам Тадэуша Касьцюшкі. Пасьля правалу Касьцюшкі, ён разам з ім папаўся ў палон да Суворава і быў вызвален таксама разам з Касьцюшкаю, Паўлам I. Пасьля вызваленьня ён павінен быў эміграваць заграніцу, адкуль і быў вызваны ў Расію для працы ў Віленскую акругу. Гуго Калантай выявіў сябе, як „патрыёт" з канца 80-х гадоў 18-га сталецьця і быў адным з аўтораў польскай канстытуцыі 3 мая 1791 году. За польскую патрыётычную прапаганду на аўстрыйскай тэрыторыі ён быў заарыштаваны і адбываў кару ў аднэй з аўстрыйскіх турмаў; адсюль ён па хадайніцтву рускага ўраду быў вызвален і запрошаны на працу ў Віленскую акругу. Самым дзейным памочнікам Чартарыйскага быў Тадэуш Чацкі, які быў назначаны візытатарам акругі на Валыні і Украіне. Гэта быў адукаваны і энэргічны магнат, таксама марыўшы аб уваскрашэньні старажытнай Польшчы „ад мора да мора".

Само сабою зразумела, што ўсе гэтыя правадыры культурна-асьветнай працы на Беларусі лічылі гэты край часткаю будучай уваскросшай Польшчы. Беларусь у іх вачох нічым ня розьнілася ад Польшчы політычна; трэба было толькі насадзіць тут да канца тую польскую культуру, каторая насаджалася тут і да падзелаў Рэчы Паспалітай і каторай, пасьля падзелаў, магла пагражаць руская культура. Полёнізацыя Беларусі, дзякуючы працы гэтых працаўнікоў, ідзе самым шырокім шляхам. Усе польскія патрыёты, як эміграцыі, так жывучыя ў імпэрыі, ускладаюць вя-

лікія надзеі на працу Чартарыйскага ў Віленскай акрузе. Усе яны разумеюць, што ўмовы для польскай працы на Беларусі злажыліся вельмі добра. Цікава прывясьці тут вынятак з ліста Ф. Дмухоўскага на імя Г. Калантая: „Пад уладаю рускаю нам (паляком) адчыняюцца спрыяючыя абставіны. Разам з тым, арганізацыя і сыстэма ў выбары здольных палякоў на месцы настаўнікаў зробіць тое, на што толькі можна спадзявацца ў даным выпадку“. У еднасьці адукацыі, каторая ўтварылася, дзякуючы концэнтрацыі справы ў Віленскай акрузе, заключалася еднасьць усёй палітычнай працы. І ў самай рэчы, трэба вызначыць, што польскія культурнікі-патрыёты мамэнт скарысталі добра.

Галоўнейшую ролю ў культурна-асьветнай справе на Беларусі сыграў Віленскі ўнівэрсытэт. Яшчэ ў 1802-м, калі былі ўтвораны міністэрствы і яшчэ ня была організована Віленская акруга, Чартарыйскі атрымаў ад рускага ўраду прапазыцыю напісаць статут для ўнівэрсытэту і другіх школаў гэтай акругі са штатамі і каштарысамі. Да вясны 1803 году ўсё ўжо гатова. У красавіку абвяшчаецца адчыненьне Віленскай акругі, а 18-га мая 1803 году быўшая езуіцкая акадэмія, істнаваўшая ў Вільні, перарабляецца згодна са статутам у ўнівэрсысэт. На ўтрыманьне ўнівэрсытэту і акружных установаў, апроч ранейшых мясцовых сродкаў, быў назначаны фундуш з цэнтральнага скарбу ў разьмеры 1.580.000 польскіх злотых, што давала моцны грунт для іх істнаваньня. Унівэрсытэт забясьпечваецца неабходнымі будынкамі і землямі. Ён мае поўны склад факультэтаў, г. ё. чатыры факультэты: мэдычны, фізыка-матэматычны, моральных і палітычных навукаў, філёлёгічных і мастацкіх навукаў. Выклікаюцца з усіх канцоў на пасады прафэсараў вучоныя і культурнікі палякі, бо навуковых сілаў быўшай акадэміі не хапае. Унівэрсытэт атрымлівае правы і прывілеі, належачыя да вышэйшай навукова-вучэбнай установы: раздае вучоныя ступені, пасылае заграніцу ў навуковыя камандыроўкі выдатнейшых прафэсараў і студэнтаў, каторыя гатуюцца быць прафэсарамі, цэнзуруе кнігі і г. д. Унівэрсытэт мае пад сваім кіраўніцтвам усе сярэднія і ніжэйшыя школы акругі. Унівэрсытэцкая Рада праз кожныя чатыры гады абірае на сваіх пасяджэньнях дырэктараў гімназіяў і загадчыкаў павятовых вучылішчаў і падае кандыдатаў на зацьвярджэньне куратара. Адным словам, унівэрсытэт нясе як вучэбна-навуковыя, так і вучэбна-адміністрацыйныя абавязкі. У гэтых адносінах ён быў пабудованы па прынцыпам польскай Эдукацыйнай Камісіі, згодна з каторымі яшчэ ў часы істнаваньня Рэчы Паспалітай усе школы ў кароне былі пад кіраўніцтвам Кракаўскай Акадэміі, а школы на Літве і Беларусі пад кіраўніцтвам Віленскай Акадэміі.

Адразу унівэрсытэт пачаў браць пад свой загад усе школы акругі. Пасьля заканчэньня гэтай работы вызначылася, што на тэрыторыі акругі пад даглядам унівэрсытэту маецца зарэгістраваных 70 школаў. Большасьць школаў (каля 45) утрымлівалася на сродкі каталіцкага і вуніяцкага духавенства. Школы найчасьцей былі на ўтрыманьні манашацкіх духоўных ордэнаў, каторых тады на Беларусі было вельмі многа. Утрымлівалі школы, напрыклад, такія ордэны: базыліяны, кармэліты, піары, бэрнардыны і г.д. Само сабою зразумела, што ўсе гэтыя школы мелі ультраклерыкальны напрамак. Клерыкальную афарбоўку мела і тая меншасьць школаў, каторая ўтрымлівалася на кошты Эдукацыйнай камісіі

Кошты Эдукацыйнай камісіі былі даволі значныя. Камісія пачала сваё істнаваньне на аснове пастановы польскага сойму 1775 году, каторы ўхваліў, каб усе маемасьці і капіталы, якія засталіся ў Рэчы Паспалітай пасьля выгнаных езуітаў, перайшлі на карысьць школаў пад за-

гад утворанай Эдукацыйнай Камісіі. У часы падзелаў і пасьля іх агульнае бязладзьдзе ў Польшчы адзначылася на экономічных справах камісіі, каторыя вельмі запуталіся і прыйшлі ў поўны заняпад. Маемасьць камісіі расьцягвалася як асобнымі магнатамі, так і некаторымі ўстановамі. У пачатку 19 сталецьця за справы камісіі ўзяўся Чацкі. Ён падаў проэкт, каб камісія была падзелена на дзьве камісіі для лепшага распарадкаваньня працы па тэрыторыі Адна камісія была ўтворана для Украіны (губэрні Кіеўская, Валынская і Падольская), а другая—для Літвы і Беларусі (губэрні Віленская, Горадзенская, Ковенская, Менская і Магілёўская). Раней Чацкі працаваў у тэй і другой камісіі і, трэба прызнацца, што працаваў з посьпехам: экономічныя справы камісій значна палепшыліся, фонды іх узрасьлі. Потым ён быў назначаны прэзыдэнтам украінскай камісіі, фонды каторай ён давёў да 2.350.000 польскіх злотых, што раўнялася 352.500 рублём.

Усе школы акругі, на які-б кошт яны ня ўтрымліваліся, былі перароблены на два тыпы: шасьцёхклясовыя па губэрскіх гарадох і трохклясовыя па павятовых гарадох. Некалькі шасьцёхклясовых школаў было адчынена новых. Школаў-прымітываў, для сялянства і рабочых, зусім ня было зарэгістравана. Было некалькі і жаноцкіх школаў, выключна пры манастырох. Толькі ў адзінкавых школах ува ўсходніх губэрнях магчыма было спаткацца з выкладоваю рускаю моваю, ува ўсіх астатніх школах мова выкладаньня была польская. У некаторых вуніяцкіх школах для лепшага зразуменьня карысталіся „простаю“ беларускаю мовай. Што датыча да ўнівэрсытэту, то там выкладоваю моваю ў большасьці была латынская; некаторыя з прафэсараў ужо пачалі чытаць лекцыі ў польскай мове.

Само сабою зразумела, што пры такіх мовах павінна была йсьці і йшла канчатковая полёнізацыя беларускага шляхэцтва. Гаварыць аб масавай полёнізацыі працоўных масаў ня прыходзіцца, затым што школа была недаступна як для вясковага запрыгоненага сялянства, так і для гарадзкога рабочага.

Віленскі ўнівэрсытэт, шырока разьвінуўшы сваю працу, робіцца паступова культурным і палітычным організацыйным асяродкам тагочасовай беларускай полёнізаванай інтэлігэнцыі, каторая ў сваёй масе складаецца з сярэдняй і дробнай шляхты і розначынных элемэнтаў, каторыя ў сваю чаргу найчасьцей выходзяць з дробнай абяднелай шляхты. Пры ўнівэрсытэце ўтвараюцца культурныя і палітычныя польскія організацыі моладзі. Тым ня менш, ня гледзячы на польскую сутнасьць студэнцкіх гурткоў, у іх яскрава вызначаецца мясцовы беларускі элемэнт.

Найраней утвараецца гурток „Шубраўцаў“, каторы пасьля вельмі кароткага нелегальнага існаваньня легалізуецца рэктарам унівэрсытэту 11-га лютага 1817 году. Гурток настолькі моцна зарганізаваўся, як ідэёва, так і экономічна, што здолеў выдаваць сваю часопісь пад назваю: „Брукавыя ведамасьці“. Гурток мае добра апрацаваны статут. Сваёю мэтаю па статуту „Шубраўцы“ ставяць пашырэньне сярод моладзі любові да навукі і асьветы. Кожны „Шубравец“, апроч таго, павінен вясьці цьвярозае жыцьцё, быць працаздольным, вынoсьлівым, энэргічным і г. д., адным словам дабівацца і моральных мэтаў. Шлях, каторым яны прагнуцца дасягнуць сваіх мэтаў,—гэта сатыра, якая павінна рабіць уплыў ня толькі на сяброў гуртка, але і на моладзь наогул пры дапамозе „Брукавых ведамасьцяў“. У гуртка ёсьць і свая пячатка: вянок з дубовых лісьцяў, у сярэдзіне каторага намалёваны скрыжаваныя мятла і лапата, якія павінны вымятаць і выкідаць усё благое з організацыі. Апроч піса-

ных у статуце мэтаў, гурток, бязумоўна, ставіў перад сабою і мэты патрыётычна-польскія, зьвязаныя з адбудоваю Рэчы Паспалітай, што відаць з артыкулаў „Брукавых ведамасьцяў“. „Ведамасьці“ выходзілі з друку акуратна што тыдзень па суботам. Часопіс праістнавала больш як 5 гадоў (зачынена летам 1822 году); усяго выйшла ў сьвет 287 нумароў, што складае каля 150 друкаваных аркушаў. Амаль што ўсе артыкулы пісаліся сябрамі гуртка.

Адначасна з гуртком „Шубраўцаў“ нелегальна істнуе організацыя так званых „Філёматаў“. Яна таксама зьбірае да сябе моладзь, каторая хоча працаваць глыбей над навукаю і рабіць справу адраджэньня Рэчы Паспалітай. У ліку закладчыкаў гуртка „Філёматаў“ стаяць такія імёны, як польскі пясьняр Адам Міцкевіч, Томаш Зан, беларускі адраджэнец і пясьняр Ян Чачот, Я. Яжоўскі і др. Усё гэта студэнты, вельмі популярныя сярод інтэлігэнцкай моладзі таго часу. Мэта „Філёматаў“ вызначаецца так: шляхам добрай адукацыі палепшыць становішча айчыны. Што датыча да тэрміну „айчыны“, то організацыя разумела пад ім Літву і Беларусь, каторыя павінны ўходзіць у склад Рэчы Паспалітай, як яе аўтономныя правінцыі. Гурток „Філёматаў“ раскладаўся, згодна з навуковымі запатрабаваньнямі сваіх сяброў, на дзьве сэкцыі, літаратурную і фізыка-матэматычную. На чале першай сэкцыі стаяў ужо памянёны намі А. Міцкевіч. Пасьля таго, як ён выбыў з унівэрсытэту ў Ковеншчыну, яго месца заняў працаўнік тагочаснага беларускага руху Ян Чачот, каторы прышчапляў сябром гуртка цікавасьць да беларускай культуры. На чале фізыка-матэматычнай сэкцыі ўвесь час стаяў Томаш Зан.

Нелегальнае істнаваньне звужала працу гуртка і „філёматы“ ўвесь час прагнуцца легалізавацца. Гэта ім урэшце і ўдалося зрабіць. З „Філёматаў“ утвараецца легальны гурток „Прамяністых“ (ад слова „прамень“). „Прамяністыя“ маюць добра апрацаваны статут, які складаўся з 15 артыкулаў. Статут напісаў Т. Зан разам з другімі сябрамі. Прарэдагаваў і зацьвердзіў статут рэктор унівэрсытэту Малеўскі. Пры зацьвярджэньні гуртка рэктор вызначыў, што ён спадзяецца, што гурток прыйме ўсе меры да таго, каб навучаць студэнтаў шчыра выконваць усе студэнцкія абавязкі. Апроч таго, рэктор перасьцерагаў, каб організацыя ўводзіла ў свой склад выключна студэнтаў, не пашыраючыся за сьцены унівэрсытэту. Пасьля легалізацыі „Прамяністыя“ ў сваім статуце ставяць сабе за мэту інтэлектуальнае і моральнае развіцьцё студэнцкай моладзі, а таксама і організацыю разумных і карысных гулянак для сваіх сяброў. Тайнаю мэтаю гуртка, як і раней, засталося патрыётычнае выхаваньне моладзі. Мясцовы, беларускі колёрыт застаецца ў гуртку і пасьля яго легалізацыі. Паміж іншым, у 8-м артыкуле статуту організацыі вызначана такое заданьне: „жадаць дабра сваім адназемцам кожнага стану і ўсяму народу наогул, зьберагаць карысныя звычаі сваіх продкаў, шанаваць сваю прыродную мову і вучыцца ёй“. Прыроднаю моваю на Беларусі гурток лічыў як польскую, так і беларускую. Аб гэтым мясцовым напрамку „філёматаў“ сьведчыць таксама прысутнасьць і дзейны ўдзел у гуртку такога беларускага культурніка, як Ян Чачот.

„Прамяністыя“ шырока разьвінулі сваю працу. Ішлі сходы, організаваліся процэсіі за горад і гулянкі за горадам. Даваліся матар'ялы праз сяброў „шубраўцаў“ у „Брукавыя ведамасьці“. Вяліся зносіны з моладзьдзю, каторая ня ўходзіла ў організацыю. Але хутка аб гуртку „прамяністых“ пайшлі ўсялякія чуткі. Найбольш гаманілі аб яго патаемнай патрыётычна-політычнай працы. Пачала цікавіцца працаю гуртка патаемная руская паліцыя. Каб адвярнуць ад сябе гэтую ўвагу і цікавасьць

паліцыі, кіраўнікі гуртка вырашылі прыпыніць яго легальную дзейнасьць, каторая сваім шумам зьвяртала на сябе ўвагу. Галоўныя арганізатары гуртка „прамяністых“ павялі агітацыю за роспуск арганізацыі, і яна зачынілася ў канцы 1819 году.

Замест яе пачалася арганізацыя новага гуртка, ужо патаемнага, каторы атрымаў назву вобчаства „Філарэтаў“. У 1820 гаду быў складзены новы статут. Ён быў больш апрацаваны, чым статут „Прамяністых“, і складаўся з 72 артыкулаў, куды ўходзілі і 15 артыкулаў гуртка „Прамяністых“. У статуце ясна была вызначана праўдзівая мэта вобчаства „Філарэтаў“—адрадзіць Рэч Паспалітую, у каторую павінна ўвайсьці і Беларусь з Літвою. На чале „Філарэтаў“ стаяў прэзыдыум, які складаўся з трох асоб: старшыні Тамаша Зана і двух яго намесьнікаў, Яна Чачота і Франца Малеўскага, сына рэктора ўнівэрсытэту. Ня гледзячы на сваё нелегальнае становішча, гурток меў вялікі ўплыў і шырока разросься. У яго складзе налічвалася каля 300 сяброў. Праца гуртка стала вядома паліцыі, і за гуртком сталі сачыць. Даведаўшыся аб гэтым, правадыры гуртка рашылі спыніць яго працу, і гурток зачыніўся ў 1822 годзе. Томаш Зан пры гэтым спаліў усе папяровыя справы, баючыся, каб яны, папаўшы ў рукі паліцыі, ня выклікалі раскрыцьця працы гуртка і рэпрэсіяў.

Мы ўжо гаварылі аб тым, што ўсе гурткі, будучы па сутнасьці польскімі, мелі мясцовы, беларускі колёрыт. Віленскі ўнівэрсытэт прагнуўся ў тыя часы быць краёвым унівэрсытэтам. Такая мясцовая афарбоўка гурткоў пры унівэрсытэце не здаваляла цэнтралістычных пажаданьняў Варшавы. Польскія патрыёты у Варшаве лічылі, што мясцовы напрамак віленскіх унівэрсытэцкіх гурткоў выклікае сэпаратызм на Беларусі і будзе прашкаджаць справе агульна-польскага будаваньня. У гэтых адносінах вельмі цікава зрабіць вынятак з артыкулу, зьмешчанага ў № 147-м „Брукавых ведамасьцяў“ пад назваю „Ліст з Варшавы, падпісанага псэўдонімам „Варшаўскі Прыяцель“. Там мы чытаем: „Ня гледзячы на вульгарнасьць і жартаўлівасьць вашай назовы (разумеецца назва „Шаброўцы“ і назова іх часопісі), вы усё-ж такі маеце тут (у Варшаве) шмат прыхільнікаў, каторыя цэняць вашую орыгінальнасьць, а асабліва ваш шляхэтны намер выкараняць краёвыя парокі. Праўда, іншы раз, нават, вашы прыхільнікі скардзяцца, што для палякоў вы пішаце пакітайску, што яны ня могуць разумець вас. Вы пішаце для Літвы, а не для Кароны; вы менш клапоціцеся аб тым, ці зразумее вас Варшава, абы толькі зразумелі вас Вільня і Літва; іншы раз вы паніжаеце ваш стыль, каб толькі зрабіцца даступнымі для разуменьня ўсіх“. Выходзіць, што інтарэсы Літвы і Беларусі занадта блізкі, па пагляду Варшавы, для віленскіх патрыётаў; што каронная Польшча мала цікавіць іх; што яны псуюць чыстую польскую мову, „паніжаючы яе да звычайнай на Беларусі“, простай мовы. Усё гэта ясна гаворыць нам аб краёвасьці гурткоў віленскіх студэнтаў, каторыя былі пастаўшчыкамі артыкулаў у „Брукавыя ведамасьці“. Зразумела, што Варшаве такі напрамак „крэсавых“ гурткоў зусім не падабаецца. Аб іх мове, якая была прыстасована не для палякоў, а для „літоўцаў“ (так тады звалі і літоўцаў і беларусаў), аўтор артыкулу піша, што яна „кітайская“.

Сябры вышэйпамянёных гурткоў вельмі цікавіліся наогул краезнаўствам. Асабліва працавалі ў гэтым напрамку „Філарэты“. У іх гуртку існавала, нават, друкаваная інструкцыя, як зьбіраць матар'ялы па этнографіі і географіі Беларусі, вельмі дэтальна апрацованая. Інструкцыя пабудована па форме анкеты: яна ставіць зьвязны шэраг запытаньняў, на каторыя кожны, зьбіраючы матар'ялы, павінен даць адказы. Гэтая про-

грама значна палягчала працу зьбіраньня і давала магчымасьць нават сярэдняму студэнту сыстэматычна вясьці навуковую працу. Найлепшым часам для зьбіраньня матар'ялаў былі унівэрсытэцкія зімовыя, вясновыя і летнія вакацыі, калі студэнты, найчасьцей вясковыя жыхары, разьяжджаліся з Вільні па самых глухіх кутках Літвы і Беларусі. Потым найлепш сабраныя і ўпарадкаваныя матар'ялы друкаваліся на старонках „Брукавых ведамасьцяў". Ад студэнтаў цікавасьць да Беларусі пераходзіць і ў вучоныя прафэсарскія колы. Унівэрсытэт ня толькі навукова дасьледвае, але і знаёміць шырокае грамадзянства з археолёгіяй, гісторыяй, помнікамі старога пісьменства, народнай творчасьцю, звычаямі і наогул бытам Беларусі. Такім спосабам, над вывучэньнем Беларусі працуюць ня толькі студэнцкія гурткі, але і прафэсарскія сілы ўнівэрсытэту. З імем Віленскага ўнівэрсытэту зьвязаны навуковыя працы аб Беларусі такіх дасьледчыкаў, як Лукашэвіч, Шыдлоўскі, Голэмбоўскі, Ярашэвіч, Нарбут, Даніловіч і г. д. Яны зрабілі каштоўны ўклад у навуку краязнаўства па розным галінам—гісторыі, этнографіі, літаратуры, географіі, праву і г. д.

Такім чынам, робячы вывад з усяго вышэйпаданага, мы павінны вызначыць, што ўнівэрсытэт і ўстановы Віленскай акругі былі праводнікамі полёнізацыі Беларусі. Яны ставілі сабе патрыётычныя польскія мэты і канчаткова прагнуліся сполёнізаваць дробную беларускую шляхту і разначынцаў. Але разам з тым, сярод гэтых самых полёнізуемых элемэнтаў, унівэрсытэт абуджаў цікавасьць да беларускай культуры і рабіў з іх піонэраў у гэтым сэнсе. Беларускі рух неабходна стаў у сувязь з польскім адраджэнцкім рухам, бо па думкам польскіх патрыётаў, Беларусь уваходзіла, як правінцыя, як аўтономная краіна, у будучую Рэч Паспалітую.

**Ў. Ігнатоўскі.**

# Некаторыя ўвагі на беларускую літаратурную тэрмінолёгію.

**(Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Выпуск другі. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва.** *Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры. Менск, 1923. 8⁰, 74 стр.*).

Найбольш каштоўны бок, але разам з тым найбольш хворае месца, так казаць „Ахілесава пята“ тэрмінолёгічнай працы, якая выпаўняецца цяпер Інстытутам Беларускай Культуры, гэта—пераклад чужаземных тэрмінаў, увайшоўшых у склад расійскай навуковай тэрмінолёгіі, у каторай прыходзіцца перш за ўсё лічыцца ў гэтай працы. Расійцы, агулам кажучы, вельмі прыхільны да запазычаньняў з іншых моваў, і замест таго, каб мудраваць над утварэньнем уласнага тэрміну, як то робяць, напрыклад, немцы й, асабліва, чэхі, бяруць чужы тэрмін у гатовым відзе. Дзеля таго, расійская навуковая мова так і багата чужаслоўямі. Гэтыя чужаслоўі іншы раз заграмаджаюць нават часапісную мову й зьяўляюцца значным прыпынкам для чытачоў сярэдняй і ніжэйшай адукацыі. Пры ўтварэньні беларускай навуковай мовы жадана і, прымаючы пад увагу, што ў сучасных школах клясычныя мовы не выкладаюцца і нават студэнты вышэйшай школы часта ня могуць разабрацца ў значэньні лацінскіх ці грэцкіх тэрмінаў, проста неабходна выкарыстаць для навуковага ўжываньня беларускія словы, ужо істнуючыя, ці ўтварыць новыя з беларускіх карэньняў.

У адносінах-жа да „Тэрмінолёгіі тэорыі і практыкі літаратурнага мастацтва“ прынцып „абеларусіваньня“ навуковых тэрмінаў праведзены з асаблівою выразнасьцю. „Разглядаючы чужаземныя тэрміны, Камісія старалася па магчымасьці даваць, замест іх, толькі беларускія, а калі й пакідаліся чужаземныя, то ўжо такія, што: або агульна-прынятыя, або—пашыраныя і ў народзе. Агулам-жа Камісія лічыла лішнім даваць чужаземныя тэрміны побач з беларускімі, зважаючы на тое, што калі хто захоча карыстацца з чужаземшчыны, то яе знойдзе і паміма беларускай тэрмінолёгіі“...

З паказанага боку натуральней за ўсё і падыйсьці да „Тэрмінолёгіі тэорыі і практыкі літаратурнага мастацтва“.

І вось, калі мы пачнём разглядаць пераклад чужаземных тэрмінаў, то ўжо першыя чужаземныя тэрміны, якія і пачынаюць сабою слоўнік, прымушаюць нас спыніцца на іх перакладзе. Пад № 1 чытаем: „*Абонемент—Перадплата*“, пад № 2: „*Абонент—Перадплатчык*“. Для такога перакладу магчыма знаходзіць падставу у ўкраінскім „передплата“ і поль-

скім „przedpłata“, але „плата“ яшчэ ня ўходзіць абавязкова ў паняцьце „абонемента“, (наадварот, сам абонемэнт можа быць об'ектам платы, дзеля чаго расійцы, напр., кажуць: плата за абонемент); тут абавязковым зьяўляецца „запіс“, заява на той ці іншы прадмет, так што больш дакладным, здаецца, быў-бы пераклад: „перадзапіс“, „перадзапішчык“. Пад № 16 чытаем: „*Автотип—Адбітка*“. Як вядома, „адбітка“ агульна ўжываецца ў сэнсе „оттиск“, і для перакладу „автотип“ можна было-бы выкарыстаць больш сьціслыя словы; напр., у польскай мове даецца пераклад: „cynkotyp, światłodruk“ (гл. Słownik języka polskiego, ułożony pod redakcją Jana Kazłowicza, Adama Kryńskiego i Władysława Niedźwiedzkiego. T. 1. Warszawa. 1900). Пад № 41-м: „*Анаграмма—Надпіс*“. Гэтае ўжо зусім неправільна. У слоўніку „Большая Энциклопедия“ (т. 1. Масква, 1900) чытаем: „Анаграмма (греч.), перестановка букв одного или нескольких слов с целью образования нового слова или предложенія. Напр., читают слово в обратном порядке, Roma-Amor, или переставляют буквы по желанию (Lied-Leid, Vastari-Austria)“. Тожсамае тлумачэньне знаходзім у „Słowniku języka polskiego“: „Anagrama—łamigłówka, polegająca na przestawieniu głosek a zgłosek, np. Adam-dama“... Значыцца, з анаграмы ніякім чынам ня выкраіць перакладу „надпіс“, калі гэтае слова браць у літаратурным ужываньні. Тут побач з ім магчыма толькі адзіночнае тлумачэньне ў беларускай мове: „перастаўка літар“. Пад № 56-м.: „*Анонс—Паведамленьне*“. Таксама перадаецца пад № 122-м і „*Бюллетень*“. Што і „анонс“ і „бюлетэнь“ паведамляюць,—аб гэтым няма спрэчкі, але гэтыя паведамленьні—кожнае асабістага роду. Тут трэба зьвярнуць увагу на тое, што „анонс“ ёсьць паведамленьнем аб тым, што „*мае здарыцца*“, бюлетэнь паведамляе тое, што ўжо *здарылася*; апрача таго, для бюлетэню мае значэньне рэгулярнасьць паведамленьня: (у „Sł. jęz. polskiego“: „Biuletyn—sprawozdanie, doniesienie *zwykłe, codzienne*“). Здаецца, што для „анонс“ больш падыходзіла-б „прадведамленьне“, або „прадвестка“; а слова „бюллетень“ магчыма растлумачыць пабеларуску толькі апісоўна. Пад № 64-м: „*Апологі—Байка*“. Што „апологі“ будзе байкай, гэта—правільна, але ня ўсякая байка—аполог. „Apolog—bajka, w której występują i rozmawiają zwierzęta i drzewa“.

З прыведзеных прыкладаў відаць, што да перакладнай працы трэба адносіцца з вялікай асьцярогай.

Прывядзём у кароткіх рысах іншыя найбольш спрэчныя месцы.

Шмат спрэчнага дае зацьверджанае ў тэрмінолёгіі ўжываньне слоў „часопіс“, „часапіс“ і выводных. Чытаем пад № 166: „*Газэта—Часопіс*“, пад № 259: „*Журнал—Часапіс*“, 260: „*Журналіст—Часапісец*“, 262: „*Журнальный—Часапісны*“, № 1115: „*Публіцыст—Часапісец*“, 1117: „*Публицистичэский—Часапісны*“, 791: „*Орган печати—Часопіс*“. У беларускім слоўніку, які надрукаваны за расійска-беларускаю часткаю, чытаем на стар. 72 пералічэньне тэрмінаў: „Часапіс—166, 259, Часапісец—260, 1115, Часапісны—262, 1117, Часапісь—791“. Тут „Часопіс“ не знаходзім, паправак у пералічэньні „памылак друку“ таксама няма. Запытаньне: чаму такая блытаніна запісу?

Тут бязумоўна вінавайца—рэдактар, але справа ня ў гэтым, а ў тым, якая блытаніна выйдзе з практычнага ўжываньня тэрмінаў у зацьверджаным сэнсе. Няхай будзе растлумачаны такі, напр., сказ: „Часапісец прынёс у часопіс часапісны артыкул!“, або такі сказ: „У часопісу маецца часапісны аддзел!“ Здаецца, што беларускае слова „часопіс“ (або „часопісь“, або „часапіс“, „часапісь“) мае значэньне: „повременная печать“,—

значыцца, ёсьць радавым паняцьцем,—і памылка тварцоў тэрмінолёгіі састаіць у зьмяшэньні роду і відаў. Для апошніх патрэбна затрымаць чужаземныя назвы.

Зваротная памылка дана ў перакладзе пад № 871: „*Педагог—Настаўнік*“, 872: „*Педагогіка—Настаўніцтва*“, 873: „*Педагогический—Настаўнічы*“. Што настаўнік ёсьць пэдагогам, або адносіцца да клясы пэдагогаў, гэта —праўда, але ня ўсякі пэдагог ёсьць настаўнік. Не гаворым ужо аб тым, што пэдагогіка ёсьць не настаўніцтва, а „навука аб настаўніцтве“, і нават не аб настаўніцтве (=рас. „учительство“), калі быць літаральным, а аб „дзетаводзтве“,—і далей ужо „аб выхаваньні“.

Бязумоўна няправільна перадана пад № 364 „интуитивный“, як „падсьвядомы“ і 365 „интуиция“, як „падсьвядомасьць“. Інтуіцыя ня можа быць растлумачана ніякім беларускім, як і расійскім, словам (у „Sł. jęz. polsk.“ тлумачэньне: intuicyjny, intuitywny—przez intuicję, za pomocą intuicji uświadomiony).

Няправільна таксама пад № 864 „*Патетизм-Надпачуцьцёвасьць*“, 865. „*Патетический—Надпачуцьцёвы*“ і 866: „*Патетичность—Надпачуцьцёвасьць*“. Беларускае „надпачуцьцёвасьць“=рас. „сверхчувственность“, „надпачуцьцёвы“=сверхчувственный“. Правільна ў польскім слоўніку даецца гэткае тлумачэньне: „patetyczny—porywający uczuciem, podniosły. uzniosły, a zarazem wzruszający, czuły, ognisty“ (Sł. jęz. pol. t. IV). Парасійску „патетизм“=высшее напряжение чувств, страстность, „патетический“=страстный, возбужденный. Пабеларуску тут магчыма было-б выкарыстаць словы: „узьнёсласьць—узьнёслы“, „палкасьць—палкі“. Само сабою зразумела, што памылкова перадаваць „пафос“ (правільней—„патос“), як „напышлівасьць“, як то зроблена пад № 868-м. Грэц. „pathos“ роўназначна расійскаму „страсть“, апошняе-ж правільна і ў тэрмінолёгіі перадаецца, як „пал“ (№ 1387).

Зусім вольны і недасканалы даецца пераклад пад № 781: „оптимизм-сьветлагляднасьць“, 782: „оптимист-сьветлагляднік“, 783: „оптимистический-сьветлаглядны“ 903: „пессимизм-смутнагляд“, 904: „пессимист—смутнаглядца“ (чаму жа, запытаем, раўналежна „оптимисту“ ня „смутнагляднік“), 905: „пессимистический—смутнаглядны“. Зразумела, што навукова-філёзофскія паняцьці „оптымізм“ і „пэсымізм“ ня могуць быць ператлумачаны дасканала ніводным беларускім словам.

Пад № 1165-м чытаем: „Резонер-Разумавальнік“, 1166 „Резонерство—Разумаваньне“, 1167 „Резонерствовать-Разумаваць“. Гэта—ўжо без патрэбы літаральна. Больш падыходзілі-бы для перакладу: „пустаслоў“—„пустаслоўе“,—„пустасловіць“.

Ляпей было-б перадаць: пад № 321 „изотонический“ не „аднагучны“, а „роўнагучны“, 471 „лаконизм“ не „маласлоўе“, а «кароткаслоўе», 541 „мелодический“ ня „мілагучны“, а „міласьпеўны“, 680 „неологизм“ не „новатвор“, а „новаслоўе“, 681 „неологический“—„новаслоўны“, 640 „нарицательный“ не „агульны“, а больш дакладна „назоўны“, як перадана пад № 692 „номинальный“, 932 „пластичность“ не „выпукласьць“, а „вобразнасьць“, 933 „плеоназм“ не „многаслоўе“, а „зьлішслоўе“, 962 „полемика“ не „спрэчкапіс“, а проста „спрэчка“ (запраўдна: бывае і вусная палеміка), 1402 „сумбур“ не „недарэчнасьць“ (гэта будзе „абсурд“), а „бязладзіца“.

Зусім няўдалыя новаўтварэньні даны пад №№: 345 „инсценизатор—усцэнізатар“, 346 „инсценировка—ўсцэнізаваньне“ й 347 „инсценировать—усцэнізаваць“. Гэта—ані беларуская транскрыпцыя, ані беларускія словы.

Зробленымі паказаньнямі зусім ня мелася на ўвазе зганебіць вельмі каштоўную перакладна-тэрміналёгічную працу. Жаданна, зноў паўтараем, толькі асьцярожнасьць, асабліва ў адносінах да чыста навуковых і філёзофскіх паняцьцяў.

Агулам кажучы, лінія працы правільная. Большасьць тэрмінаў перадана досыць удала. Мабыць, і некаторыя з вышэйпрыведзеных спрэчных тэрмінаў тлумачацца проста недаглядам рэдактара. Гэта мы можам дапусьціць, у частковасьці, у адносінах да тых выпадкаў, дзе даецца переклад „часопіс“ у розных адменьніках. Такая самая думка ўзьнікае ў нас і ў адносінах да перакладу „анаграмма“—„надпіс“. Знаходзім для сябе падставу ў той акалічнасьці, што наступны за „анаграмма“ тэрмін пад № 43 таксама пераданы „надпіс“.

І зноў, зусім немагчыма адмаўляць неабходнасьці перакладу чужаземных тэрмінаў.

Наадварот, шкода, што некаторыя тэрміны, якія паддаюцца перакладу, застаўлены без яго.

Напр., зусім магчыма перадаць у беларускую мову словы, застаўленыя ў тэрміналёгіі без перакладу!

авторитет—павага, або паважнасьць;
клерикализм—царкоўніцтва, або касьцёльніцтва;
клерикальный—царкоўніцкі, або касьцёльніцкі;
композитор—сукладальнік;
композиция—сукладаньне;
копия—сьпісак, або зьнімак;
параграф—разьдзел;
пентаметр—пяцімер, або пяцістоп (і ў тэрміналёгіі пад № 173;
гексаметр—шасьцістоп, шасьцімер);
симфония—сугучнасьць;
социальный—грамадзянскі.

Цікава адмеціць, як прыклад непасьлядоўнасьці, што ў тэрміналёгіі іншы раз расійскія тэрміны перадаюцца чужаземнымі, а не беларускімі. Асабліва паказальны прыклад са словам „моральный“. Пад № 601 гэтае слова перадаецца: „навучальны, абычайны“, а пад № 696 чытаем: „нравоучительный—навучальны, *маральны*“.

Агулам кажучы, адсутнасьць здавальняючай пасьлядоўнасьці прадстаўляе сабою значны недахват літаратурнай тэрміналёгіі. Дзеля таго й перадаецца „ассонанс“, як „сугалосьсе“, а „диссонанс“, як „рознагучнасьць“, „эффония“ перакладаецца, як „мілагучнасьць“, а „симфония“ застаецца без перакладу. Абразцовы ўзор непасьлядоўнасьці даны ў №№ 803-806. У гэтым выпадку чытаем: „осмысленность—уразумленасьць, сэнсоўнасьць“, „осмысленный—сэнсоўны“, „осмыслить—уразумець“, „осмыслять—азмысьляць“.

З боку транскрыпцыі бязумоўна няправільным трэба прызнаць напісаньне „Ёнічны“ (к тэрміну: „ионический стих“, № 369). З грэцкага сукладаньня „йот“+„омэга“ ніколі ня можа выйсьці „ё“.

Што тычыцца перадачы расійскіх тэрмінаў, то тут можна адмеціць гэткія выпадкі:

Чаму-та, замест агульнапрынятага для абазначэньня паняцьця „восприятие“ слова „ўспрыйманьне“, досыць яснага па зьместу, прапануецца цьмяны і вельмі падобны да слова „перайманьне“ („подражание“) тэрмін „пераняцьце“; блізказначныя „мировоззрение“ і „миросозерцание“ перадаюцца першае як „сьветагляд“, а другое „сьветапогляд“ (правільна

было-б наадварот); „общеупотребительный“ замест штучнага і дасло̆уна літаральнага „агульнаўжываны“ магчыма перадаваць праз „агульнапрынятты“—(цікава адмеціць, што гэты тэрмін якраз ужываецца ў прадмове да тэрмінолёгіі); „окончательный“ было-б лепей у згоднасьці з перадачай «окончание—канчатак» перадаць „канчатковы“ замест „канчальны“, „преемственность“ у розьніцу ад „подражательность“ (№ 953-„пераймальнасьць“) не „пераймальнасьць“, а „пераступнасьць“, „подчинение“ не „залежнасьць“, а „падлегласьць“; „руссицизм“ не „маскалізм“ (гэтае слова можа адносіцца ў сьцісла-навуковым сэнсе толькі да зваротаў, прынятых у Маскве й Маскоўшчыне, а „русіцызм“, або „вялікарусіцызм“, для перадачы слоў „совет“ і „советский“ апрача „рада-радавы“ трэба было-б увясьці цяпер агульнапрынятыя „савет“ і „савецкі“, ня кажучы ўжо аб тым, што ад „рада“ прыметнае імя будзе не „радавы“, а „радны“.

Уплыў з боку расійскай мовы выразна выступае, напр., у словах: „мысьліцель“ (№ 613), „абаснова“ (№ 715), „абаснаваны“ (716), „даравітасьць“ (№ 741), „даравіты“ (742), „пасьляслоўе“ (№ 991), „палюбоўнік“ (№ 523) і нек. інш.

З другога боку, бязумоўна трэба прызнаць полёнізмамі словы: фарса (№ 1549=фарс, фран. «farce», толькі ў польскай мове мог зьявіцца канчатак „а“ дзеля правіл тонічнага вымаўленьня), „радавод“ (№ 174= генеалогия, polsk.-„rodowód“, правільна з філёлёгічнага боку: „радаслоўе“), „драматыка“ (№ 243)—драматургия; „драматыка“ сустракаецца толькі ў польскай мове „тандэтны“ (№ 520 „лубочный“).

Трэба ўрэшце зьвярнуць увагу на нязгоднасьць паміж літаратурнай і матэматычнай тэрмінолёгіямі ў адносінах да некаторых тэрмінаў: У матэматычнай тэрмінолёгіі чытаем пад №№ 730 и 731 „тождественный—тожсамы“, „тождество—тожсамасьць“, у літаратурнай тэрмінолёгіі даюцца для азначэньня гэтых паняцьцяў словы: „тоесамы“—„той самы“, „тоесамасьць“ (№ 1458—1460, „тождественность—тоесамасьць“, „тождественный—тоесамы“, але пад № 305 „идентичный—той самы“). Натуральна было-б зацьвердзіць для аднакіх паняцьцяў адзін які-небудзь азначаны тэрмін.

У прадмове да тэрмінолёгіі знаходзім тлумачэньне самага загалоўку: „*Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва*“. З яго відаць, што спачатку мелася на мэце апрацаваньне сьцісла стылістычнай тэрмінолёгіі, г. з. па тэорыі прозы і поэзіі. Але ўжо дзеля таго, што „тэорыя прозы і поэзіі шырока абхоплівае ўсе галіны літаратурнага мастацтва“, творцы тэрмінолёгіі не маглі абмежавацца пастаўленай мэтай. Апрача таго, пры апрацаваньні толькі стылістычнай тэрмінолёгіі пагражала небясьпека даваць ледзь ня выключна чужаземныя тэрміны ў беларускім правапісе...

Абшырнасьцю прынятага заданьня тлумачыцца й аб‘ем тэрмінолёгіі,—1706 тэрмінаў процiў 901, якія, напр., даны ў выпуску матэматычнай тэрмінолёгіі. Усяго было апрацавана, як відаць з прадмовы, дакладчыкам 2500 слоў. Якія тэрміны не папалі ў друк — невядома. Але з тых, якія надрукаваны, маюцца зусім лішнія,—напр. „абонемент“, „абонент“, „божественность“, „божество“, „волшебник“, „евангелический“, „зрительный зал“, „изваяние“, „издательство“, кулисса“ і інш. Агулам кажучы, магчыма было-б ня ўводзіць філёзофскіх, сьцісла-псыхолёгічных, а таксама друка-тэхнічных тэрмінаў, якія апрацоўваюцца, як нам вядома, асабліва.

З другога боку, некаторыя тэрміны, якія маюць простае літаратурнае значэньне, апушчаны. Напр., няма такога важнага тэрміну, як „ложноклассицизм“. Ня знойдзем тэрмінаў адносных да будоўлі мовы (напр.: „речь отрывистая“, „речь смешанная“; апушчана ўся тэрмінолёгія парыядычнай мовы).

Трэба спадзявацца, што літаратурная тэрмінолёгія ў далейшых выданьнях атрымае больш сьціслы і поўны характар.

Слоўнічак беларускі, як відаць і з папярэдняга, патрабуе выпраўкі. Жаданьнем дапамагчы давядзеньню тэрмінолёгічнай працы да дасканаласьці тлумачыцца і гэты разбор „літаратурнай тэрмінолёгіі“.

У літаратурнай тэрмінолёгіі, у частковасьці, мы бачым адну з найбольш каштоўных дзеля паступовай перадачы ў беларускую мову чужаземных тэрмінаў частак агульнай тэрмінолёгічнай працы й за тое, што зроблена сябрамі Гуманітарнай сэкцыі Інстытуту і яе старшынёй Я. Купалай,—дакладчыкам пры апрацоўцы літаратурнай тэрмінолёгіі, трэба казаць ад імя беларускага пролетарыяту шчырае „дзякуй“.

**Аглядальнік.**

# Уступамі да Акцябра*).

(*Матар'ялы да гісторыі Савецкай Беларусі*).

## II.

Пецярбурскія гарадзкая і раёнимя організацыі Беларускай Соцыялістычнай Грамады, як клясова, так і настраёва, выказвалі сабою моцна з'організованае і крэпка зьлітнае ядро ва ўсёй Грамадзе. За гэтым у справе ўнутранай, беларускай, за пецярбурскімі організацыямі Грамады аставалася рашучая сіла.

Само сабою зразумела, што гэткае становішча накладала на пецярбурскія організацыі адпаведна цяжкія павіннасьці перад рэволюцыяй і перад інтарэсамі беларускага працоўнага люду. Увесь цяжар утрыманьня далейшага разьвіцьця беларускага руху ў рамках найбольшай рэволюцыйнасьці мусіў апасьці на іх плечы.

Гэта яскрава выяўлялася ня толькі цэнтральным комітэтам Грамады, а і амаль ня кожным сябрам пецярбурскіх гарадзкой і раёнцых організацый. Аднак гэтаму многа перашкодзілі ўмовы адарванасьці гэтых організацый ад краю.

Дзякуючы апошнім умовам, рэальнае значэньне працы пецярбурскага цэнтру многа губіла ў сваім уплыве на агульны беларускі рух. Калі ў самым Пецярбурзе левыя элемэнты чуць ня цалкам захапілі ў свае рукі організацыі Грамады і выбілі грунт з-пад ног усіх іншых беларускіх політычных і нацыянальных фармаваньняў, то зрабіць тое ў Менску было немажліва.

Вядома, гэта падлічалася беларускімі буржуйна-шовіністычнымі элемэнтамі, якія пакрысе зьбіраліся ў Менску і гуртаваліся навакол заснаванага ў канцы сакавіка 1917 г. Нацыянальнага Комітэту. Фактычная перавага ў комітэце сяброў з Соцыялістычнай Грамады аставалася на паперы з тае прычыны, што яны не знаходзіліся ў Менску, і ўсімі справамі яго варочалі старшыня комітэту памешчык Р. Скірмунт і памошнік старшыні, будучы бандыт П. Аляксюк. Застаўлены ў Менску адзін сябар комітэту з Соцыялістычнай Грамады—С. ня мог удзяліць належнай увагі комітэцкай працы, нясучы на сабе ўсе партыйныя абавязкі, і ўрэшце, фактычна, нацыянальны комітэт аставаўся ў руках варожых беларускаму рэволюцыйнаму руху, варожых самой рэволюцыі беларускіх шовіністых.

Гэткае становішча стварала, сапраўды, няпрыхільныя ўмовы для пашырэньня беларускага рэволюцыйнага руху. Болей таго, яно давала багатую

---

*) Глядзі № 5—6 „Полымя".

справу ўсякім ворагам яго, якія, в пенаю ў роце, хапаліся за кожную рэч, каб толькі найбольш скомпромітаваць сапраўды справу беларускага працоўнага люду. Хаўрусуючыся з кадэтамі, царскімі гэнэраламі й памешчыкамі, з усякаю брыдотаю й чарнотаю, эсэры й меньшавікі падводзілі ўвесь беларускі рух пад выпадкова захопленых у яго Р. Скірмунта і некалькіх яго блізкіх.

Хібы гэтага становішча не маглі не адчуваць ў пецярбурскіх організацыях Бел. С. Грамады. Наадварот, некаторую фальш яго, якую вытыркаў удзел Грамады ў Нацыянальным Комітэце, кожны сябар пецярбурскай організацыі адмячаў сабе досі ясна. Найбольш дацінала гэта раёнвыя організацыі, у якіх з кожным днём насьпявала пытаньне пераконструіроўкі цэнтральнага прадстаўнічага органу. Зусім не гадзілася з вакольнымі абставінамі сумеснае жыцьцё выразна лявеючага рэволюцыйнага беларускага руху з фактычна шляхецка-буржуйнай агульна-нацыянальнай установай яго.

Рэволюцыя, якраз, к гэтаму часу зрабіла круты ўхіл улева, падыйшоўшы да гістарычных ліпнёўскіх днёў*), і беларускім рэволюцыянэрам нельга было стаяць на месцы.

Гэткім чынам было падойдзена да склікаьня зьезду прадстаўнікоў партыяў і организацыяў. Зьезд быў назначан у Менску на 8 ліпеня, калі й адчыніўся. У адлічча ад зьезду грамадзянскіх дзеячоў, дзе зусім мала адмячаліся міжпартыйныя і міжклясовыя супярэчкі, зьезд партыяў і організацыяў выявіў у сабе яскравыя адзнакі надыйшоўшага расслаеньня беларускага руху на два варожых станы. Уся праца зьезду прайшла ў гострым змаганьні між Соцыялістычнаю Грамадаю і Беларускай Партыяй Народных Соцыялістых, якая на чале з Аляксюком згрупавала ў сабе ўсе права-шовіністычныя элемэнты з управы комітэту і з прыехаўшых на зьезд. Сам Скірмунт, які пачуў сябе непадхадзячым к бягучаму часу, зьняў сваю кандыдатуру на ўсякія выбары, усё-ж такі парызыкаваў падыйсьці да Партыі Народных Соцыялістых і ў ролі яе сябра паабяцаць дарэмна аддаць зямлю сялянам. Але гэта была дань часу, як тэю-ж даньню была і ўся(!) Беларуская Партыя Народных Соцыялістых, цалкам ўваходзіўшая ў склад фракцыі зьезду. У той час, пакуль нельга было выступаць без ярлыку соцыялістага, гэты ярлык падабраў сабе П. Аляксюк, у выглядзе Партыі Народных Соцыялістых. Унутраны зьмест гэтай партыі выявіўся найпаўней у працягу зьездаўскіх спрэчак. Спрэчкі гэтыя ўзьняла фракцыя Бел. Соцыял. Грамады, якая была ўпаўнамочана Грамадою дабіцца заснаваньня як найлявейшага прадстаўнічага органу. Трэба было, у інтарэсах выяўленьня сапраўднай сутнасьці беларускага рэволюцыйнага руху, адрэзаць усякую сантымэнтальную „агульнанацыянальнасьць“ побач са Скірмунтам і ксяндзамі; трэба было стаць перад тварам рэволюцыі ў сапраўдных узаемаадносінах клясавых сіл у беларускім руху, і на гэта Грамада накіравала. Існаваўшы з пачатку рэволюцыі Нацыянальны Комітэт, захоўваў гэтыя ўзаемаадносіны і тым самым перашкаджаў нармальному разьвіцьцю беларускіх рэволюцыйных сіл. Ясна—што ў далейшым нельга было заставіць у новым органе з сяброў Камітэту ніводнага чалавека, каб гэтым сьцерці ўсякую праемнасьць з ім.

Аднак гэта заданьне для фракцыі Бел. С. Грамады на зьʼезде было цяжкавата выканаць з-за розных прычын, між якімі галоўнейшыя—гэта: меншасьць яе ў параўнаньні з фракцыямі Беларускай Партыі Народных Соцыялістаў і фракцыяй непартыйных разам і недасканаласьці зʼорганізаванасьці між самімі сябрамі Грамады. Таксама далучылася к гэтаму й не пасьпеўшая рашучасьць разьбіць на часткі яшчэ неакрэпшы якраз рух, што бязумоўна многа пашкодзіла-б і самай рэволюцыі.

*) 4-5 ліпеня адбылося паўстаньне бальшавікоў у Пецярбурзе.

Усё гэта разам, як дань часу, дыктавала фракцыі Грамады на зьезьдзе вясьці тонкую і асьцярожную палітыку ў справе выбараў у Выканаўчы Комітэт Рады Беларускіх арганізацыяў і партыяў, якую зьезд рашыў абраць на зьмену Нацыянальнага Комітэту. Для відавочнага ядынства руху ў выстаўлены сьпіс кандыдатаў фракцыя Бел. С. Грамады ўставіла некалькі больш прыемных для яе асоб з іншых кірункаў. Усё ж гэта было рэзкім вызавам супраціўнай старане, і яна прыняла яго, выставіўшы ў піку грамадаўцам спісак з самымі непажаданымі дзеля апошніх асобамі. Урэшце, пасьля падліку галасоў, выявілася, што ў сябры рады аказаўся выбраным і быўшы таварыш старшыні Нацыянальнага Комітэту—той-жа П. Аляксюк.

З гэткай сытуацыяй ніяк не хацелі згадзіцца грамадзісты, бо то было бы роўназначна аддачы беларускага рэволюцыйнага руху на далейшую яго компромітызацыю,—болей таго, то сьведчыла-бы аб слабасьці яго рэволюцыйных традыцый. Разумеючы гэта, фракцыя Бел. С. Грамады зьезду рашыла ўжыць рэволюцыйны мэтод, каб зьмяніць непажаданую комбінацыю сіл, і назаўтра-ж падала прапазыцыю назначыць новыя выбары. Сваю прапазыцыю грамадаўцы матывавалі пасьпешнасьцю выбараў, дзякуючы чаму ў сябры Рады папалі шкодныя для беларускага рэволюцыйна-нацыянальнага руху асобы. Гэта было сернікам, кінутым у газу: падняліся крыкі, протэсты. Фракцыя зьезду Беларускай Партыі Народных Социялістых, чуючы, куды пакіраваны стрэлы, патрабавала конкрэтна паказаць, хто ёсьць тым шкоднікам, і тут-жа дастала адказ старшыні зьезду: „Гэта—Аляксюк“. Таварышы апошняга па фракцыі, а таксама некаторыя непартыйныя, блізкія па політычнай афарбоўцы да Аляксюка, прынялі абразу апошняга за абразу ўсёй Беларускай Партыі Народных Социялістых і рэзка запротэставалі.

Але на іх протэст ня было зьвернута жаднай увагі, і выбары адбыліся нанова.

У скутку гэтых выбараў у Выканаўчы Комітэт Рады беларускіх арганізацый і партый папалі выключна кандыдаты Грамады.

Гэтым была разьбіта другая чародная акцыя будучай беларускай белагвардзейшчыны. Пасьля выбараў, фракцыя Беларускай Партыі Народных Социялістых аднатавала ў заяве да зьезду Белар. С. Грамаду гэткімі словамі: „Бел. С. Грамада на зьезьдзе 8-10 ліпня 1917 году, зьяўляючыся большасьцю, уносіла дэзорганізацыю ў працу зьезду й гвалтавала меншасьць яго“, і далей—„дарога, па якой Бел. С. Грамада хоча вясьці нашу агульную працу, можа быць перашкоднай да шырокага культурна-нацыянальнага адраджэньня Беларусі“. Праз гэта „Беларуская Партыя Народных Социялістых, ня маючы магчымасьці браць часьціну адказу перад беларускай нацыяй за кірунак працы зьезду ў момант *агульнага бязладзьдзя* (Курсіў наш Ж. Х. З.), адзывае сваіх прадстаўнікоў са зьезду і пастанаўляе давясьці аб гэтым да ведама беларускага народу.*)

Гэта мажлівасьць была дадзена Беларускай Партыі Народных Социялістых. Але выпаўніць яе ня прышлося. Беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух фактычна грунтаваўся на працоўных элемэнтах беларускага народу. У моц гэтага, ён ня мог заставацца ў нярухомым становішчы, што значыла тады—адыходзіць ад рэволюцыі: наадварот—праз большасьць Бел. С. Грамады ён сягаў побач з самымі левымі кірункамі агульна-расійскага руху. Усё здаровае, правідкае гуртавалася навокал левага крыла Социялістычнай Грамады, галоўным чынам яе Пецярбурскіх—і пасьля—Бабруйскай арганізацыяў. Так што, даводзіць да ведама сваю крыўду Беларуская Партыя На-

*) «Вольная Беларусь» № 13, 1917 г.—Зьезд дэлегатаў...

родных Соцыялістых магла толькі некаторым, нязначным адзінкам з свайго лагеру, або зусім таіць яе ў сваім нутры. Фактычна—асталося апошняе.

З затаенай крыўдай адыйшлі на гэты раз ад чыннага ўдзелу ў беларускім руху яго злыя гэніі—Р. Скірмунт, П. Аляксюк і блізкія ім.

Аднак і гэткія скуткі зьезду прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў і партыяў не здаволілі большасьць Бел. С. Грамады. Рэволюцыя нясупынна паглыблялася, раскройваючы ўсё рашучай ды рашучай людзкія гушчы на два варожыя станы. Перамогшы паўстаньне бальшавікаў 4-5 ліпня, схаўрусованыя эсэры-меншавікі й буржуазія пайшлі ў адкрыты наступ на працоўныя гушчы. Была ўведзена сьмяротная кара на фронце, павялося бяспутнае наступленьне на Паўднёва-Заходнім фронце, акончанае дужа дрэнна для Расіі. Сярод вайсковай белагвардзейшчыны пачалі віцца сеткі загавораў, сплятаючы выступ Карнілава (26 жніўня). Усе адзнакі сьведчылі аб тым, што рэволюцыі грозіць яўная небясьпека. Тут ужо вытыркала перад кожным пытаньне: куды йсьці і з кім быць? Стала гэта пытаньне й перад беларускімі партыямі. Карнілаў, контр-рэволюцыя—то гібель усякаму нацыянальнаму руху. Тым болей—яшчэ неакрэпшаму—беларускаму. Значыць, супроціў гэтай пагрозы! Але тут у многіх згоднікаў вытыркала новае дражлівае пытаньне: ці не захопяць уладу бальшавікі, калі ўрад рашуча выступіць супроць белых гэнэралаў?

У Петраградзкіх арганізацыях Соцыялістычнай Грамады ня было дзьвюх думак наконт гэтага: мусіць улада перайсьці да працоўнага народу, бо толькі тады можа ў поўнай меры эжыцьцёвіцца ідэал беларускага рэволюцыйнага руху—поўнае вызваленьне беларускіх працоўнікаў ад нацыянальнага прыгону. Буржуазія—хоць і свая, хоць і натхненая адраджэнцкім духам—усё-ж буржуазія. Значыць—яна вораг... Ды ня толькі буржуазія, а і соцыялзгоднікі: яны таксама шкодны ў рашучыя хвіліны схваткі дзьвюх сіл. Усякія намёкі на прымірэньне з імі павінны быць адкінуты. А ў Выканаўчым Комітэце Рады арганізацыяў якраз і засталіся гэтыя ненадзейныя элемэнты. Грамада павінна пільна сачыць за імі і старацца, каб перарабіць Раду на свой, выразна рэволюцыйны лад. Праўда, многія адзнакі паказвалі на набліжэньне гэткіх умоў; галоўнае—трэба было падцягнуць да Петраградзкіх арганізацыяў некаторыя адстаўшыя арганізацыі Бел. С. Грамады. Гэта давалася ня так лёгка.

На першай сэсыі Рады арганізацыяў і партыяў 5-6 жніўня дэлегаты Пецярбурскай Нараўскай раённай арганізацыі Бел. С. Грамады рашуча пачалі асуджаць трусьлівую політыку Рады, яе ўсё яшчэ нескасаваную тэндэнцыю прадстаўляць агульна-нацыянальны рух і інш. Напады былі досыць значныя і мелі важкі ўплыў на сэсыю. Пэўна, яны не далі таго, што магло збыцца некалькі часу пазьней, але ўсё-ж былі паказчыкам няўхільнага павароту беларускага рэволюцыйнага руху ў пераважнай яго большасьці.

Праўда, у Петраградзе таксама нельга было абыйсьціся без таго, каб пасылаць на розныя зьезды й нарады выключна інтэрнацыяналістычна-настроеных сяброў, усё-ж, за вылучэньнем Я. Варонкі, больш ніхто яго ўмераннасьці не пасылаўся нікуды. На дэмократычную нараду, у савет нацыянальна-соцыялістычных партыяў, у пецярбурскі савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і інш. пасылаліся выразна левага кірунку людзі.

Трэба адзначыць да выпадку, што, пры пачатку аднаўленьня ў сакавіку 1917 году легальнай чыннасьці Бел. С. Грамады, у яе ўплыло шмат народніцкіх элемэнтаў. Старая програма Грамады мела ў сабе досыць выразныя моманты народніцкіх ухілаў. Апроч гэтага, самы характар экономічнага становішча Беларусі, як краіны земляробскай, дапамагаў ужытку народ-

ніцтва, даючы рэволюцыйнаму руху найбольш сялянскі адбітак. Але супроціў загрузнасьці Бел. С. Грамады з боку народнікаў усталі беларускія рабочыя з фабрык і заводаў, якія ў многа разоў пераважвалі апошніх. З часам-жа, калі нацыянальная політыка эсэраў-меншавікоў усё больш і больш выказвала свае адмоўныя бакі, выклікаючы гострыя напады, наплыў народніцкіх элемэнтаў у Грамаду зьменшаўся. Да гэтага, створаная новая програма яе была цалкам прыстасована да марксыцкай, і Бел. С. Грамада выраўнялася па партыі марксыцкай. Уперадзе йшлі Пецярбурскія райённыя і гарадзкая організацыя, за імі Бабруйская, Менская і г. д. І водлуг таго, як перадавыя організацыі Бел. С. Грамады адыходзілі ўлева, менш рашучыя, з неаджытым духам згодніцтва, у той-жа меры правелі, мяжуючы з рознымі наслойкамі і фармаваньнямі правых кірункаў, і адпадалі. Апошнія, як-бы ў сілу закону політычна-клясавай дыфэрэнцыяцыі беларускага руху, зьбіраліся ў адно і цягнулі да Менску, дзе абмацвалі глебу да грунтоўнага абсталяваньня.

Чым бліжай да акцябра, тым выразьней і адметней выдавалася расслаеньне беларускага нацыянальнага руху і ў яго цэласьці і папартыйна. Ужо ў верасьні месяцы 1917 г. выясьнілася, што ў Бел. С. Грамадзе фактычна істнуюць два напрамкі, левы й правы. Сымптомы іх зьявіліся бадай ня з першых дзён пасьля рэволюцыі. А ў канцы мая месяца, перад зьездам Грамады, гэтыя сымптомы выліліся ў адкрытыя непаразуменьні паміж яе Пецярбурскімі і Маскоўскай організацыямі на-конт месца і часу зьезду. Але першы пэрыяд, да жніўня месяца прыблізна, гэтыя шурпатасьці згладжваліся шырокай організацыйнай працай. Далей, вядома, нішто не магло скрыць вымаганьня закону разьвіцьця рэволюцыі, які вытыркаў напаверх усякія супярэчнасьці. У нутры Бел. С. Грамады яны, таксама, не маглі захоўвацца на далей, і што раз—то ўсё рабіліся прыметней. Аставалася трапіцца выпадку, каб з гэтых супярэчнасьцяў вырасла высокая сьцяна, праз якую немажліва ўжо перакінуць тыя ці іншыя лыгаючыя ніткі. Гэты выпадак не заставіў сябе доўга чакаць.

15 акцябра 1917 году ў час скліканьня другое сэсыі Рады беларускіх організацыяў і партыяў адбыўся фактычны раскол Бел. С. Грамады надвое. Прычынай было здарэньне, якое разыгралася навакол пытаньня аб пасылцы дэлегатаў у Раду Народаў, абраную зьездам прыгнечаных народаў Расіі ў Кіеве. Пабываўшы на гэтым зьевьдзе, сябра Рады беларускіх організацыяў Л., калі дайшло пытаньне да выбараў далегатаў у Раду народаў, выказаўся так (прыблізна): „У Раду Народаў мы мусім пасла́ць ад сябе моцных вучоных людзей. На зьезьдзе іншыя народы былі прадстаўлены дужа моцнымі людзьмі. Мы не павінны ганяцца за партыйнасьцю, а мусім глядзець з погляду карысьці агульна-нацыянальнай справе“. Гэтыя словы былі ўводам да прапазыцыі дэлегаваць у Раду Народаў... Р. Скірмунта. Ня гледзячы на тое, што Р. Скірмунт быў адпіхнуты ўбок ліпнёўскім зьездам беларускіх організацыяў і партыяў і да другой сэсыі Рады амаль ня ўмешваўся ў ніякія справы—да чаго было ўжо прывыкнута—створаная атмосфэра сэсыі ня выказала ніякага протэсту супроць гэтага „дзеяча“. Наадварот, досыць значная правая палова сяброў сэсыі, падмацаваная расплылучатай тактыкай правых грамадаўцаў, ахвотна падхапіла імя Р. Скірмунта. У тумане абвостранай агульнасьці нацыянальных заданьняў забываліся імі іхнія-ж прамовы і пастановы на зьевьдзе Бел. Соц. Грамады, які адбываўся поруч з сэсыяй Рады (14-20 кастрычніка) і на якім ужо шмат трацілася сілы на ўрэгуляваньне супярэчак між правым і левым крыламі яе. Справа ўжо дайшла да абраньня. Але перад тым, як падаваць галасы, прадстаўнікі левага напрамку Бел. С. Грама-

ды запрапанавалі зрабіць нараду, каб на выбары пайсьці зьяднана і не дапусьціць абраць ні Р. Скірмунта, ні каго іншага з непажаданых ёй людзей. Аднак зрабіць нарады не ўдалося. У некаторых сяброў Грамады правага ўхілу адпала ўся рэволюцыйнасьць—агульнасьць справы затуманіла іх ушчэнт. Тронутыя „да глыбіні душы“ пачуцьцём сантымэнтальнага патрыётызму, яны заліліся сьлёзамі „уміленьня“ (Бадунова) і патапілі сваю клясавую абасобнасьць у частых і гучных овацыях розным дзеячом. Сваім-жа левым сябрам, каторыя дапомнілі аб заданьнях соцыялістых, намякнулі праз „шкодную абмылковасьць“ падаграваць непатрэбную к часу супярэчнасьць інтарэсаў... Болей таго, былі зроблены нават і лічныя выпады супроціў аднаго з прадстаўнікоў Пецярбурскай організацыі Бел. С. Грамады.

Гэткая сытуацыя на сэсыі Рады сьведчыла аб тым, што далей нельга захоўваць штучнага адзінства ня толькі ва ўсім беларускім руху, а і ў Бел. С. Грамадзе ў асобку.

На вуліцы, за сьценамі будынку, дзе разыгрываўся гэты інцыдэнт, увачавідкі накіпаў вялікі акцябарскі выбух. Рэволюцыйныя сілы зьбіралі свае палкі для апошняга рашучага ўдару па разбазыранаму ворагу. Гіроніяй зычэлі ўсякія словы аб агульнасьці нацыянальных інтарэсаў. Ужо было ясна, куды вядзе дарога праз гэту агульнасьць. Не спасала ад гэтага і паказная рэволюцыйнасьць „чыстай сялянскасьці“ беларускага руху, пад што хаваліся розныя выпадковыя падарожнікі яго разам з сантымэнтальнымі грамадзістамі.

Гэта разумелі прадстаўнікі левага кірунку Бел. С. Грамады і водлуг свайго разуменьня зрабілі адпаведны вывад: яны дэмонстрацыйна выйшлі з пасяджэньня сэсыі Рады і на сваёй парадзе рашылі фактычна замацаваць насьпеўшы пакол Бел. С. Грамады на двое: на левую, незалежную, часьціну і на часьціну правую, згодніцкую. За першаю засталіся Пецярбурскія гарадзкая і раёныя організацыі і Бабруйская, за другою—усе астатнія.

Пры гэткіх умовах захапіў беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух чырвоны Кастрычнік, пасьля якога пачалася новая часьціна гісторыі яго разьвіцьця.

Ж. Х. З.

# Максім Багдановіч як поэта імпрэсыяністы.

Максім Багдановіч, 6 гадоў таму назад без пары пагасшы пад блакітным небам прыгожага, але далёкага Крыму,—гэты малады і шмат абяцаўшы талент займае ў гісторыі беларускага пісьменства асобнае месца, якое перш ад усяго азначаецца яго пахаджэньнем і асаблівымі абставінамі яго жыцьця.

Песьняры Беларусі ў большай сваёй частцы паходзяць з клясы сялянскай альбо пролетарскай; наш поэта па свайму пахаджэньню належыць да паміжклясавай групы працоўнай інтэлігэнцыі (бацька яго быў настаўнікам гімназіі). Далей большая частка поэтаў Беларусі набывала разьвіцьцё шляхам самаадукацыі; крыніцамі іх натхненьня служыла блізкасьць да народнай глебы; ад дотыку да гэтай глебы яны атрымоўвалі сваю моц і сілу. Жывучы на ўлоньні прыроды, першыя свае песьні яны складалі ў унісон з завываньнем глухога беларускага бору, укалыханыя ціхім шопатам родных ніў, зачараваныя сумнымі, хапляючымі за душу мэлёдыямі родных песьняў... Зусім інакш склаўся жыцьцёвы лёс М. Багдановіча. Ен атрымоўвае сыстэматычную адукацыю, набывае веду амаль што ўсіх эўропэйскіх моваў, грунтоўна знаёміцца з творамі корыфэяў сусьветнай літаратуры. У якасьці эпіграфаў да сваіх твораў наш поэта часта прыводзіць у орыгінале выпіскі з Дантэ, Hugo, Вэрлена, Гейнэ, Пушкіна, Брусава і інш. Гэтак шырок быў літаратурны кругавід М. Багдановіча.

Зусім іншыя, чым у большасьці беларускіх поэтаў, былі і надворныя ўмовы яго жыцьця. Лёс надта рана, яшчэ ў дзіцячыя гады, адрывае яго ад роднай глебы Горадзеншчыны і ставіць яго ў абстаноўку гарадзкога жыцьця. М. Багдановіч выхоўваецца спачатку ў Ніжнім Ноўгарадзе, а потым у Яраслаўлі. Замест сталага, вякамі ўтворанага быту беларускай вёскі, з якой зьвязана муза большасьці беларускіх поэтаў, песьняра акружае пстрыкаты быт буйных гандлёвых цэнтраў Паволжжа; замест аднастайных уражаньняў вясковага жыцьця, ён з маленства ўспрыймае, праймаецца ўражаньнямі кіпучага жыцьця гораду з яго нэрвовасьцю, шматкалёрнасьцю, рухавасьцю... У вёсцы, дзе выхоўваліся Янка Купала, Якуб Колас і іншыя песьняры Беларусі, жыцьцё цячэ павольна, адліўшыся ў пэўныя формы, закасьцянеўшы ў рамках традыцыі вякамі складаўшагася быту. Як на паверхні соннага ляснога возера ледзь заметны хвалі гэтага жыцьця, ад усяго тут вее супакоем і цішшу, усё нахіляе тут да ціхай задуманасьці, разважанасьці. Атмосфэра места зусім іншая. З кінематографічнай хуткасьцю тут адны праявы зьмяняюцца другімі, бурляць і пеняцца тут хвалі жыцьця, душа не пасьпявае тут перарабляць усіх надворных уражаньняў, яны коўзаюцца на яе паверхні, адны ўступаючы месца дру-

гім. У гэткай атмосфэры жыў М. Багдановіч, асабліва ў Ніжнім-Ноўгарадзе. Перад ім не адзін раз прайшоў шумны Ніжагародзкі кірмаш з яго нэрвовасьцю і кіпучасьцю. Першыя поэтычныя замыслы ў душы М. Багдановіча сьпелі не пад салодкія пералівы беларускага салаў'я, а пад аглушаючы шум трамваю, пад штучным сьвятлом газу і электрычнасьці замест бледнага беларускага месяца.

Рознасьць умоваў жыцьця парадзіла ў Максіма Багдановіча і асобнасьць яго літаратурнага кірунку ў параўнаньні з іншымі беларускімі поэтамі.

Пануючы напрамак у беларускай літаратуры—гэта рэалізм. Беларускія пісьменьнікі і поэты шырокаю кісьцю малююць родную прыроду, жыцьцё роднай вёскі. Ад гэтых малюнкаў вее араматам скошанай сенажаці, яны дышуць супакоем той вяковай ідыліі, якую яны адбіваюць сабой. Іншы характар мае муза М. Багдановіча. Гэта—нэрвовая муза гораду, яна ня ведае супакою і цішы, яна ўся—рух і зьменчывасьць. У той час, калі беларускія поэты-народнікі шырока абхапляюць жыцьцё; у той час, калі іх малюнкі паходзяць на шырокія палотны Рэмбрандта,—Максім Багдановіч дае толькі бягучыя накіды рэчавістасьці, адбівае асобныя яе мігі, зьмяняючыяся і ўступаючыя сваё месца іншым мігам і ўражаньням. Там статыка жыцьця, тут—яго дынаміка. Там—рэалізм, тут, у М. Багдановіча—імпрэсыянізм, фіксаваньне асобных мімалётных мігаў і ўражаньняў.

У зборніку вершаў М. Багдановіча ёсьць асобны аддзел, азаглаўлены—„Нізка вершаў... Места“ *). Тут поэта рысуе праявы гарадзкога жыцьця, але тут няма шырокіх малюнкаў гэтага жыцьця—дадзены толькі лятучыя мазкі кісьці.

Ліхтарняў сьвет у сіняй вышыні...
—Вітрыны... Мора вывесак... Як плямы
Анонсы і плякаты на сьцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне,
Снуюць хлапцы, суючыя рэкламы...
Разношчыкі крычаць ля кожнай брамы...
Грук, гоман, гул—усё ракой імкне.
А дальш—за радам кас, ламбардаў, банкаў
Агні вакзалу... Павадка хурманкаў...
Віры людзей... Сіпячы паравоз...
Зялёны семафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, гораду чароўныя прынады!“ **).

Альбо вось напрыклад, другі шэраг гарадзкіх уражаньняў:

Ад сьпекі пышуць дахі і асфальт.
На вуліцы уецца пыл і грукаціць хурманка,
„Каробушку“ пяе дзіцячы альт
І надрываецца абрыдлая шарманка.
Хаця-бы крышку часу адпачыць!
Мо' на бульвар пайсьці, сесьць на далёкай лаўцы
Здрамнуць, газэту сьвежую купіць
І прачытаць усё да імені выдаўцы? ***).

***) Вянок. Вільна 1913 стр. 50—59.
**) Ibidem, стр. 52.
*) Ibidem, стр. 57.

Гэты прыём фіксаваць мімалётныя ўражаньні мясцовага жыцьця нагадвае ўсім вядомую манеру Бадлера, Верхарна і інш.

Але ня толькі як апісальнік гарадзкога жыцьця М. Багдановіч выступае прад намі ў якасьці поэты імпрэсыяністы. Гэта манера творчасьці ў яго зьяўляецца пануючай, яна вытрымана ў яго амаль што ўсюды.

Калі наш поэта кідае свой погляд на гістарычнае мінулае айчыны, то ён ніколі не дае нам шырокіх малюнкаў гэтага мінулага. Мы ня знойдзем у яго ніводнага твору, які-бы хоць здалёку напамінаў нам Купалаўскае „Над Нёмнам“, дзе дадзена шырокая панорама гістарычнай беларускай прошласьці, ахопленай з многіх бакоў. М. Багдановіч і ў гэтай вобласьці застаецца пэўным сабе. У яго абрысоўцы малюнак мінулага Беларусі разьбіваецца на цэлы шэраг асобных дробных кавалачкаў, ён дае нам асобныя мініятуры, узятыя з гэтай прошласьці.

Вось, напрыклад, наш поэта рысуе нам вобраз летапісца-чарняца, які, зачыніўшыся ў манастырскіх мурох, другі год ужо працуе над складаньнем летапісу. Адзіная мэта яго жыцьця—перадаць патомкам праз паперу аб роднай зямлі.

Што тут чынілася у даўныя гады,
Што думалі, чаго бажалі мы тады,
За што змагаліся...

Думкі а значэньні летапісаў для патомкаў разгарняюцца тут у суб‘ектыўны сымболічны вобраз: летапіс падобна той вестцы, якую ўтапаючыя ў моры людзі шлюць аб сабе ў лісьце, апушчаным у бутэльку. І вось—

Рыбалкі вылавяць бутэльку, разаб‘юць,
І, як трапляецца, быць мо‘ у ёй знайдуць
Ліста...
І людзі зьведаюць аб прадзедах сваіх,
Аб горы, радасьцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі,
Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі*).

Трэба сказаць, гэты сымболь напамінае нам аналёгічны вобраз французскага романтыка Альфрэда дэ-Віны, які ў творы „La bouteille à la mer“ разьвівае параўнаньне чалавечай думкі з бутэлькай, кінутай у мора.

У тым-жа аддзеле вершаў пад назвай „Старая Беларусь“ поэта даў і іншыя беглыя накіды мінулага Беларусі. Вось прад намі абрысоўвацца фігура перапісчыка, які ноч і дзень заняты сваёй працай.

„На чыстым аркушы прад вузенькім вакном
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Устаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; усякімі цьвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі зьвяроў
І птах нявіданых, сплященьнем завіткоў
Ён пакрашае скрозь—даволі ёсьць знароўкі—
Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі, і
Загалоўкі ўсё—няма куды сьпяшыць!**).

Перапісчык-мастак надта захоплен процэсам сваёй працы; ён не заўважвае нічога, што робіцца навакол яго, ён не прымячае, што з увасходам сонца ўся прырода ажывае:

---

*) Ibidem, стр. 42.
**) Ibidem 43.

...„Сьветла сонца
Стаўпамі падае праз вузкае ваконца
І круціцца у іх прыгожы, лёгкі пыл;
Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл.
Рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі
У небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі,
Як жар гарашчымі, а тут, каля вакна,
Малінаўка пяе і стукае жаўна.

І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць
Няяркім серабром; нячутна дзень праходзіць,
Ўжо хутка будзе ноч і першая зьвязда
Благаславіць канец прыгожага труда“*).

Вобразы летапісца і перапішчыка зьмяняюцца вобразам слуцкіх ткальляў... Яны адарваны ад родных ніў, ад роднай хаты і ўзяты на панскі двор, дзе пад прымусам займаюцца тканьнем паясоў на пэрсідзкі лад. За цяжкай аднастайнай працай ўспамінаецца ім родная абстаноўка. У іх памяці ўсплывае радзімая ніва, хвалі срэбранай рэчкі, цямнеючы бор. Успаміны ўзварушваюць душу падняволеных працоўніц, і поэта схапляе самы жаласны і драматычны момант, калі ў іх

„Тчэ, забыўшыся, рука,
Замест пэрсідзкага узору,
Цьвяток радзімы васілька“**).

Беларускі пясьняр, такім чынам, выяўляе здольнасьць інтуіцыйна схапіць і мастацка прадставіць нам унутраны бок людзей прошлага: яму даступны перажываньні старажытнага летапісца і перапішчыка, ён умее заглянуць у душу невядомых слуцкіх ткальляў і ў гэтай душы заўважыць бесьсьвядомыя смутак і журбу па роднаму і далёкаму.

Як апісальнік прыроды, М. Багдановіч гэтак сама не дае нам шырокіх пэйзажаў; ён зарысоўвае толькі асобныя штрыхі і галоўным чынам іх суб'ектыўнае праламленьне ў уласнай душы.

Поэта падслухоўвае гул тонкаствольных соснаў у лесе, яму здаецца, што „гэта сумны маркотны лясун пачынае няголасна граць,“ і пясьняр сьпяшыцца ў пекным вершы падзяліцца з намі сваім уражаньнем ***)... Адзінокае возера, якое калісь то акружаў глухі бор, наводзіць поэту на думку, што гэта сьлед лясуна, які зьнік разам з зьніштажэньнем бору, але пакінуў сваё люстэрка-возера, хаваючае ў сваёй глыбіні ўсё, што згінула даўно****).

Сонная рэчка, на беразе якой над вадой „ціха сьпіць асока, ды лаза зялёная жаліцца, шуміць“, сваёй цішынёй навявае ўражаньне, быццам тут на дне між цінай сьпіць вадзянік—і зноў усяго ў дзьвюх страфах поэта адбівае сваё суб'ектыўнае ўспрыйманьне.

Гэтак з кінематографічнай хуткасьцю ў поэты адны ўражаньні прыроды зьмяняюцца другімі і, ператварыўшыся ў суб'ектыўныя яго адчуваньні, ствараюць ілюзію, што мы сапраўды знаходзімся ў зачарованым царстве. Апраўдваецца назва, якую поэта дае нізцы вершаў, пасьвячоных беларускай прыродзе.

---

*) Вянок стр. 43.
**) Ibidem стр. 45.
***) Ibidem, стр. 10.
****) Вянок, стр. 9.

Уся дзейнасьць гэткім чынам у вачох поэты раскладаецца на шэраг асобных момантаў, мігаў, якія ён, як сапраўдны імпрэсыяністы, і зарысоувае ў сваіх мініятурах.

Але ўражаньні і адчуваньні рэчавістасьці наогул вызначаюцца сваім багацьцем, шматкалёрнасьцю, пералівам фарбаў, усе тонкія адценкі каторых наша слова часта бывае бясьсільна абрысаваць. Адсюль вынікла для імпрэсыяністскай поэзіі патрэба карыстацца сродкамі суседніх мастацтваў—музыкі і малярства.

М. Багдановіч з захапленьнем цытуе выраз Вэрлена „de la musique avant toute chose“, і ў сваёй творчасьці ён пацьвярджае гэты лёзунг. У беларускага песьняра часта злучэньне гукаў, самы рытм перадае настрой, тэму вершу. У гэтых адносінах сапраўдны дыямэнт мастацтва ўяўляе яго „Завіруха“.

У бубны дахаў вецер б‘е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
І сьпеў ліецца ўсё мацней,—
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б‘е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
Ўскіпела сьнежнае віно
І белай пенай мкне яно.
У бубны дахаў вецер б‘е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп‘янелая мяцель.
У бубны дахаў вецер б‘е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.*)

Тут самыя гукі і рытм перадаюць тэмп завірухі. Гэты прыём музыкальнай лірыкі збліжае нашага паэту з Вэрленам, Верхарнам і, асабліва з Бальмантам, які надта часта ўжывае ў вершах сродкі музыкі.

З другога боку, шмат вершаў Багдановіча вызначаецца такой плястычнасьцю і конкрэтнасьцю вобразаў, якая радніць іх з малярствам.

Туман, падымаючыся над возерам, гэта ня туман, а срэбраныя сеці, якія цягне ў вышыню „белы заплаканы“ месяц, і ў якіх русалкі заблуталі сваі косы.**) Дождж—гэта павуціна, якую снуюць жывучыя ў хмарах павукі, і самая хмара фантазыяй поэты ўвасабляецца ў вобразе панурай вялізнай жывёлы, якая марудна па шыры неба праплывае ў дом. Маланка—гэта агністы меч, гром—удары гэтага мяча па жывёле, а дождж ня што іншае, як халодныя бічы крыві, сьцякаючыя ўніз.***)

Ня цяжка заўважыць, што гэты і ім падобныя вершы М. Багдановіча ў аснове сваёй прадстаўляюць міфы. Гэты дар міфатворчасьці ў некаторых адносінах нагадвае прыём Віктара Гюго, якога цытуе ў адным эпіграфе наш поэта, і аб якім Лянсон кажа: „Le mythe est la forme essentielle de son intelligence.... Toute sensation tend a devenir symbole tout symbole á se developper en mythe****).

Нарэшце па самому складу сваёй думкі, па сваёй філёзофіі М. Багдановіч зьяўляецца тыповым прадстаўніком імпрэсыянізму. Як вядома,

*) Ibidem, стр. 55.
**) Вянок, стр. 11.
***) Ibidem, стр. 14
****) Lanson Histoire de la litterature frankaus Paris, 1909, p. 1055.

кожны літаратурны кірунак мае сваёй падставай тую ці іншую філёзофскую сыстэму. бяручы ў сваю аснову яе тэзісы і галоўныя мэтоды. Францускі клясыцызм зьвязан, напрыклад, з філёзофіяй Дэкарта, вялікія сыстэмы Шэлінга і Фіхтэ стварылі сабою філёзофскі грунт романтызму, разьвіцьцё рэалізму ў літаратуры супадае з позітывізмам у філёзофіі.

Філёзофскай асновай імпрэсыянізму, як даводзіць гэта Оскар Вальцэль.*) служыць тэорыя рэлятывізму, якая асабліва была разьвіта аўстрыйскім фізыкам Эрнстам Махам. Для абодвух кірункаў—літаратурнага імпрэсыянізму і філёзофскага рэлятывізму—сталым зьяўляецца толькі ўражаньне, толькі адбітак так званых рэчаў у нашых адчуваньнях. Рэлятывізм і імпрэсыянізм імкнуцца як мага дакладней фіксаваць гэты адбітак—надворныя ўражаньні, бо імі для гэтых кірункаў вычэрпваецца ўсё істнуючае, ніякіх „рэчаў у сабе“ пазадзі зьявішчаў няма, як няма ніякіх адвечных ісьцінаў.

Мы ўжо бачылі, якую пераважную ролю ў поэзіі М. Багдановіча граюць адчуваньні зроку і слуху—але, апроч таго, у сваёй поэзіі ён адводзіць месца нават адчуваньням ніжэйшых пачуцьцяў. У гэтых адносінах мы знаходзім ў яго надта характэрны верш „Дзьве сьмерці“. Тут рысуецца сьмерць патрыцыя, адчыніўшага сабе жылы, і сьмерць нейкай Івановай, атруціўшайся сінільным квасам. Два такіх розных па абстаноўцы факты злучаюцца тут у вадзін малюнак з прычыны таго, што пылкаму выабражэньню поэты і ў тым і ў другім выпадку прадстаўляецца мігдалёвы горкі пах, як дадатковы аксэсуар самагубства. На гэтым адчуваньні грунтуецца тут ассоцыацыя прадстаўленьняў.

Асновываючыся выключна на адчуваньнях ў сваёй поэзіі, М. Багдановіч і ў сваёй філёзофіі зьяўляецца тыповым рэлятывістым. Не адвечнага шукае, не да адвечнага імкнецца яго душа. Вышэй ўсяго ён ставіць міг яркага і моцнага ўражаньня. У сваім вершы Палуяну ён гаворыць:

„Так свабодна, так ярка пражыць—
Лепшай долі няма на зямлі.
Усе кругом на мамэнт асьвяціць
І пагаснуць у цёмнай імгле.**)

Ў другім месцы ён дае настаўленьне.

Жывеш ня вечна, чалавек,
„Перажыві ў момант век“ ***)

Але нязьбежным спадарожнікам адсутнасьці пэўнага філёзофскага грунту зьяўляецца скептыцызм і пэсыцызм. Скептыкам і пэсымістым выступае перад намі і Максім Багдановіч. Парой ён нават сумняваецца ў каштоўнасьці моцных мігаў і ўражаньняў, якія часам ён так высока ставіць. Тады з яго грудзёў вырываецца скарга: усё зьнікае.... праходзіць, як дым.****)

Уся трагэдыя чалавечага жыцьця для ято гэта пагоня за мыльнымі пузырамі: здалёка яны павабны, вабяць вока, але пасьля іх ў руцэ застаецца толькі адна слата. *****) Спыняючыся на росстанках

*) Импрессионизм и экспрессионизм. Петербург, 1922.
**) Вянок, стр. 58.
***) Вянок, стр. 59.
****) Вянок, стр. 76.
*****) Ibidem стр. 59.
******) Ibidem стр. 56.

жыцьця, поэта безнадзейна ставіць пытаньне „Куды ісьці і што рабіць?“*) Ён, праўда, любіў свой родны край, сваю Беларусь. У яго мы знаходзім прызнаньне:

„Толькі на цябе нядзея,
Край родны мой!
Ў родным краю ёсьць крыніца
Жывой вады
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваёй нуды“ **)

Але з другога боку, ён бачыў, што

„Сьціснула гора дыханьне ў народзе,
Гора усюды пануе“ ***)

Малюнкі, надта частыя ў беларускай літаратуры. Гора народнае часта рысуюць і Я. Колас і Янка Купала. Але ў Янкі Купалы гэтыя малюнкі не падаўляюць веры ў лепшую будучыну Яны адбуджаюць у ім настроі змаганьня, барацьбы.

Матываў барацьбы няма зусім у М. Багдановіча. Гора народнае падаўляе яго сваім цяжарам і вырывае з яго грудзёў енк:

„Брацьця! ці зможам грамадзкае гора!?
Брацьця! Ці хваце нам сілы?!“)

У другім вершы М. Багдановіч з думкай а роднай краіне злучае мысьль аб сьмерці. Ён цешыць сябе марай:

Ня будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.“ ****)

Гэтак нават з думкай аб каханай айчыне злучаецца ў М. Багдановіча філёзофія нірваны, нябыцьця.

Мысьль аб сьмерці асабліва часта ахапляе хворага целам і, па яго ўласнаму црызнаньню, хворага душой беларускага поэту.

У адносінах да сьмерці магчымы тры становішчы: мажліва філёзофскае прымірэньне з ёю, супакоеньне ў думцы, што хоць усё індывідуальнае гіне, але природа і жыцьцё адвечны. Такія адносіны да сьмерці мы находзім, напрыклад, у Пушкіна. Яму належаць вядомыя словы

„Все благо: бдение и сна
Приходит час определенный,
Благословен и день забот,
Благословен и тьмы приход.“

---

*) Вянок, стр. 87.
**) Ibidem, стр. 37.
***) Ibidem, стр. 36.
****) Вянок, стр. 63.
*****) Ibidem, стр. 73*.

З другога боку, у сувязі з думкай аб сьмерці магчыма філёзофская трывога духа, паколькі сьмерць уносіць дысонанс у агульную гармонію сьветабудовы. Гэткую філёзофскую трывогу духа мы знаходзім, напрыклад, у Альфрэда дэ Мюссэ, з грудзёў каторага вырваўся хваравіты крык:

O Dieu juste, pourquoi la mort? І нарэшце сьмерць можа параджаць ціхі смутак, ціхую журбу, паколькі яна пагражае нашаму індывідуальнаму істнаваньню. Гэты ціхі смутак і журбу мы знаходзім у М. Багдановіча; ён гаворыць:

„Ня кувай ты шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары!
Мо' і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.
Бо ня тое сьведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль ў іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.
Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці-ж тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.*)

Але ў душы поэта быў куток, над якім нават сьмерць ня мела ўлады. Гэта куток—пакланеньне хараству. М. Багдановіч прыхільнік чыстага мастацтва—мастацтва дзеля мастацтва. Ён праконаны, што „няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы,“**), што „добра быць коласам, але шчасьліў той, каму давялося быць васільком.***)

**Пятуховіч.**

Менск
15 мая 1923 г.

*Увага рэдакцыі:* Рэдакцыя з думкамі аўтора не згаджаецца.

---

*) Вянок, стр. 77.
**) Калядная пісанка. Вільня 1913 апокрыф, стр. 29.
***) Ibidem, стр. 30.

# „Старчма галавою ў бяздоньне“.

## (Польшча пад панаваньнем Х‘ена-Пяста).

На пасяджэньні Сойму 12-га кастрычніка, як гэнэральны прамоўца опозыцыі з крытыкаю ўрадавага „exposé“ выступіў дэпутат Тугут, правадыр „Wyzwolenia“. У самым пачатку свае прамовы ён заявіў: „Польшча стаіць напярэдадні катастрофы. Здаецца, можна было-б ужо прызнацца, што мы ня коцімся па пахіласьці, але старчма галавою ляцімо ў бяздоньне“.

Тугут вядомы, як спакойны, вытрыманы прамоўца, які ня ўпіваецца ўласным красамоўствам, а заўжды гавора абдумана і пэўна. Дзеля гэтага яго заява набірае значэньня далёка большага, чым фраза са звычайнае прамовы соймавых палітыканаў. Заява Тугута можа лічыцца трафным і праўдзівым азначэньнем кірунку ўсяго палітычнага, экономічнага і грамадзянскага жыцьця Польскае Дзяржавы. Гэта як-бы прызнаюць і правыя, урадавыя польскія газэты, не полемізуючы з заяваю Тугута, ня пробуючы давесьці яе непраўдзівасьць. Ядыны закід, які ўрадавы друк робіць Тугуту, а разам з ім і ўсёй лявіцы Сойму,—гэта програмная імпотэнцыя самой лявіцы. Тугут, як адзін з найлепшых яе прамоўцаў і выявіцеляў, быў зьнішчаюча-вострым і трафным у нэгатыўнай часьці свае прамовы, у крытыцы сучаснага х‘ена-пястаўскага ўраду, але ён нічога не сказаў (і ня мог сказаць, бо сказаць няма чаго) у сэнсе выяўленьня тых спосабаў, тых мэтодаў, якімі ён сам і ўся лявіца хацелі-бы лячыць хворы організм Польскае дзяржаўнасьці.

### „Абое рабое“

Закід програмнай імпотэнцыі, якою правіца папракае лявіцу, бязумоўна справядлівы. За час свайго гаспадараньня ў Польшчы лявіцовыя элемэнты выказалі яўны недахват дзяржаўна-творчай думкі, недахват яснай програмы і цьвёрдай, нязломнай волі да яе выпаўненьня.

Праўда, лявіцовыя дзеячы мелі шырокія „пляны“ аб вялікай Польшчы, аб яе гістарычнай місіі сярод славянскіх народаў і гэтак далей, але гэта былі ня толькі пляны, сколькі няжыцьцёвыя лятуценьні, адарваныя ад гістарычнай рэальнасьці, як лятуценьні ранейшых польскіх романтыкаў. Што-ж датычыць палітычнай практыкі, дык тут дзеячы лявіцы паказалі сваю бязмоцнасьць і палавінчатасьць ва-ўсю.

У выніку гэтага палітыка лявіцы збанкрутавала па ўсёй лініі: як у сфэры надворна-дзяржаўнага, так і ўнутранага жыцьця. Замест уцягваньня

ў орбіту польскай дзяржаўнасьці суседніх славянскіх народаў, лявіца атрымала паглыбленьне ненавісьці да Польшчы з боку беларускіх і ўкраінскіх народных масаў; замест абароны правоў польскіх працоўных масаў і замацаваньня сярод іх свайго ўплыву—падарваньне сымпатыяў рабочых і бяднейшага сялянства ў бок комуністых.

Але, не зважаючы на сваё ідэёвае і практычнае банкруцтва, лявіца не хацела выпушчаць улады з сваіх рук. Ня маючы большасьці ў Сойме, яна з вялікім каханьнем адносілася да ідэі «rządu pozaparlamentarnego», аднак з тым, каб гэты ўрад быў зложаны з яе людзей, а яна-б сама за яго жаднай адпавядальнасьці не нясла. Гэтым і тлумачыцца вялікая любасьць лявіцы да ўраду Сікорскага і вялікая жалоба пасьле яго сьмерці. Урад Сікорскага ня меў ніякай творчай програмы, разьлічанай на больш доўгі тэрмін. Лявіца проста чаплялася за ўладу, хацела як найдалей затрымаць яе ў сваіх руках толькі дзеля самой улады, а ня дзеля ажыцьцяўленьня якой-колечы гістарычна-соцыяльнай програмы.

Зразумела, што такое становішча не магло цягнуцца доўга. Буржуазія перайшла ў наступленьне і без вялікіх цяжкасьцяў выбіла ўладу з рук лявіцы. Дарма лявіцовыя газэты падняла вялікі лямант: на абарону ўраду Сікорскага ніхто не падняўся, бо народныя масы Польшчы ніколі яго сваім ня лічылі. Зьмена ўраду ў выніку галасаваньня 26-га мая 1923 г. (калі Сойм большасьцю 278 проціў 117 выказаўся проціў ураду Сікорскага) адбылася зусім спакойна.

Некалькі месяцаў гаспадараньня новага ўраду паказалі, што правіца хварэе тою самаю хваробаю, як і лявіца.

Польская буржуазія, захапіўшы ў свае рукі ўладу, ніякай дзяржаўнатворчай програмы ня выставіла. Месца яе занялі: клопат аб сваіх вузкаклясавых інтарэсах, зьдзіраньне скуры з рабочых і сялянства, безаглядны ўціск нацыянальных меншасьцяў па прыкладу царскае Расіі. Позытыўнаю, дзяржаўна-творчаю програмаю гэта ні ў якім выпадку назвацца ня можа і закід програмнай імпотэнцыі, кідаемы па адрасу лявіцы, можа быць дастасованы таксама да правіцы. Яны—„абое рабое“.

## Утварэньне х'ена-пястаўскага ўраду.

Новы польскі Сойм, выбраны ўвосень 1922 году, меў гэткі склад: Х'ена—169, Пяст—70, П. П. С.—40, Вызваленьне—48, нацыянальныя меншасьці—80, Н. П. Р.—16 і рэшту дробныя групы. Галоўнай розьніцаю новага Сойму ад ранейшага было зьмяншэньне да зьнікомасьці цантровых партыяў (за выключэньнем Пяста) і ўваход імпонуючай лічбы прадстаўнікоў ад нацыянальных меншасьцяў. Ні правая, ні левая частка сойму рашучай перавагі ня мелі. Пры такіх варунках асаблівай вагі набіралі прадстаўнікі ад нацыянальных меншасьцяў. Правыя польскія газэты распачалі шалёную агітацыю ў тым сэнсе, што кіраваць справамі ў Польшчы могуць толькі польскія партыі. Адначасна з гэтым, з боку правых партыяў пачаліся пробы дабіцца хаўрусу з Пястам. Пасьле доўгіх перамаўленьняў справа кончылася адстаўкай Сікорскага і ўтварэньнем х'ена-пястаўскага ўраду.

## Піррава перамога.

Правіца перамагла, але гэтая перамога аказалася Пірраваю перамогаю.

Каб перацягнуць на свой бок пястаўскіх кулачкоў разам з іх правадыром Вітасам, правіца была вымушана пайсьці на сякія-такія ўступкі ў

справе зямельнай рэформы. Як-ні-як, а пястаўцы ўсё-ж такі—людовая партыя, хоць і кулацкая. Адмовіцца зусім ад зямельнай рэформы яны не маглі, бо йначай адразу страцілі-бы рэшткі сваіх уплываў на сялянства. Сярод-жа партыяў правіцы, уваходзячых у склад „Х'ены“, ёсьць так званыя дубадэкі—тыпова-абшарніцкая партыя.

Нават найбольш мяккай, урэзанай зямельнай рэформы яны баяцца, як чорт крыжа, альбо... буржуй комунізму. Дубадэкі адмовіліся даць свайго прадстаўніка ў склад новага ўраду, але абяцалі яго падтрымліваць „настольку—паскольку“,—гэта значыць, калі ён ня будзе чапаць іхніх маёнткаў. Без дубадэкаў новы ўрад „czysto-polskiej większości“ большасьці мець ня мог-бы, і дзеля гэтага стаўся залежным ад ласкі ці няласкі партыі, сваіх прадстаўнікоў у габінэт ня даўшай.

У дадатак да гэтага пан Вітас адначасна з прыемнасьцю старшынства ў новым урадзе дастаў няпрыемнасьць расколу ў сваёй партыі. 14 больш радыкальна настроеных дэпутатаў Сойму, сяброў пястаўскай партыі, на чале з Домбскім, адкалоліся ад пястаўцаў і перайшлі да лявіцы. Такім чынам новы ўрад мог разьлічаць на бязумоўнае падтрыманьне толькі 98 эндэкаў, 43 хадэкаў, 4 матакевічаў і 56 пястаўцаў плюс умоўнае падтрыманьне 24 дубадэкаў—усяго 225 галасоў на агульную лічбу 444-х дэпутатаў Сойму. Пасьле некалькіх месяцаў інтрыгаў і торгу—вынік далёка ня бліскучы. Энпээраў (Narodowa Partja Robotnicza—16 дэп.) да х'ена-пястаўскай коаліцыі прыцягнуць не ўдалося, не зважаючы на прываблiваньне іх правадыра Ваховяка міністэрскім портфэлем. Нязначная перавага партыяў, падтрымліваючых „rząd polskiej większości“, заставіла іх кокетаваць нават з галіцыйскімі „хліборобамі“, якія пралезьлі ў Сойм усяго толькі ў ліку 5 чалавек. Адным словам становішча новага ўраду нават на чыста парлямантарным грунце ад самага пачатку асабліва моцным ня было.

## Хаўрус жулікаў.

Хаўрус Х'ены з Пястам зьявіўся самым тыповым хаўрусам жулікаў. Раней, чым яны дайшлі да згоды, вяліся доўгія перамаўленьні, торг, абгаварвалася і адзначалася ў спэцыяльнай умове ўсё датычнае будучай супольнай дзейнасьці, бо абодвы „сябры“ ні на грош ня верылі адзін аднаму і падпісаньнем умовы хацелі забясьпечыць сябе ад узаемнага ашуканства. У самым дражлівым пытаньні (зямельным) сябры паразумеліся коштам беларускага і ўкраінскага мужычка так, каб і польскія паны не пацярпелі і каб польскае кулацтва мела можнасьць прыкупліваньня зямлі.

Водлуг х'ена-пястаўскай умовы на працягу 10 год штогодна павінна разьмяркоўвацца па 400.000 гэктараў зямлі,—зразумела за грошы: чацьвёртая часьць адразу, а рэшту на выплатку. Плата ўстаноўлена залежна ад гатунку зямлі: па 36, 33, 30, 27 і 24 квінталы жыта за гэктар. Большая частка зямлі пад парцэляцыю адводзіцца на крэсах (60%) і толькі меншая (40%)—у самой Польшчы. У першую чаргу парцэляцыі падлягаюць землі казённыя, быўшыя манастырскія і гэтак далей. Для панскіх земляў устаноўлена маса выключэньняў і льготаў: за цукроўні, за бравары, крахмальні, лепшае насеньне і гэтак далей, так што пры жаданьні і пэўным вуменьні кожны пан заўжды можа выкруціцца ад парцэляцыі. Апрача таго, не падлягаюць парцэляцыі маёнткі па 180 гэктараў у каранной Польшчы і 400—на Крэсах. Гэты проэкт х'ена-пястаўскай зямельнай „рэформы“ усім сваім вастрыём скіраваны ня проціў панства, але проціў

беларускага і украінскага сялянства, якое асуджаецца на далейшае малазямельле ў той час, як лепшыя землі раздаюцца „асаднікам“, перасяляючымся з каранной Польшчы.

## Унутраная палітыка.

Хоць у міністэрстве ўнутраных спраў засеў, як міністр, пяставец Кернік, аднак унутраная палітыка новага ўраду пайшла па шляху самае праўдзівае рэакцыі, так што нават самы прававернейшы эндэк наўрад ці змогбы вясьці больш рэакцыйную палітыку, чым „людовец“ Кернік. Новы ўрад паставіў сабе заданьнем ахову прывілеяў польскае буржуазіі й безаглядны ўціск усіх протэстуючых проціў гэткага парадку рэчаў. Рэакцыйная і панска-буржуазная істота х'ена-пястаўскага ўраду найбольш яскрава выявілася ў яго адносінах да рабочых організацыяў і да нацыянальных меншасьцяў.

Хоць асаблівай мяккасьцю да рабочых не адзначаўся й папярэдні ўрад Сікорскага, але ўрад Вітаса-Гламбінскага пакінуў яго далёка ззаду ў справе рэпрэсіяў проціў рабочага руху. Усё стала звальвацца на камуністых і няшчадная барацьба з імі была абвешчана найсьвяцейшым абавязкам кожнага ўрадавага чыноўніка. Ангельскай газэце „Manchester Guardian“ удалося дастаць два тайныя цыркуляры пана Керніка да правінцыяльных ваяводаў, высланыя ў пачатку яго міністэрскае кар'еры 5-га і 11 чэрвеня). У гэтым другім цыркуляры Кернік заяўляе, што міністэрства апрацоўвае проэкт „закону аб ахове конституцыі“ і патрабуе, каб ваяводы падтрымалі яго погляд, што належнасьць да комуністычнай партыі павінна карацца сьмерцю.

Х'ена-пястаўскі ўрад павёў змаганьне ня толькі проціў комуністых, але й проціў усякіх рабочых організацыяў наогул. Барацьба профсаюзаў за лепшую заработную плату выстаўляецца буржуазіяй, як комуністычная дзейнасьць, і ўрад пад прыкрыцьцем змаганьня з комуністымі дапамагае буржуазіі душыць рабочых, падаўляючы ўсякія забастоўкі, садзячы ў турмы рабочых дзеячоў, конфіскуючы й зачыняючы рабочыя часопісі.

У гэтай сваёй дзейнасьці ўрад не застанаўліваецца нават перад самай яўнай, крычачай няпраўдай. 13-га кастрычніка ў Варшаве ўзарваўся парахавы склад. Урад зараз-жа абвясьціў гэта справаю комуністых і пачаў масавыя арышты, як у Варшаве, гэтак і на провінцыі, не зважаючы на тое, што ваенныя аўторытэты прызналі магчымасьць самазгараньня пораху дзеля дрэнных умоваў яго хаваньня, аб чым папярэджваў ваеннае міністэрства французскі афіцэр майёр Олівэн (Olivain) яшчэ 19-га жніўня. Урад проста захацеў скарыстаць выпадак, каб расправіцца з непажаданымі яму элемэнтамі.

## Фінансы.

Спадак польскай маркі адбываецца нясупынна. Пры зьмене ўраду ў канцы мая г. г. доляр офіцыяльна каштаваў 52.000 польскіх марак, а цяпер каля 5.000.000 п. м. Што-ж датычыць „чорнай біржы“, дык там марка польская мае яшчэ меншую вартасьць,—доляр даходзіць да трох мільёнаў. Гэты прысьпешаны спадак польскай валюты найцяжэй адбіваецца на працоўных масах. Дарагоўля расьце, але дадаткі рабочым і служачым растуць значна цішэй, так што рэальная велічыня заработнай платы меншыцца. Гэтыя абставіны выклікаюць шэраг забастовак, якія падчас

пачынаюцца самі сабою на мясцох, наперакор загадам цэнтральных профсаюзных організацыяў.

Марка падае... Ды й як-жа ёй ня падаць, кал дзяржаўны бюджэт безнадзейна-дэфіцытны, і дзеля замазваньня яго дзюрак прыходзіцца працаваць толькі друкарскай машыне, выкідаючай усё новыя і новыя папяровыя маркі. Удзел друкарскай машыны ў пакрыцьці бюджэтных недабораў у Польшчы прынамсі ў *два* разы большы, чым у Савецкім Саюзе. Польская буржуазія падаткаў плаціць ня хоча, бо йначай дзеля чаго-ж яна захапляла ўладу? Беспасрэдныя падаткі, якія найбольш зачапляюць кішэнь буржуазіі, у Польшчы разьвінуты слаба, і кожная слабенькая проба лявіцы ў кірунку іх павялічэньня сустракае дружны адпор правых партыяў. Польская буржуазія да хрыпаты крычыць аб „naprawie skarbu“, але хоча, каб гэтая „naprawa“ адбылася толькі коштам рабочых і бяднейшых сялян. Розныя акцызы й наогул пасрэдныя падаткі на рэчы першай патрэбы ў параўнаньні з падаткамі беспасрэднымі адыгрываюць вельмі важную ролю.

Пры такім становішчы аб ніякой сур'ёзнай „naprawie skarbu“ гаварыць ня прыходзіцца. Шмат гаворыцца і пішацца аб „oszczędności“, створана нават пасада асобнага камісара па гэтай часьці, але ўсё гэта мае характар альбо дэмагогіі, альбо выціскаваньня клёку з рабочых і служачых, характар „oszczędności“ праз абкраданьне іх. Напрыклад, дарагоўля ўзрастае больш як на 100%, а падбаўка даецца на 70% і гэтак далей, так што ў сучасны момант сярэдні заработак дзяржаўнага служачага ў тры разы меншы, чым у маі. У канцы канцоў служачыя страцілі цярплівасьць і рашылі паслаць дэлегацыю да пана старшыні міністраў дзеля высьвятленьня справы. Вітас заявіў, што казна ня мае можнасьці выплачваць служачым прыстойныя пэнсіі, і калі яму адказалі, што ў такім разе пачнецца забастоўка, дык Вітас не знайшоў нічога лепшага, як пагразіць жорсткаю расправаю з тымі, хто будзе пачынаць забастоўку.

Што-ж заставалася рабіць служачым? „Róbcie, co chcecie“—цынічна сказаў Вітас:—„jutro będzie gorzej“. У такой краіне, дзе старшыня ўраду даходзіць да падобных заяў, папраўдзе можна чакаць пагаршэньня сытуацыі з кожным днём.

Марка польская ды й сама Польшча разам з ёю залезьлі ў такое балота, з якога без староньняй дапамогі сваімі сіламі выбрацца ўжо немагчыма. Гэта прызнаў нарэшце й сам урад. Пачаліся паездкі ва ўсе канцы сьвету дзеля адшуканьня замежнай пазыкі; польскія міністры сталі якбы новымі аргонаўтамі, шукаючымі „залатога руна“. Але гэтыя аргонаўты толькі праядаюць на свае падарожжы апошнія рэшткі польскай казны, а пазычкі ніхто не дае.

Апошнімі часамі да Польшчы прыехаў ангельскі „фінансавы дарадца“ пан Hilton younq разам з некалькімі памоцнікамі. Яго прыезд ставяць у зьвязак з плянам заснаваньня ў Польшчы пры дапамозе ангельскага капіталу эмісійнага банку, які мог-бы распачаць працу фінансавага аздараўленьня Польшчы. Але ангельскія капіталістыя, як людзі вельмі хітрыя й асьцярожныя, пастанавілі спачатку добра абзнаёміцца з фінансавым становішчам Польшчы на месцы і на месцы-ж аглядзець тыя матар'яльныя багацьці, якія Польшча магла-б даць у заставу за атрыманыя капіталы. Злыя языкі дадаюць, што Іонг проста прыехаў дзеля агляду й апісу таго, што Польшча змушана будзе прадаць, каб залатаць дзіркі свайго бюджэту.

Прыезд Іонга да Варшавы, які можна было-б у пэўнай меры зьвязваць з паваротам Польшчы да ангельскае орыентацыі, успалохаў французскія правячыя й дзелавыя сфэры. І сьледам за Іонгам у Варшаве зьявіўся францускі сэнатар Бэранжэ (*Berenger*). Бэранжэ—дакладчык сэнацкай ка-

місіі па фінансавых справах. Францускі парлямант пастанавіў пазычыць Польшчы 400 мільёнаў франкаў на куплю зброі, але гэтая пазычка завязла ў сэнаце і дагэтуль ня можа праз яго пралезьці. У зьвязку з гэтым прыезд Бэранжэ тлумачыўся ім, як жаданьне на месцы азнаёміцца з экономічным становішчам краю, атрымліваючага пазычку, каб можна было ўлажыць больш грунтоўны даклад ад імя сэнацкай камісіі на пленуме сэнату. З падобнымі-ж мэтамі Бэранжэ хацеў пабываць і ў Паўднёвай Славіі і ў Румыніі, якім Францыя маецца таксама пазычыць грошы: першай 300 мільёнаў, другой—200 мільёнаў. Мсье Бэранжэ вельмі цікавіўся польскімі капальнямі каменнага вугольля, нафтовымі багацьцямі Польшчы й гэтак далей, так што й тут вызначаецца распрадажа Польшчы гуртам і па часьцям.

## Нацыянальныя меншасьці.

Больш як трэцяя частка ўсяго жыхарства Польшчы складаецца з грамадзян няпольскай нацыянальнасьці, належыць да так званых нацыянальных меншасьцяў: беларусаў, украінцаў, жыдоў і немцаў. Не зважаючы на тое, што нацыянальныя меншасьці Польшчы выпаўняюць усе тыя павіннасьці, як і грамадзяне польскай нацыянальнасьці, аднак роўных з імі правоў ня маюць і знаходзяцца ў становішчы пасынкаў дзяржавы. Гэтак было ад самага пачатку існаваньня польскай дзяржаўнасьці. Зьвярыны нацыяналізм шалее ў Польшчы больш, чым у кожнай іншай дзяржаве, і ўціск нацыянальных меншасьцяў праводзіўся кожным польскім урадам. Калі параўнаваць у гэтым сэнсе два апошнія ўрады Польшчы—непарлямантарны „лявіцовы“ ўрад Сікорскага і „rząd większości polskiej“ Вітаса-Гламбінскага, дык адразу стане ясным, што прынцыповай розьніцы паміж імі няма. Сікорскі заўжды меў салодкія словы і ўсьмешкі для парляманцкіх прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў, але гэта не перашкаджала польскай адміністрацыі на крэсах вясьці безаслабную політыку ўціску. Урад-жа х‘ена-пяста пачаў ня толькі ціснуць нацыянальныя меншасьці, але й пачаў гаварыць аб гэтым, як аб чымсьці зусім законным і зразумелым. Польскі шовінізм пачаў дзейнічаць адкрыта.

Праўда, калі Вітас першы раз выступаў у сойме, як прадстаўнік новага ўраду, ён паміж іншым сказаў аб школах нацыянальных меншасьцяў: „Як ва ўсім, гэтак і ў школьным пытаньні ўрад будзе браць пад увагу патрэбы і справядлівыя дамаганьні нацыянальных меншасьцяў“. Але ўсе разумелі, што гэта было сказана толькі так сабе, бяз жаднага замеру сур‘ёзна стрымаць сваю абяцанку. Далейшыя выпадкі паказалі ўсю справядлівасьць падобнай ацэнкі слоў Вітаса.

## „Прыраджоны гаспадар“.

Новы ўрад утварыўся на грунце прынцыпу, што толькі „większość rdzennie polska“ можа кіраваць дзяржаўнымі справамі Польшчы, а „інародцы“ мусяць толькі павінавацца. Аб гэтым на зьдзіўленьне сьвету досыць натрубілі польскія чорнасоценныя газэты. Але хутка сталася так, што падобныя заявы і нават яшчэ болей цынічныя пачалі гучэць і ў прамовах прэзыдэнта белапанскай Польшчы—пана Вайцяхоўскага.

Пану Вайцяхоўскаму моцна падабалася разьяжджаць па Польшчы і гаварыць эндэцкія чорнасоценныя прамовы. Гэтак, у Любліне ён загаварыў, што польскі народ ёсьць „przyrodzony gospodarz państwa“; у Стара-Сьвенцянах ён сказаў аб усходніх крэсах, што „мы тут паны й гаспадары“;

у Вільні пан прэзыдэнт заявіў, што права Польшчы на Ўсходнія крэсы грунтуецца „найперш за ўсё на сіле“.

Бяручы прыклад са свайго прэзыдэнта, польская чорная сотня канчаткова страціла ўсякую меру ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў. Маштаб нацыянальнага ўціску павялічыўся ў некалькі разоў, што відаць хоць-бы з такога факту. Урад пана Сікорскага ў апошні час свайго існаваньня, каб падслужыцца х‘ене, наладзіў вядомы беластоцкі працэс. Сярод засуджаных па гэтаму працэсу беларусаў ёсьць *адзін* беларускі дэпутат—Сяргей Баран. А цяпер прокуратура патрабуе ад Сойму выдачы аж 25 беларускіх і ўкраінскіх дэпутатаў дзеля наладжаньня суду над імі.

## Нацыянальныя школы.

Польскі ўрад імкнецца разьвязаць нацыянальнае пытаньне зусім проста: спольшчыць усе няпольскія нацыянальнасьці, перарабіць іх на польскі капыл. Дзеля гэтага пушчаецца ў ход дзьве рэчы: школа й касьцёл. Нацыянальных школаў, утрымліваемых коштам дзяржавы, польскі ўрад не адчыняе. Нават адчыненьне прыватнай нацыянальнай школы натыкаецца на нясходныя цяжкасьці. Затое ўсюды насаджваецца польская школа, хоць-бы жыхарства яе зусім не хацела. Не забіраючыся далёка, возьмем хоць бы нашую заходнюю Беларусь. Зусім ня рэдкасьць (асабліва ў праваслаўных мясцовасьцях) спаткаць польскую школу з 2-ма (!) настаўнікамі альбо настаўніцамі і 3—4 вучнямі. А здараюцца школы, маючыя яшчэ менш вучняў. Жыхарства не прызнае польскіх школаў, дзяцей да іх не пасылае, і ў той-жа самы час свае беларускае школы ня мае, бо ўлада не дазваляе адчыніць яе, і дзеці растуць невукамі, як дрэва ў лесе.

У школьным пытаньні ня ўсе нацыянальныя меншасьці Польшчы знаходзяцца ў аднакавым становішчы: больш культурныя і ўпартыя немцы маюць каля 1500 пачатковых выключна нямецкіх школаў і каля 300 польска-нямецкіх, ня лічучы Верхняй Сілезіі, дзе немцы знаходзяцца ў лепшых умовах. У гэты-ж самы час міністр асьветы Гломбінскі вызначае лічбу існуючых беларускіх школаў у . . . 44, а віленская беларуская газэта лічыць, што іх і 44 не зьбярэцца.

Пры такіх варунках зусім справядліва пісаў „Kurjer Polski“ (за 9—VIII), што „дзе нас б‘юць, там мы ўступаем, а па добраму ад Польшчы нічога дастаць ня можна“. Назва артыкулу „Можна выдраць толькі сілаю“ як найлепш характарызуе становішча школы нацыянальных меншасьцяў у Польшчы.

Беларуская нацыянальная меншасьць, як найменш культурная і сьвядомая, знайходзіцца ў асабліва дрэнным становішчы. Пры зусім зьнікомай лічбе пачатковых школаў заходнія беларусы маюць толькі адну здавальняюча пастаўленую чыста-беларускую сярэднюю школу—Віленскую Беларускую Гімназію. Іншыя беларускія гімназіі, як у Наваградку, Несьвіжы, Радашковічах і Гарадку альбо не зьяўляюцца чыста беларускімі, альбо маюць значныя дэфэкты ў пастаноўцы справы. І вось проціў гэтае Віленскае гімназіі пачаўся праўдзівы паход. Віленскія чорнасоценныя газэткі, як „Dziennik Wilenski“ пачалі друкаваць розныя даносы на гімназію. Даносы гэтыя падхапіла варшаўская „Rzeczpospolita“. Віленская дэлегатура ўраду, ня маючы законных прычынаў да закрыцьця гімназіі, пастанавіла конфіскаваць Троцкія муры, у якіх месьціцца гімназія, каб пакінуць яе без памяшканьня і тым змусіць да самалiквідацыі. Але гэты нумар не праехаў дзеля яго яўнага, нічым ня прыкрытага бяспраўя, і ў сучасны момант поль-

ская ўлада ў Вільні абстрэльвае гімназію рознымі дробнымі пакасьцямі, разьлічаючы ўзяць гімназію асадаю, калі не ўдалося ўзяць штурмам.

Побач з гэтым вядзецца энэргічная „праца“ па зачыненьню праваслаўных цэркваў і адчыненьню касьцёлаў нават у чыста-праваслаўных мясцовасьцях.

## Процантная норма.

Польскі ўрад змагаецца за тое, каб ня даць нацыянальным меншасьцям пачатковай і сярэдняй школы ў роднай мове. Замест гэтага, ён дае польскія школы. Што-ж датычыць вышэйшай асьветы, дык тут справа стаіць яшчэ горш. Тут польскі ўрад ня толькі забараняе вышэйшыя школы нацыянальных меншасьцяў (Львоўскі ўкраінскі ўнівэрсытэт!), але стараецца ня пушчаць нацыянальныя меншасьці нават у польскія вышэйшыя школы.

Ад самага пачатку свайго існаваньня х‘ена-пястаўскі ўрад і ўсе чорнасоценныя польскія дзеячы імкнуцца правясьці закон аб процантнай норме для студэнтаў няпольскае нацыянальнасьці (беларусаў, украінцаў, жыдоў і немцаў). 19-га чэрвеня г. г. проэкт закону аб процантнай норме (numerus clausus) разглядаўся ў асьветнай камісіі сойму і прайшоў большасьцю 16 проціў 13 галасоў.

Проэкт гэтага закону настроіў проціў Польшчы грамадзянскую думку заграніцы, што й было выкарыстана нацыянальнымі меншасьцямі. Жыдоўскія нацыянальныя організацыі: „Joint Comitce“ (у Лёндане) і Alliance Jsraêlite ( у Парыжы) зьвярнуліся да Рады Лігі Народаў, якая затрэбавала ад Польшчы тлумачэньняў. Умяшалася ў гэтую справу й француская „Ліга абароны праў чалавека“, якая зьвярнулася да Пуанкарэ, зазначаючы, што ўвядзеньне „numerus clausus“ супярэчыць Вэрсальскаму трактату. Пуанкарэ выказаў надзею, што польскі сойм бліжэй разгледзіць гэтую справу і ня прыйме пастаноў, супярэчных з трактатамі. Такім чынам, нават старшыня ўраду „прыяцелькі“ Францыі выказаўся проціў чорнасотніцкіх замераў польскага ўраду.

У зьвязку з усім гэтым дужа магчыма, што проэкт закону аб процэнтнай норме нават ня будзе вынесены на пленум сойму, бо ён і так ужо даволі скомпромітаваў Польшчу. Страціўшы надзею правесьці процантную норму „законным“ шляхам, польскія чорнасоценцы, а ў іх ліку й міністр „асьветы“ Гломбінскі папробавалі правясьці гэтую „норму“ явачным парадкам. 12-га кастрычніка ў сойме разглядалася інтэрпэляцыя жыдоўскіх дэпутатаў аб сакрэтных цыркулярах у гэтай справе міністра асьветы. Гломбінскі заявіў, што ніякіх падобных цыркуляраў ён не выдаваў і выдаваць ня мог, што ўсё гэта—выдумка і больш нічога. Тымчасам „Słowo Polskie“ за 11-е кастрычніка вельмі хваліць Львоўскі ўнівэрсытэт якраз за ўвядзеньне процантнай нормы. Так што пробы контрабанднага ўвядзеньня процантнай нормы бязумоўна ёсьць, але пры адсутнасьці адпаведнага закону нацыянальным меншасьцям лягчэй з імі змагацца.

## Ліга Нацыяў і нацменшасьці Польшчы.

Аб тым, што ў Польшчы ёсьць нацыянальныя меншасьці і што яна іх душыць у меру сілаў і змогі—вядома ўсім на сьвеце. Ведае аб гэтым і так званая „Ліга Нацыяў“, якой час ад часу прыходзіцца займацца справаю гэтых уціскаемых нацменшасьцяў. Яшчэ ня так даўно Лізе Нацыяў быў пададзены супольны протэст ад імя беларусаў, украінцаў, нем-

цаў, жыдоў і літоўцаў проціў уціску Польшчы (гл. „Dzien Wil.“ № 219 за 30—IX). Протэст гэты яшчэ не разглядаўся, і што з яго выйдзе—невядома, але больш падобна да праўды, што нічога ня выйдзе. Галоўнымі верхаводамі ў Лізе Народаў зьяўляюцца самыя імпэрыялістычныя дзяржавы, як Францыя і Англія, у якіх па часьці нацыянальнага пытаньня і ў саміх „рыльца ў пушку“. Адзіны скутак з падобных протэстаў—гэта компромітацыя і так ужо даволі скомпромітаванай польскай нацыянальнай політыкі.

## Крэсавыя балячкі.

Крэсы наогул—а ўсходнія асабліва—зьяўляюцца самым балючым, самым хворым месцам белапанскага дзяржаўнага організму. У крэсы ўпіраюцца ўсе думкі й развважаньні як дзяржаўных людзей, так і публіцыстаў. Усходне-крэсавыя справы абгаварваюцца ня толькі ў крэсавых газэтках, але-час-ад-часу, як неадчэпная здань, зьяўляюцца на старонках сталічнага друку і нават на старонках газэтаў, якія выходзяць на процілеглым канцы Польшчы (напр., „Kurjer Poznański“). Ужо гэта адно сьведчыць, што пытаньне аб крэсах і спэцыяльна аб усходніх крэсах не зьяўляецца лёкальным пытаньнем, але вельмі дражліваю справаю агульна-дзяржаўнага значэньня.

Калі польскае войска ў 1919 годзе зьявілася на тэрыторыі сучасных усходніх крэсаў, яго кіраўнік і „начальнік дзяржавы“ пан Юзаф Пілсудзкі выкінуў кліч: „Як роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі!“ Але хутка аказалася, што гэта былі толькі словы, у якія ня верыў нават сам аўтор маніфэсту „Do mieszkańcow b. Wielkiego Księstwa Litewskiego“. А цяпер ад гэтых слоў не засталося й сьледу. Замест іх, сучасны прэзыдэнт Польшчы гаворыць аб сіле, аб прыраджоным гаспадары, панох і гаспадарох і г. д.

Польскі ўрад сваім найпершым заданьнем адносна крэсаў лічыць не цадняцьце іх культурнага й экономічнага дабрабыту, а спольшчываньне іх усімі мерамі й спосабамі. Па гэтай лініі вядзецца і школьная, і адміністрацыйная і рэлігійная політыка. Ва ўсіх установах справы вядуцца выключна папольску. Мясцовыя жыхары ня прыймаюцца ні на якую службу, а ўвесь кадр служачых набіраецца з „rdzennych“ палякаў, найбольш з Галіцыі. Апрача таго, вядзецца старэнная колёнізацыя праз раздаваньне зямлі вайсковым асаднікам—таксама палякам. Усе гэтыя прышлыя чыноўнікі, настаўнікі, асаднікі мясцовых варункаў ня ведаюць і ня хочуць ведаць. Чуючы сябе панамі і гаспадарамі, яны проста пагарджаюць беларускім „хлопкам“ і цісную яго, як мага.

Польскім чорнасоценцам здаецца, што яшчэ й гэтага мала, і яны ўтвараюць спэцыяльныя організацыі дзеля дапамогі ўраду ў яго полёнізатарскай працы на крэсах. Гэткаю чорнасоценнаю організацыяй спэцыяльнага прызначэньня ёсьць „Towarzystwo Opieki nad Kresami“. Гэтае таварыства летам 1923 году ўладзіла нават спэцыяльныя курсы для тых, хто зьбіраецца ехаць служыць на крэсы. Курсы гэтыя мелі сваім заданьнем навучыць будучых крэсавых працаўнікоў найлепшаму выпаўненьню іх полёнізатарскай місіі. Апрача таго, з 23—IX па 30—IX Таварыствам быў наладжаны спэцыяльны „Wielki tydzień kresowy“. У гэты тыдзень па ўсёй Польшчы вялася адпаведная апрацоўка грамадзянскай думкі і зьбіраліся складкі на ўзмацненьне полёнізатарскай працы на крэсах.

Усё гэта не застаецца бяз уплыву на псыхіку й сьвядомасьць беларускіх і ўкраінскіх масаў. Побач з абвастрэньнем уціску йдзе павялічэньне

паўстанцкага руху. Невялікія па свайму складу паўстанцкія атрады, карыстаючыся спагадаю і падтрыманьнем жыхарства, робяць напады на паноў, на паліцыю, тэрорызуюць цэльныя паветы, застаючыся неўлавімымі для паліцыі й войска.

Падтрыманьне паўстанцаў—гэта толькі надворнае выяўленьне тых глыбокіх псыхолёгічных процэсаў, якія адбываюцца дзесьці ў глыбі мужыцкае душы. У народных гушчах нешта фэрмэнтуецца, нешта аформліваецца, адбываюцца нейкія важныя перамены. „Хто ведаў псыхолёгію спакойнага беларускага селяніна і пабачыць яго цяпер, павінен заўважыць, што мы стаімо напярэдадні нейкіх непакоячых зьменаў. Усюды чуваць, што „штосьці мае быць"—піша ў „Robotniku" пэпэсаўскі дэпутат Золіцкі. Шмат ясьней піша аб гэтым у „Gazecie Warszawskiej" нейкі пан Лянгэ з-пад Тэлеханаў на Палесьсі. Гаворачы аб спагадзе сялянства да бандытаў, нападаючых на панскія маёнткі, пан Лянгэ піша: „Альфа і омэга іх імкненьняў—гэта „рэзаць паноў і дзяліць зямлю". Зусім адкрыта называюць імёны паноў, якіх хацелі-бы гэткім спосабам пазбыцца"... Гэта ня толькі крык напалоханага панка, які дрыжыць за сваю скуру, - гэта трафнае выяўленьне стыхійных настрояў, ахапляючых сялянскую масу нават у самых глухіх кутках Палесься, куды не забрыдзе ні адзін агітатар. Каб ацаніць правідловасьць гэтых слоў пана Лянгэ, варта прыпамятаць, як умеркаваны і корэктны старшыня БеларускагаСоймавага Клюбу дэпутат Тарашкевіч з соймавае трыбуны заявіў, што можа надыйсьці момант, калі хутары асаднікаў могуць пайсьці „z dymem pożarow, z kurzem krwi bratniej". Гэта не выяўленьне зьверскасьці самога Тарашкевіча, спакойнага філёлёга, але адбітак настрою шырокіх народных масаў.

Зусім магчыма, што так яно й будзе: настане такі дзень у Заходняй Беларусі, што ў параўнаньні з ім Ворфолёмееўская ноч пакажацца дзіцячай баячкай...

## Полярызацыя.

Процэс полярызацыі польскага дзяржаўнага і грамадзянскага жыцьця Польшчы блізка што закончыўся. З аднаго боку полюс рэакцыі—гэта ўрад з падтрымліваючымі яго чорнасоценцамі. З другога боку полюс рэволюцыі —гэта рабочыя масы, якія канчаткова парываюць са згодніцтвам і пераходзяць да адкрытага рэволюцыйнага змаганьня. Накапленьне энэргіі на гэтых двух полюсах гатуе няўхільны ўзрыў, які ўжо блізіцца...

У канцы кастрычніка ў склад польскага ўраду ўвайшлі Дмоўскі, Карфанты, Ст. Грабскі, Дубановіч, Хлапоўскі. Посьле гэтага польскаму ўраду па шляху рэакцыйнасьці няма ўжо куды йсьці: у сваім сучасным складзе— гэта вяршына, полюс рэакцыі. Асабліва характэрна, што ў склад ураду ўвайшоў пан Раман Дмоўскі—„ten tak długo trzymany w ukryciu przenajświętszy sakrament reakcji", як трафна сказаў аб ім пэпэсаўскі дэпутат Барліцкі. Абшарнікі Дубановіч і Хлапоўскі ў міністэрствах земляробства і зямельнай рэформы—гэта бясслаўны канец усякай зямельнай рэформы, гэта поўная і канчатковая капітуляцыя пястаўцаў перад х'енаю. Пястаўцы так скомпромітавалі сябе супрацоўніцтвам з х'енаю, што ім ужо няма як і разьвязацца з ёю і яны *мусяць* ісьці з ёю да канца. Маючы ў сваім распараджэньні міністэрствы ўнутраных спраў і юстыцыі, яны будуць адыгрываць ролю цэрбэраў, ахоўваючых х'ёну і свае шкуры ад гневу народных масаў. Але не надоўга...

Концэнтрацыя энэргіі на полюсе рэволюцыі адбываецца вельмі хутка. Социял-згодніцтва траціць усякі грунт у рабочых масах. Забастоўкі пачы-

наюць ня толькі паміма П. П. С., але дужа часта й наперакор жаданьням П. П. С. Каб ня страціць канчаткова сваіх уплываў над масамі, пэпэсы змушаны кіраваць забастоўкамі, пачатымі супроць іх волі, абы толькі гэтае кіраўніцтва не перайшло да комуністых... Але гэта не надоўга.

З проціпапастаўленьня двух полюсаў—рэакцыі і рэволюцыі—пры адсутнасьці сярэдніх слаёў і зродзіцца той вялікі грамавы ўдар, які зруйнуе белапанскую Польшчу. Кракаўскае паўстаньне, пераход 3-х палкоў да рабочых—гэта толькі першы водгалас рэволюцыйнай навальніцы, якая ўжо блізка... Дзень сьмерці белапанскай Польшчы будзе днём радзінаў новай Польшчы—рабоча-сялянскай.

Niech żyje Polska Republika Саветаў.

Міхась Баравы.

10/XI—23 г.

# Эпізод з жыцьця беларускай часопісі.

Пасьля захопу немцамі Вільні ў 1915 годзе, беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух стаў зьбірацца ў двух пунктах—у Пецярбурзе і Менску. У абодвых гэтых гарадох удалося адчыніць Беларускія Комітэты дапамогі бежанцам. Вакол іх і гуртаваліся беларускія сілы. У Пецярбурзе на Знаменскай, 36, дзе зьмяшчаўся Комітэт, што тыдзень у нядзелю й на сьвяты, поруч з управаю Комітэту, адбываліся зборы беларускіх дзеячоў, студэнтаў беларусаў і часткаю рабочых, на якіх абгаварваліся беларускія справы. У Комітэце таксама ладзіліся да спэктакляў, а часта-густа абгаварвалі й політычныя пытаньні. Праўда, дзеля гэтага меліся прыватныя кватэры, дзе было вальней датыкацца казлычных пытаньняў; тым болей, што сярод беларусаў тады панаваў ларажэнчы дух. Але з аднаго боку Комітэт, і тым болей прыватныя кватэры для сходак былі мала вядомы і ў іх пападалі большменш знаёмыя між сабою людзі—старыя ўдзельнікі руху; навічком-жа трудна было дапытацца іх. А жадаючых увайсьці ў беларускі рух было шмат у Пецярбурзе. З другога боку, патрэбна была ў тыя цяжкія часы хоць якая сувязь з распыленымі па ўсёй Расіі людзьмі; патрэбна было падаць жывы голас, згукнуцца і патрошку наладжваць разбураную вайною беларускую нацыянальна-культурную працу. Вярнейшым сродкам дзеля гэтага служыла-бы, бязумоўна, газэта. З окупаванай Беларусі, з Вільні, даходзілі весткі, што беларускія дзеячы, якія засталіся там, выдаюць газэту «Гоман» і зрэдку нават кніжкі. Гэта яшчэ больш паддавала і крыўды і ахвоты.

Але колькі разоў не паднімалася пытаньне сярод беларусаў-соцыялістых аб організацыі газэты ў Пецярбурзе, кожны раз, прызнаючы вялікай патрэбаю выдаваць гэткую, гэта прызнаньне заставалася добрым мараньнем. Газэта—не дзесяцірублёвая рэч, што праз сяброўскія складкі можна было-б яе выдаць. Ды то, каб сярод беларускіх соцыялістых ці наогул сярод беларускіх дзеячоў былі больш-менш грашавітыя людзі, тады мажліва было-бы што-кольвечы зрабіць і складкамі. Але пераважная большасьць беларусаў,—студэнты, служачыя, рабочыя, ня мелі для сябе на пражыцьцё, часта мяркуючы ці праз службу пры Комітэце, ці праз маленькую пазычку ў Комітэце, папоўніць свой ашчэдны бюджэт.

Таму не магло быць жаднае надзеі на сабраньне грошай. Пазычыць таксама недзе было. І справа з газэтаю адкладалася на далей ды на далей, а поруч патрэбнасьць мець яе абвострывалася. Так падышло к восені 1916 году.

К гэтаму часу на фронце і ўнутры Расіі з дня на дзень насьпявалі сур'ёзныя здарэньні, гатовячыя нячуваную разьвязку вайны. Пецярбург не пераставаў жыць натужным жыцьцём узросту опозыцыйна-рэволюцыйнага ўздыму. Апошні бадзёрыў „прэславутую“ Думу, якая кідала ў паветра гучныя словы аб „адпаведным міністэрстве“ і пасылала з дапамненьнем аб нарастаючай рэволюцыі Радзянку да цара. У вайсковых колах хадзілі чуткі аб «вялікіх зьменах» у дварцовых сфэрах.

А поміж усім—пабратаўшыся—буяла распуста буржуазіі з чорнай крывавай рэакцыяй. Панавала страшная цэнзура, строіў свае пляны Пратапопаў—міністар унутраных спраў. Паднімалася пагадзінна дарагоўля.

У кастрычніку месяцы, кінуўшы чакаць і спадзявацца на «сьвяты выпадак», я з т. Э. Будзькам парашылі выдаваць штотыднёвую беларускую газэту на... свае сродкі. Пільна й падрабязгова парахавалі яе каштоўнасьць, раскінулі думкамі, ці ня можна будзе мне й яму дзе-кольвечы з боку дастаць трохі паперы, а то найсьці друкарню гэткую, каб была таннаю ды ў дадатак зрабіла крэдыт, і прыступілі к падгатоўцы.

Напісалі прашэньне зразу на дзьве газэты, на «Дзяньніцу»—грамадзянкаю і на «Świetač» лацінкаю, і падалі ў „Комитет по делам печати“. Ня больш, як праз тыдзень Камітэт прыслаў дазвол. Гэта пасоўвала справу ўперад, бо, прызнацца, мы ніяк не спадзяваліся, каб начальства так «лёгка» згадзілася дазволіць беларускую газэту. «Калі-ж дазволіла—значыць яно, наогул, не прыдае ёй ніякай увагі. Што там беларускі рух і маленькая штотыднёвая беларуская газэта ў шумнай сталіцы, сярод дзесятка вядомых расійскіх часопісаў», заключылі мы і прыняліся за організацыю тэхнічных сродкаў.

Э. Будзька адшукаў дзесь на Афіцэрскай, 6, маленькую „Русско-французскую типографию“, згаварыўся аб умовах, пасьля закупіў паперы і... заскрыпелі пер'і... Кожны з нас па чарзе адбывалі службу пасланцоў. Э. Будзька ўзяў абавязак карэктара і выпускаючага.

На першы нумар парашылі даць перадавую аб долі Беларусі ў зьвязку з сусьветнай вайною, артыкул аб балючым у той час харчовым пытаньні, трохі мастацкіх твораў, хроніку важнейшых здарэньняў і некалькі корэспондэнцыяў. Усё гэта дружна сабралі, а друкарня пасьпяшыла набраць. Па меры набору, матар'ял трэ' было насіць у папярэднюю „прэдварыцельную“, цэнзуру на прагляд. Мы гэта наладзілі так, каб друкарня не магла затрымоўвацца праз цэнзуру.

Аднак—увы!—ня так рабілася, як мы думалі й меркавалі. Калі Будзька, папярэдзіўшы мяне па тэлэфону, што «заўтра першы нумар будзе гатовы», та гэтым ён вельмі ашукаўся сам і дарэмна парадаваў мяне. Ужо назаўтра ён мне паведаміў, што з газэтаю «зацёрла».

— Чаму?—пытаю.

— Цэнзура не аддае гранак; тры разы наведываў.

— Якая прычына?

— Адказваюць, што няма беларускага цэнзара.

— Ну, а мы гэта пры чым? Няхай даюць непрагледжаныя.

Але так можна было гутарыць між сабою. З царскімі чыноўнікамі не магло быць ніякае гутаркі. Калі мы ім, тлумачачы аб тэрміновасьці газэтнай справы, даказвалі немагчымасьць гэткіх адносін да друку, то тыя ехідна ўхмыляліся і адварочваліся ў бок. А нам прыходзілася, разьвёўшы рукі, выходзіць ні з чым.

Так пазводзіла нас «цэнзурнае ўпраўленьне» дзён тры. Матар'ял стаяў у наборы, прыпраўленым у машыну, а дазволу ад цэнзуры мы ня прыносілі. Гаспадар друкарні злаваў і грэзіўся разьбіраць набор, каб аслабаніць

шрыфт і машыну. Нашым «выгадным» умовам пагражала небясьпека. Чорт іх ведае, калі яны найдуць беларускага цэнзара. Папераменна, а то і разам, па некалькі раз у дзень, наведвалі мы цэнзуру. Сталі праціўны нам жоўтыя муры на Тэатральнай № 1.

Нарэшце, вечарам трэцяга дня гранкі былі працэнзураваны. Цэнзура дзесьці адкапала «беларускага» цэнзара, па прозьвішчу Трафімовіч. Апошні якраз адпавядаў свайму назначэньню і так шчыра праглядзеў матар'ял, што... ніводнае гранкі не засталося цэлае. Паўсьцяжныя крыжы чырвоным чарнілам убіралі кожную з іх ад верху да нізу.

Перадавая была выкасавана спрэс уся. Нават перакрыжаваны і подпіс „Рэдакцыя“. Той-жа лёс дастаўся й корэспондэнцыі з Капыля за падпісам «Зьмітро». Праўда, у гэтай былі пакінуты словы зьверху «Капыль», а ўнізе, на прагоне паўслупка—«Зьмітро». Артыкул „Аб спажытковай бядзе“ быў парваны на некалькі кавалачкаў. Ад артыкулу засталіся разьяднаныя па сэнсу адрыўкі і на адгоне квадратаў 20 ад апошняга радка стаяў подпіс: „Д. Ж-чч“. Усе намёкі на цяжасьць харчовага становішча, датыркненьне скутку запросу Дзяржаўнай Думы па гэтаму пытаньню—падпалі пад пяро цэнзара. Нават пераложаную з расійскіх газэт хроніку цэнзар напалову выкінуў, закасаваўшы словы „*Надовечы, пры ўрачыстых абставінах*“... немцы аб'явілі забраную ад Расіі частку Польшчы асобнай дзяржавай“.

У артыкуле „Аб Беларускім Унівэрсытэце“ вызвалі падозранасьць і былі выкінуты словы, якія казалі пра тое, што беларуская інтэлігэнцыя аддавала свае сілы чужынцам—„*расійцам і палякам*“*). У чародным за гэтымі словамі сказе, які казаў: „Як навука, так і музыка гэтых народаў шмат абагаціліся за кошт беларускіх пісьменьнікаў і музыкантаў“,—слова „*гэтых*“ было закасована. Цэнзар міласьліва пакінуў нечапанымі літаратурныя рэчы...

Гэткім чынам першага лістапада выйшаў першы нумар „Дзяньніцы“ напалову белым.

Чытач ня мог даведацца ні ўмоў организацыі газэты, ні яе програмы, затое ясна бачыў стэрэнную ўвагу цэнзуры.

Беларускі цэнзар быў „шчырым“ беларусам!

Але мы думалі, што яго „шчырасьць“ ня ўмеру мо' крыху астыне к чароднаму нумару. Што-ж,—разважалі мы:—кіруюцца іншыя газэты плямамі (хоць пропорцыянальна куды меншымі), няхай і наша не адстане. Адна будзе плямістай, а другая мо' й ня чэпіцца. І мы без запасу (каб ня траціць грошы на лішні набор) сабралі матар'ял на другі нумар. Набралі. Панясьлі ў цэнзуру. І ў скутку—тая гісторыя, што і з першым. „Пан цэнзар“ цалком выкрасьліў артыкул аб становішчы бежанцаў, хоць ён быў напісан куды ў мякчэйшых выразах, чымсь падобныя артыкулы ў расійскіх газэтах. У перадавым-жа артыкуле, які выказваў патрэбнасьць беларускае газэты „ў гэткі адпаведны час“, цэнзар выкрасьліў словы „цяпер, *калі беларускі народ засьціла вялікае няшчасьце,* мы яскрава бачым, што яму нельга абыйсьціся без свае газэты, без свайго друкаванага слова“.

Таксама напалову закрэсьліў хроніку.

І другі нумар, ад 9 лістапада, аказаўся ня менш першага плямістым. Вось гэта ўжо не сьмяшыла і не давала гордасьці, гэта казала за тое, што цэнзура не задарма цэлых тры дні шукала беларускага цэнзара. Беларускае друкаванае слова, няпрыметнае ў трохмільённым горадзе, прызначанае абслугоўваць зусім невялікія колы сьвядомага беларускага грамадзянства, было зусім не па густу разнузданай, гібнучай царскай уладзе. Рэволюцыйны

*) Курсівам набраныя словы выкінуты цэнзурай.

ўздым—гэта ведала царскае правіцельства—даставаў не малое падтрыманьне ад нацыянальнага руху. Апошні нёс з сабою далёка не жартоўныя патрабаваньні „свабоды друку і культурнай аўтономіі“, а рабіў грозны замах на незалежнасьць прыгнечаных самадзяржаўем нацыянальнасьцей. Скаваныя ланцугамі нацыянальнага прыгону „единой неделимой“ сур'ёзна пагражалі „злые“ сэпаратысты. Ужо спачатку вайны даў аб сабе знаць „Саюз вызваленьня Украіны, на чале з Дарашэнкам, Скарапісь Іолтухоўскім і іншымі, супроць якога паднялі лаянку й брахню, пачынаючы ад «Новога Времени» да „Дня“ усе газэты *). Прыходзілася азірацца на поўнач (Фінляндыя) і на Захад (Літва, Латвія) **). Праўда, саманадзейнае правіцельства Мікалая II глядзела на нацыянальны рух больш-менш заспакоена, спадзяючыся на добра наладжаную русыфікатарскую машыну. Але ўмовы вайны, польскае пытаньне і з кожным днём усё вышэй сягаючы рэволюцыйны настрой застаўлялі яго (урад) зорка аглядацца наўкола.

Беларускі рух, не пасьпеўшы да таго выразна нашкодзіць самадзяржаўю, у час вайны здаваўся яму не малою пагрозаю ў яднаньні з другімі. І дазволіць „беларускім сэпаратыстым“ вольную агітацыю, пэўна, нельга было хоць і ў тэй меры і ў тым размаху, якія азначвалі тымчасовыя ўмовы. Таму так строга накінулася цэнзура на маленькую адзіную беларускую газэту „Дзяньніца“. Нельга было казаць ніводнага слова праўды, на якой-бы мове яна не гаварылася...

На трэці і чацьвёрты нумары мы набралі матар'ялу ў запас; пры гэтым усякую адзнаку выяўнасьці думак зьмянілі на сухую цьмяную эзопаўшчыну. Але самыя загалоўкі таілі ў сабе «крымінальнасьць» і запаўнялі лёс усяму артыкулу. Некалькі з іх было выкінута і заменена запаснымі. Праз гэта №№ 3 і 4 прайшлі бяз прыметных плям ад рукі цэнзуры. Але гэта ня цешыла, бо пісаць абы што й абы аб чым не апраўдвала нашай самаахвярнасьці сілаю і грашыма, вырыўкамі з заработку. Газэта мусіла быць працягам народна-працоўных ідэй у беларускім руху, маючы просты, няўхільны рэволюцыйна-нацыянальны твар. Адпаведна нашым намерам мы зноў к № 5 падвастрылі пер'і і асталіся зноў з напалавіну белай газэтай: два артыкулы і старонку розных вестак з хронікі цэнзура бязжаласна выкрасьліла. Гэта выводзіла з цярплівасьці: многія пачалі казаць пра марнасьць працы і траты дарагіх сродкаў. Э. Будзька разуважваў і так і гэтак: то радзіў зьмякчыць тон артыкулаў, то прапанаваў зусім зачыніць да „лепшае пары». А мяне браў задзёр цягнуць выданьне ў тым-жа кірунку надалей. Гэтаму многа пасабляла паціху ўзрастаўшыя вядомасьць і пашырэньне газэты. Пачалі адусюль прысылаць перадплату і разам гарачыя пажаданьні; стала аднаўляцца так патрэбная сувязь між беларускімі колёніямі і асобнымі людзьмі. Беларуская колёнія з Менску (21 чал.) пісала Петраградзкай: «Менскія беларусы, сабраўшыся ўшанаваць 10-леццe „Нашай Нівы“, пасылаюць вам сваё прывітаньне і шчыра спагадаюць узмацаваньню вашае „карыснае“ працы, а перад усім—разьвіццю заснаваных нядаўна газэтаў, пасьля сьмерці „Нашае Нівы“ падняўшых

...ня знаўшае пабед,
ды не заплямленае знамя.

---

*) У газэце „День“ ад 8 красавіка 1915 г. у артыкуле „Правакацыя“ „Саюз вызваленьня Украіны“ называўся організацыяй „аўстрыйскага імпэратара“ і абліваўся бруднымі памыямі.

**) У чэрвені 1916 году на III конфэрэнцыі ў Лёзане быў пададзены матар'ял прадстаўнікамі беларусаў. Зьмест матар'ялу надрукован у № 21 ад 29 верасьня 1917 г. „Вольная Беларусь“, Менск.

Мы, як мага, падтрымаем вас. Жадаем таму, каб мацнейшымі былі завязкі між вамі і менскімі беларусамі, і мы зноў зьядналі-бы свае разьбітыя сілы і маглі супольна кіравацца да нашае агульнае блізкае мэты". Менск-Беларускі, лістапада 12-га 1916 году *). Лістом у рэдакцыю пісьменьніца Констанцыя Буйла дадавала ад сябе: „Ня ведаю, кім прысланыя, зьявіліся да мяне два першыя нумары „Дзяньніцы" і „Swietacza" і ўскалыхнулі так міла душу, што не магу стрымацца, каб не напісаць прывету.

Жадаць вам хочацца многа... Няхай-жа „Дзяньніца" і „Swietacz" асьвячаюць мрокі стогнучай пад цяжарам крывавых дзён старонкі роднай, хай мрок асьвеціцца надзеяй, што лепшыя часы недалёка, а на небе, як знак гэтага, хай залунае „Дзяньніца, асьвятляючы ўвесь, што ні на ёсьць, шырокі прастор краю Беларускага. Хай газэты гэтыя будуць жывым адбіткам душы й думак і ўсяго перажытага Народам; хай усё, што жывога ў нас і балючага, адсьвеціцца ў іх праменьнях,—хай пакажацца на сьвет і супольнымі сіламі пастараемся лячыць свае раны, свае балячкі...

...Шчыра жадаю вытрываласьці і еднасьці ў працы вялікай"**).

Павіншаваньні адно за другім ішлі з розных мясцоў. Усе яны зычылі посьпеху ў працы, усе абяцалі пасільнае падтрыманьне. Але яго, зразумела, было вельмі-вельмі мала, каб змагацца з цяжкімі ўмовамі для пасьпешнай працы. З аднаго боку цэнзура, а ў дадатак ёй мая з Э. Будзькам непадсільнасьць выстарчаць патрэбныя сродкі з прыватнага свайго заработку, напіралі на нас з залезнаю ўпартасьцю і перашкаджалі... рабоце.

Галоўным чынам дапякала цэнзура: чым далей, тым больш яна сьвірапела: то бязьлітасна касавала ўсё, то па некалькі дзён затрымлівала гранкі без перагляду. Проста абрыдзела па некалькі раз на дзень соващца ў цэнзуру да „беларускага" цэнзара і патрабаваць ад яго хутчэйшага перагляду матар'ялу. Чулася, што над „Дзяньніцай" начальства занясло свой меч, парашыўшы задушыць „праяву нямецкае інтрыгі". Пазьней крыху, калі „Дзяньніца" зачынілася, у „Новым Времени"***) зьявілася інспірыраваная стацьця правадыра русыфікатарска-чорнасотніцкай політыкі у „Северо-Западном Крае" вядомага грамілы Саланевіча, пад назваю „Нямецкія хітрасьці". Саланевіч пісаў: „Раздуваньне немцамі ўкраінства й беларусінства і польшчызны ў Беларусі і Літве,—гэтыя, больш чым наіўныя прыёмы нямецкай політыкі ясна сьведчаць, што немцы прагледзелі тую вагромністую эволюцыю, якая зрабілася ў настроі рускага грамадзянства за два з палову гады вайны ў адносінах унутранага нацыянальнага пытаньня; не змаглі падглядзіць і тых новых адкрыцьцяў, якія дала гэта вайна ў галінах нацыянальных адносін. (Намёк на маніфэст Мікалая Мікалаевіча да палякаў, які быў выдан ім, як галоўнакамандуючым, у пачатку вайны)... Стала ясна,—пісаў далей Саланевіч,—што нам грэзіла апаска ня з боку палякоў, украінцаў, беларусаў і жыдоў (гэты юдаш чуў ужо набліжэньне рэволюцыі), якія гадамі прытвараліся нашымі прыяцелямі".

Зрабіўшы гэты ўвод, ябеднік пераходзіў да фактаў: „Калі немцы задаюцца мэтаю адцягнуць нас ад энэргічнага змаганьня з нямецкім засільлем, якое вядзецца па ўсім напрамкам, то гэта мэта ня будзе дасягнута. Перамяшчэньне цэнтру ўкраінскай пропаганды з Вены ў Бэрлін, распаўсюджаньне гэтай пропаганды на лягеры нашых ваенна-палонных украінскага пахаджэньня і дапамога беларускай газэце „Homan" у Вільні, *якая зроблена афі-*

*) „Дзяньніца" № 4—27 лістапада 1916 г., Пецярбург. Словы: „карыснае", „агульнае" і „блізкае" цэнзура выкрасьліла.

**) „Дзяньніца" ад 27 лістапада 1916 г., Петраград.

***) „Новое Время" ад 10 (23) лютага 1917 г.

*нуёзам віленскага гэнэрал-губарнатара* (курсіў наш. З. Ж.), організацыя польскіх паняў (дам) у той-жа Вільні ў мэтах афішыраваньня цягі Беларусі й Літвы да Польшчы, а не да Расіі,—усё гэта нікога з нас не ашуквае і не мяняе цьвёрдасьці пераканаьня“.

Аднак празываючы нацыянальны рух „нямецкаю інтрыгаю“, каб апраўдаць самае злое змаганьне з ім, якое нібы дыктуе „дзяржаўная справа“,—некалькімі радкамі ніжэй Саланевіч разьвязвае язык і сыпле на ўкраінцаў і беларусаў сваім звычайным пагромным лексіконам. Украінства—гэта мазэпінства, каторае павінна загінуць, як „загінуў сам Мазэпа“. Беларускі сэпаратызм—тое самае. У агуле-ж праз вусны царскага словаблуда-грамілы праходзіць выяўная заклапочанасьць самадзяржаў'я з-за росту нацыянальнага руху наогул і беларускага ў асобку і адпаведна гэтаму расла рашучасьць нашчадна змагацца з ім.

„Не ашукаюць нас немцы і інсцэніроўкаю беларускага сэпаратызму,—пісаў у тым-жа артыкуле Саланевіч:—што гэты сэпаратызм заўжды быў зьявішчам палітычным, што беларусінства па сваёй прыродзе цесна зьвязана з украінствам, што і яно корміцца з тых-жа крыніц, як і ўкраінства—гэта мы знаем даўно. Але знаем мы й тое, што беларусінства ня мае ніякіх карэньняў у народзе, ніякае глебы пад нагамі. А на колькі яно нішчасна (жалко) і бяспомачна ў культурных адносінах, аб гэтым усякі, хто хоча ведаць, можа скласьці сабе зусім пэўнае выяўленьне па двум „біалорускім“ (тэрмін і лапкі Саланевіча, З. Ж.) тыднёвікам, якія выходзяць у Пецярбурзе—„Дзяньніца“ і „Swietacz“, якія бяруць на сябе няўдзячнае заданьне даказаць, што „Біалорусы“ (тэрмін і лапкі Саланевіча) асобы народ, з асобаю моваю, з асобаю культураю і асобымі гістарычнымі тэндэнцыямі“...

„Не“, заключае Саланевіч адносна беларускага сэпаратызму: „ня тыя часы, ня той настрой, ня тое самасазнаньне. Палякі не адкажуцца ад калыскі свае радзімы—Пазнані, каб пагнацца за зданьнем пашырэньня пры дапамозе немцаў сваіх граніц на *„исконно-расійскія землі Беларусі і Літвы, дзе палякі складаюць нязначную меншасьць сярод спрэчнага расійскага жыхарства“* (Курсіў наш. З. Ж.).

Адначасова гэты артыкул яскрава выяўляў сабою ўсю трывогу, што наганяў на царскую ўладу ўзрастаючы нацыянальны рух, і спосабы змаганьня з ім.

Бязумоўна, што гэтаму артыкулу папярэдзілі „конкрэтныя намёкі“ каму належыць пільней сачыць за тыднёвікам „Дзяньніца“. Беларускі цэнзар для сваіх „шчырых“ закрэсьліваньняў матар'ялу для яе напэўна меў натхненьне ад Саланевіча—іначай і быць не магло. Змаганьне было бескарысным. На шостым нумары прышлося падумаць аб зачыненьні газэты. Аднак выразна абгаворваць гэта пытаньне ўсё яшчэ баяліся. Думалася, што нам на падмогу падыйдуць тыя ці іншыя здарэньні і адчыняць мажлівасьць на далейшае выданьне.

Разьвіцьцё палітычных падзей ішло ўсё хутчэй. Сьнежань месяц даў шырокі разьліў буржуйна-опозыцыйнага руху, які меў скуткам забойства вядомага Распуціна Пурышкевічам і кампаньняю. Па Пецярбурзе хадзілі розныя чуткі, у паветры пахла блізкім выбухам вялікага змаганьня. Момант вельмі быў адпаведным. К гэтаму заставалася два тыдні да новага году. У крайнім разе трэба сабрацца з сіламі і працягнуць выданьне да новага году. На гэтым і парашылі.

На каляды здалі матар'ял на апошні сёмы нумар. Падмога ня йшла: цэнзура арудвала пастарому. Палітычныя здарэньні сьвятамі прытупіліся. Сродкі адкуль не падыходзілі. Усё казала, што сёмы нумар мае лёс быць апошнім. Праўда, гэта сьведчыла за слабы ровень росту беларускага руху,

у якога не хапала мажлівасьці ўтрымаць адну маленькую газэтку. Але поруч з гэтым, ужо адна спроба пратрымаць яе на працягу сямі штотыднёвых нумароў пры немажліва-цяжарных, як палітычных, гэтак і матар'яльных умовах, казала аб вялікай непаборнай жыцьцёвасьці беларускай ідэі. Праз два месяцы з моманту зачыненьня «Дзяньніцы» жыцьцё засьведчыла гэта, як найпаўней. Фэўральская рэволюцыя ўзьняла нацыянальную справу высока ўверх, даўшы ёй магутны імпульс для шырокагар азьвіцьця. Зачыняючы «Дзяньніцу», рэдакцыя прадчувала блізкі надыход гэтых шчасьлівых дзён і разьвіталася з сваімі чытачамі ніжэйпаданымі словамі: „Калі мы закладалі сваю газэту, то ясна адзначалі ўсе тыя варункі, у якіх яна мелася жыць, падлічвалі тыя сілы, якія маглі на яе ахвяраваццца, і адчувалі ўсю маласьць іх і недастачу. Але, калі мы закладалі сваю газэту, дык ня лічыліся ні з чым, што магло ня спрыяць яе жыцьцю, не патуралі нічому, бо нэмі кіравала мэта патрэбы роднай газэты, жывога слова беларускай мовы. І гэта мэта радзіла нам веру, якая, у свой чарод, прыбаўляла сілы. Таксама мы кахалі надзею на тое, што якая-б ня была наша праца, яна каму-кольвек ды па сэрцы прыдзецца. Надзея ў апошнім нам ня схлусіла: шчырым сыном свае краіны наша газэта дала ўсё тое, што ад яе можна чакаць. Большага, чымсь можна пры варунках жыцьця, агортаючых яго, даць нельга; вось і зусім напрасны якія-б ня былі наракань̂і.

Нашай газэты выйшла сем нумароў. Далей на нейкі час яна вымушана спыніцца. Цяжарныя варункі з усіх бакоў—віною сяму. Апошні нумар захапіў Новы год, чаму мы і радуемся, бо маем мажлівасьць павіншаваць вас, сваіх чытачоў, пазваць да працы ў надыйшоўшым новым годзе і пажадаць спаткацца з вамі пры шчасьнейшых варунках жыцьця. З Новым годам! З новым шчасьцем! Рэдакцыя*)“

Гэтым закончыўся адзін з цікавых эпізодаў у жыцьці маладога беларускага друку. Гэты эпізод якраз саўпаў з часам самага глухога моманту ў гісторыі разьвіцьця беларускага руху і з часам самай гострай, перадсьмертнай драпежнасьці царскага ладу. Стрэча з чытачамі на старонках новай „Дзяньніцы“ адбылася толькі праз год, але праз год вялікага ўздыму беларускага руху, які даў сілы ўзыйсьці беларускаму працоўнаму народу на першую ступень усходаў к Беларускай Рэспубліцы.

Гэта была „Дзяньніца“—орган Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту пры Народным Камісарыяце па Нацыянальных Справах, якая выйшла першым № 1 марта 1918 г.

З. Жылуновіч.

---

*) „Дзяньніца“ № 7 ад 31 сьнежня 1916 г. Петраград.

# Цэнтрархіў Беларусі.

Вайна, рэволюцыя і розныя окупацыі Беларусі прынясьлі страшэнную пустку беларускіх архіваў.

У часы розных эвакуацыяў з Беларусі былі вывезены ў далёкія куткі Расіі каштоўнейшыя справы тагочасовых устаноў, дзе, захопленыя рэволюцыяй, у большасьці згінулі. У часы разгару грамадзянскай вайны на Беларусі згінула шмат цікавейшых архіўных фондаў, у тым ліку амаль што ўсе архівы былых валасных праўленьняў, суду і зямельных валасных управ.

Польскія легіёны, пакідаючы Беларусь, вывезьлі ў Польшчу не малы лік каштоўных архіўных дакумантаў. Выгнаныя паўстаўшым народам памешчыкі павывозілі ў Польшчу фамільныя і ўсадзьбовыя архівы, зьмест якіх заўсёды меў большую вартасьць да гісторыі краю, чымсь да самога валадара. Палякі пры адходзе з Менску забралі архіў Менскай Губэрскай Землеўстраіцельнай Комісіі і часткай Менскай Губэрскай Земскай управы. Частка архіву Канцэлярыі Менскага Губарнатара, Менскай гарадзкой Управы са старадаўнымі плянамі Менску, друкованыя матар'ялы бібліографічнай рэдкасьці аб Меншчыне, узятыя палякамі з архіваў для вывазу ў Польшчу, як вядома, згінулі ў вагні на вакзале, які быў імі-ж спалены. Прынятыя крокі аб звароце вывезеных палякамі архіваў у Польшчу, не прывялі ні да якіх рэзультатаў. Яшчэ да прыходу палякаў нямецкія окупанты Беларусі, зьбіраючы па ўсяму краю помнікі Беларускай культуры для вывазу ў Нямеччыну, не пакідалі бяз увагі і архіваў. Немцамі быў прадаены архіў быўшага Менскага Губэрскага па вайсковых справах прысутства. А што было ўзята як немцамі, так і палякамі з адзінковых цікавейшых дакумантаў, устанавіць цяпер вельмі цяжка.

У пылу рэволюцыі, ужо пры Савецкай уладзе, згінуў архіў Турэмнага Замку, Менскага Губэрскага Жандарскага Праўленьня, многія справы (больш 2 вагонаў) Канцэлярыі Менскага губарнатара і Губэрскага Праўленьня, архіў якіх устаноў у 1921 г. быў адпраўлены ў Шклоў на папяровую фабрыку для пераробкі. Гэты найцікавейшы архіў толькі выпадкова быў адратованы ад гібелі і ў разбураным і расшкаматаным становішчы быў вернут у Менск у сваёй большай частцы. Згінулі ўсе справы Губэрскага Статыстычнага Комітэту і шмат іншых. Усяго па падліку Цэнтрархіву згінула толькі ў адным Менску больш за 45 архіўных фондаў, ня лічачы дробных архіваў, як школ і т. п.

У гэты час вялікай барацьбы многія старыя ўстановы зьніклі бясьсьледна. Установіўшыся на іх месцы новыя сталі выкідываць астаўшыяся архіўныя справы, як нікому непатрэбны папяровы хлам. Разьбітыя і расшкаматаныя архіўныя справы шырокай ракой пацяклі, як макулятура, на

папяровыя фабрыкі, розным гандляром і т. п., уносячы назаўсёды цікавейшыя веды нашай сумнай мінуўшчыны. Гэта страта для выведаў Беларусі ў галінах гістарычных, экономічных, політычных і інш. вельмі спачула скажацца будучым дасьледчыкам, калі ўмацуецца самастойная беларуская навука і разгорне свае выведы па ўсіх галінах жыцьця.

Да ўтварэньня Цэнтрархіву Беларусі ня было спэцыяльнай установы, якая-б вяла патрэбную ў краі архіваведчую працу. Гэта справа, як ня вельмі значная, па прыкладу Масквы, даручалася дадаткова да спраў аддзелаў ці Камісіяў Наркамасьветы. Па аслабаненьні Менску ад палякоў, з утварэньнем Наркамасьветы Беларусі быў організаваны аддзел па ахове помнікаў старыны і мастацтва, на абавязак якога аддзелу была ўзложана і ахова архіваў. Пасьля расформаваньня гэтага аддзелу, пры сакрашчэньні штатаў Наркамасьветы ў 1921 г., ахова архіваў была даручана спэцыяльна організаванай пры Акадэмічным Цэнтры Беларусі Вучонай Архіўнай Комісіі, якая часткаю і стрымлівала ад гібелі архіўныя матар'ялы.

Але такая вузкая пастаноўка архіўнай справы на Беларусі не магла здаволіць тых патрэб, якія вымагаліся ад архіваў сучасным жыцьцём і навуковай ацэнкай значнасьці архіваў для сучаснага адраджэньня Беларусі і яе Савецкага будаўніцтва. Ясна зразумелася, што немажліва далей пакідаць архіўныя фонды распыленымі па розных установах, што неабходна правясьці цэнтралізацыю архіўнай справы на Беларусі, сабраць усе архіўныя фонды ў адным месцы, даць ім належную сыстэматызацыю, зрабіць патрэбныя апісаньні і даць доступ да архіваў у дзелавых і навуковых мэтах. У выніку гэтага Акадэмічны Цэнтр Беларусі прадставіў Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Беларусі проэкт аб організацыі Цэнтральнага Дзяржаўнага Архіву Беларусі, які-б і сасрэдаточыў у сабе архіваведчаскую працу, павёўшы цэнтралізацыю архіваў на Беларусі. 12 верасьня 1922 году Ц. В. К-ам палажэньне гэта было зацьверджана і такім чынам быў організаваны пры Ц. В. К. Цэнтрархіў Беларусі.

З утварэньнем Цэнтрархіву Беларусі, архіўная справа прыняла належны напрамак. Былі намечаны выразныя заданьні, да ажыцьцяўленьня якіх цьвёрда прыступлена. Першым чынам былі ўзяты на ўчот размаітыя архіўныя адзінкі і паведзена барацьба са зьніштожнікамі архіўных дакумантаў. З розных сырых куткоў і падвалаў сталі звозіцца ў адно архівахранілішча розныя архіўныя адзінкі. На паветах пры Іспалкомах былі організаваны філіі Цэнтрархіву, якія па заданьням Цэнтру на мясцох павялі належную працу. 18 сьнежня 1922 г. прэзыдыумам Ц. В. К. Беларусі была выдана інструкцыя аб парадку перадачы ў Цэнтрархіў і яго павятовыя філіі архіўных спраў і папер і аб парадку іх зьніштажэньня. Гэта інструкцыя заставіла Савецкія ўстановы і організацыі зьвярнуць увагу на свае архівы, прывясьці іх у належны парадак і здаць на захову і распрацоўку Цэнтрархіву.

Але мала сабраць архіўныя матар'ялы ў адным месцы; неабходна іх яшчэ належным парадкам апрацаваць, зьмест архіву зрабіць вядомым і ўвясьці яго ў навуковы абарот. Сабраныя архіўныя матар'ялы ня маюць ніякіх апісаньняў, без чаго зьмест іх астаецца невядомым і для карыстаньня недаступным. З другога боку, ня кожная архіўная справа мае каштоўнасьць і ў гэтым напрамку Цэнтрархівам прыступлена да разабраньня каштоўнага ад непатрэбнага. Дзеля гэтага пры Цэнтрархіве ўтворана часовая Разборачная Камісія з тэхнічных працаўнікоў, якая і вядзе разборку архіваў пад наглядам спэцыялістых.

За кароткі час свайго істнаваньня пры вельмі слабых грашовых сродках Цэнтрархіў Беларусі пастроіў стройную організацыйную сыстэму і энэргічна разьвіў сваю дзейнасьць. Вядучы ўнутранае ўпарадачаньне сабраных архіваў, Цэнтрархіў не пакідае без свайго ведама гістарычных дакумантаў, дзе-бы толькі яны не знаходзіліся, прымаючы ўсе меры да іх розыску. З гэтаю мэтаю Цэнтрархіў праводзіў патрэбную справу праз дапамогу Упнарыма, камандыраваў сваіх супрацоўнікоў у некаторыя выдатнейшыя маёнткі, а гэтак сама загадчыкамі павятовых філій быў зроблены мінулым летам абгляд дворных архіваў па сваіх паветах па спэцыяльна выпрацаванай для гэтага інструкцыі Цэнтрархівам. Спэцыяльнай анкетай былі абсьледаваны ўсе валасныя архівы, якія асталіся ад старых часоў і заведзеныя сучаснымі ўстановамі. Прыняты належныя крокі да звароту з Расіі захаваўшыхся эвакуаваных з Беларусі архіваў, аб атрыманьні з розных мест С. С. С. Р. архіваў Беларускіх камісарыятаў, аддзелаў і гурткоў. У выніку гэтай працы многія каштоўнейшыя гістарычныя дакументы былі спасены і паступілі на захову ў Цэнтрархіў.

Шчынна і старэнна сабраныя архіўныя матар'ялы старых часоў, якія сотнямі гадоў былі сакрыты ад ведама грамадзянства, цяпер раскрыюць шмат чаго новага ў чынімых злачынствах царскага ўраду над беларускім працоўным людам. Толькі на архіўных матар'ялах можа ўтварыцца праўдзівая гісторыя беларускага народу—яго жыцьця і барацьбы за волю. Многа чаго новага скажуць гэтыя старыя парудзеўшыя паперы, много чаго аправерглнуць старога ў паглядах аб Беларусі.

Да гэтага часу ў архівахранілішчы Цэнтрархіву згрупованы вось гэткія архіўныя фонды: акты і граматы XVI—XVIII в. в., усяго каля 1000 лістоў, большасьць якіх пісана на старой беларускай мове; фамільныя архівы графоў Завішаў і Хмараў; архіў дваранскага дэпутацкага сабраньня; частка архіву канцэлярыі Менскага губэрнатара і Губэрскага прысуцтва з цікавымі справамі аб сялянскім рэволюцыйным руху на Беларусі і аб аграрных беспарадках; частка інвэнтарных опісяў (сялянскіх гаспадарак часоў прыгону), выкупныя акты, рэвізкія сказкі і губэрскай чарцёжнай комісіі, якія архівы зьяўляюцца цікавымі крыніцамі па землебудаўніцтву на Беларусі і становішчы сялян за прыгонам; Слуцкага Сьвята-Троіцкага манастыру; уніяцкіх біскупаў, часткай архіў Менскай духоўнай консысторыі, часткай дырэкцыі народных школ, казённай палаты; апошні архіў трымае шмат ведаў аб гандлі і прамысловасьці на Беларусі ў старыя часы; Акружнога суду, Менскай гарадзкой управы і думы, Менскай губэрскай зямельнай управы, Кантрольнай палаты, матар'яльны архіў Беларускага нацыянальнага комітэту і іншыя. Для разьмяшчэньня гэтых архіўных фондаў Цэнтрархіў займае два былых касьцёлы і адзін прыватны дом. Праўда, гэтыя памяшканьні дрэнна дапасованы пад архівы. Галоўнае, гэта памяшканьні архіву небезапасны ад пажару і вільгаці.

Уперадзе Цэнтрархіў чакае яшчэ шмат цяжкай непачатай працы. Вядучы распрацоўку згрупаваных архіўных матар'ялаў старых часоў, перад Цэнтрархівам стаіць вялікае заданьне: прывясьці ў належны парадак архівы Савецкіх устаноў і наладзіць правідловую, плянамерную здачу з Цэнтрархіву. Многія нашы камісарыяты, а асабліва дробныя ўстановы на закончаныя справы глядзяць як на нікому непатрэбныя рэчы. Бяручы пад увагу сучаснае становішча Савецкай Беларусі, Цэнтрархіў прымае ўсе магчымыя меры захаваць архівы сучасных устаноў. Ня так шмат пройдзе часу, як сучасныя архівы стануць цікавейшымі крыніцамі для гісторыі рэволюцыйнай барацьбы, Савецкага будаўніцтва, культурнага і экономічнага адраджэньня Беларусі.

Насьпеў час распачаць археографічную працу ў Цэнтрархіве. Зьяўляецца патрэба выдрукаваць цікавейшыя дакуманты, адносныя да мінулага жыцьця Беларусі, рэволюцыйнай барацьбы, беларускага адраджэньня і т. п. Цэнтрархівам намечана для апублікаваньня матар'ялу, выданьне „Чырвоны Архіў Беларусі", але гэта многа залежыць ад сродкаў.

Цэнтрархіў, як навуковая ўстанова, зьяўляецца авангардам разьвіваючайся беларускай навукі і займае слаўную старонку ў гісторыі навуковых установ Савецкай Беларусі.

М. Мялешка.

# Кнігапіс

## Беларусь у расійскіх навуковых выданьнях 1923 г.

У бягучым годзе ў Маскоўшчыне выйшаў шэраг спэцыяльна-навуковых і популярна-навуковых прац, у якіх зачэплены некаторыя бакі, галоўным чынам, старажытнай Беларусі.

Перш трэ' затрымацца на працы Курдзюмава: „Описаніе актовъ, хранящихся въ архивѣ археографической Комиссіи", зьмешчанай у 31-ай кніжцы „Летописи занятий археографической Комиссии за 1918 год", але выданай у 1923 г. Курдзюмаў апісвае цэлы шэраг прыватных рукапісных сабраньняў, перайшоўшых Пецярбурскую Археографічную Камісію, дзякуючы куплі ці ахвяры.

Перш за ўсё Курдзюмавым разглядаецца колекцыя Салаўёва, як надта вялікая па ліку дакумантаў і каштоўная па іх гістарычнаму значэньню. Для беларусаў гэтая колекцыя вельмі цікава тым, што яна мае шмат дакумантаў, вывезеных з Беларусі і напісаных стара-беларускай мовай.

Калісь-то яны ўваходзілі ў архіў Смаленскага ваяводзкага прыказу, адкуль у пачатку 17-га веку, заграбаваныя швэдамі, апынуліся аж у далёкай халоднай Швэцыі, у катарай шмат беларускіх дакумантаў загінула, а рэшта ў 1836—1840 г.г. была сабрана часткай у аўтэнтыках, а часткай у копіях прафэсарам Фінляндзкага Ўнівэрсытэту—Салаўёвым, у яго пяцёхгадовых спэцыяльна археографічных паездках па Швэцыі. Беларуская частка яго сабраньня ў 1838 г. была аддадзена ў Археографічную Камісію, дзе частка актаў захавалася аж да нашага часу, а частка няведама як згінула. Дакуманты, маючыя найбольшую гістарычную каштоўнасьць, былі выдрукаваны ў розных спэцыяльных навуковых расійскіх выданьнях, як-то: „Акты Западной Россіи", „Акты Историческіе" і інш. Але ўсёткі значная частка беларускіх дакумантаў засталася не друкаванай.

Беларускія дакуманты разглядаемага сабраньня пачынаюцца з 1150 году граматамі Смаленскага князя Расьціслава Мсьціславіча і першага Смаленскага архірэя Мануіла. Потым перарыў аж да 1506 г., з каторага дакуманты цягнуцца па 1650 г. уключна.

Гэта сьведчыць аб тым, што захопленыя швэдамі беларускія акты Смаленшчыны абхоплівалі эпоху XII-XVII вякоў і што самыя старажытныя акты аб найбольш цікавай пары будаўніцтва беларускім народам сваёй дзяржаўнасьці рэспубліканска-вечавога ладу, ад якога, апрача паданьня, да нас нічога не дайшло, усе аказаліся зьнішчанымі недзе ў Швэцыі...

Захаваўшыяся акты высьвятляюць адносіны палітычныя, дыплёматычныя і вайсковыя паміж Маскоўшчынай з аднаго боку і Беларусьсю з

Літвой з другога боку; захаваўшыяся акты зьмяшчаюць у сабе данныя па гісторыі асады Смаленску і здачы яго паляком. Ёсьць ня мала дакумантаў і па дасьледваньню Смаленскай Беларусі і з чыста экономічнага боку.

У 1839 г. у камісію была перададзена колекцыя старадаўных актаў XVII-XVIII в. з фамільнага архіву Вонлярлярскіх, пісаных у рознай мове, у тым ліку і на стара-беларускай.

У 1849 г. Камісіі быў перададзен рукапіс XVI веку, зьмяшчаючы перакладзеныя на беларускую мову польска-расійскія дакуманты 1608-1615 г.г. аб перагаворах паміж літоўскімі „пасламі" і маскоўскімі „думнымі баярамі", адбываўшыяся у Смаленску і Маскве.

Частка гэтых дакумантаў выдрукавана, частка не.

У час з 1843 па 1852 г. у Камісію паступіла колекцыя старадаўных актаў Зубрыцкага, у якой таксама былі беларускія дакуманты, маючыя вялікае значэньне, як, напрыклад, дакуманты аб падтрыманьні на Беларусі праваслаўя царкоўнымі брацтвамі.

Але трэба адзначыць, што з ліку выдрукаванага і нявыдрукаванага з гэтага сабраньня значная частка дакумантаў загінула ў самой Археографічнай Камісіі. К ліку загінуўшага належыць і перапіска Астрожскага, вядомага абаронцы беларускіх народных інтарэсаў ад польскіх зьдзекаў (адбываўшыхся над беларусамі ужо ў XVI веку), акты аб правох праваслаўных беларусаў, дакуманты аб зьдзеках палякоў над беларускім жыхарствам.

Апрача агульна-гістарычнай каштоўнасьці для беларускае гісторыі усіх дакумантаў памянёных сабраньняў, яны маюць вялікае значэньне і для дасьледаваньня культурнага ўплыву стара-беларускае мовы ў сваёй дзяржаве і за яе межамі, напр., на Маскоўшчыну, Польшчу, Украіну і інш. Так у сабраньні Салаўёва знаходзяцца аўтэнтыковыя граматы польскіх каралёў, адносячыяся к пачатку XVI в., да розных беларускіх вайсковых, грамадзянскіх і палітычных дзеячоў, пісаных не папольску, а на стара-беларускай мове; жыхары Беларусі падаюць польскім каралём і каралеве Боне жалабы, пісаныя не папольску, а на стара-беларускай мове. Астрожскі піша розным польскім паном таксама на стара-беларускай мове. Цікава, што паміж некаторымі польскімі вяльможамі, як, напрыклад, „каралеўскім канцлерам" і „каралеўскім пісарам" перапіска па хатнім і гаспадарчым справам ідзе не папольску, як трэба было гэтага чакаць, а на стара-беларускай мове.

Мала гэтага, кіеўскі ваявода піша ў 1515 г. у літоўскую раду на беларускай мове, а ў 1517 г. Маскоўскі вялікі князь Васілі Іванавіч выдае грамату літоўскім і польскім паслам, лічучы сваім абавязкам пісаць не парускy, не палітоўску, не папольску, а на стара-беларускай мове.

Цікаў і нарыс Бальшакова „О судьбе некоторых архивных материалов по истории крепостного хозяйства с конца XVIII века", зьмешчаны ў 6-7 кніжцы „Архива истории труда в России". Ён таксама мае датычэньне да Беларускае культуры і навукі.

Справа ў тым, што беларусамі зусім не дасьледаван экономічны бок эпохі, папярэджваўшай „звальненьне" вясковага жыхарства ад прыгону, у прыватнасьці, бок організацыі і распаду панскіх і сялянскіх крэпасных гаспадарстваў. Для дасьледаваньня гэтага боку ўзаемаадносін гаспадарстваў, панскіх і крэпасных іх жыхароў вёсак патрэбны архівы „Сахранных касс"—устаноў, куды паны, пачынаючы з канца 18-га веку, закладалі свае вёскі і землі, якія былі населены „крэпаснымі душамі", прадстаўляючы пры закладзе падрабязговы сьпіс усіх гаспадарчых артыкулаў і свайго двара і двароў „крэпасных душ".

На ўсю Маскоўшчыну XVIII і XIX веку было адчынена толькі дзьве такіх „Сахранных кассы“—у Пецярбурзе і Маскве, у якіх паны пад залог жывых людзей і іх мёртвых маемасьцяў атрымоўвалі грошы, адкуль бралі грошы і паны, жыўшыя на беларускіх землях. У гэтых „Сахранных кассах“, у канцы XIX ст. злучаных у Маскве, захавалася шмат вельмі каштоўнага матар'ялу па экономіцы Беларусі з канца XVIII в. па 1861 г., прыблізна за 65 г.

І вось у сакавіку 1918 г. усе гэтыя дакуманты былі адпраўлены на адну з паперных фабрык Масквы для перапрацоўкі на паперу.

Такім чынам Беларусь згубіла вельмі многа дакумантаў па дасьледваньню экономічнага жыцьця працоўных беларускіх мас у найцяжарнейшы пэрыяд жыцьця—панскі прыгон.

Цікавыя весткі для гісторыі Беларусі знаходзяцца і ў другой кніжцы, выданай іспартам у гістарычнай часопісі „Пролетарская Революция“, дзе ў артыкуле „Витебское бюро“ на старонках 612—613 апавядаецца аб лёсе архіваў Вітабскай жандарскай управы і Вітабскай Губчэкі. Частка першага архіву Вітабскім бюро іспарта была знойдзена ў аднаго крамніка, ужываўшага гэтыя, каштоўнейшыя па гісторыі рэволюцыйнага руху дакуманты, на абварачваньне прадаваемых тавараў. Архіў-жа Вітабскай Ч. К. за першыя гады рэволюцыі аказаўся вывезеным у Маскву. І Вітабскім партыйным працаўніком пры распрацоўцы гісторыі рэволюцыі на Вітабшчыне ўжо прышлося вандраваць да Масквы.

Маскоўска - Піцерскае Дзяржаўнае выдавецтва выдала пятнаццатым выданьнем географічны зборнік С. Меча пад агульнай назвай „Россия“, у якім, сярод апісаньня розных народаў, уваходзячых у склад Расіі, зьмешчан невялічкі, але вельмі цікавы з этнографічнага боку нарыс С. Меча аб беларусах:—„Белоруссы“, у якім аўтор зьвяртае ўвагу чытача на шмат захаваўшыхся ў беларускім народным быце і абраднасьцях праславянскіх, дагістарычных рысаў, носячых нацыянальна-самабытны характар.

У гэтым самым бягучым годзе Дзяржаўнай археографічнай камісіяй Расійскай Акадэміі Навук выдан 37 том „Русской Исторической Библиотеки“, які зьмяшчае ў сабе „Прыходо - расходныя книги Голдина Дорогобужскаго монастыря“, адносячыяся да 1568—1607 гадоў; выдрукаваныя дакуманты ўзяты з прыватнага сабраньня Мардвінава і з чатырох тамоў Актаў Літоўскай Мэтрыкі, якія знаходзяцца ў Пецярбурскай Публічнай бібліотэцы. Гэтыя дакуманты цікавы галоўным чынам для гісторыі экономічнага і гаспадарчага жыцьця манастыра, знаходзіўшагася на самай усходняй акраіне Беларусі. Цікавы гэтыя дакуманты і для гісторыі ўплываў Маскоўшчыны на старую Беларусь, якія праходзілі праз цэрквы, манастыры і праваслаўе.

Аб прымячацельным помніку стара-беларускай літаратуры XII веку „Слове а палку Ігараве“ у Маскве выйшла брашурка ў 56 старонак праф. А С. Арлова пад назвай: „Слово о полку Игореве“. Здавалась-бы, што, пасьля цэлага шэрагу новых навуковых прац, ужо пара-б расійскім вучоным пакінуць тэндэнцыйную русацяпскую распрацоўку старажытных беларускіх помнікаў і размаітых беларускіх крыніц і цалком далучаць стара-беларускія літаратурныя помнікі да помнікаў „древне-русской беллетристики“, як гэта значыцца ў Арлова ў адносінах да „Слова“... Як відаць і Арлоў належыць да той часткі расійскіх вучоных, якія ўпарта яшчэ стаяць на „вялікай, недзялімай Расіі“ і якія ня хочуць даваць ніякіх культурных правоў беларусам і ўкраінцам—народам, жыўшым культурным і гістарычным жыцьцём, калі яшчэ вялікарасійцаў, як па-

асобнай славянскай групы, яшчэ зусім ня было і ў паміне.

Наогул-жа праца праф. Арлова чытаецца з цікавасьцю, як апошняе слова расійскай навукі аб беларускім літаратурным помніку, у якой высьвятляецца ўплыў на аўтора „Слова“ літаратур, Славянскай Візантыйскай і Баўгарскай, да якой далучаюцца гістарычныя комэнтары, гісторыя знаходжэньня і зьнішчэньня рукапісу „Слова“... і філёлёгічныя прыцямкі. Скончваецца кніжка прывядзеньнем тэксту „Слова“ на старабеларускай мове з далучэньнем яго перакладу на мову сучасна-расійскую.

Цікава адзначыць, што адначасна ўсеўкраінскім дзяржаўным выдавецтвам выдана праф. М. Сумцова „Хрестоматія по українській літературы“, у якой на 20 старонках праф. Сумцоў хоча даказаць, што Слова“... зьяўляецца творам гэнія ўкраінскага народу.

**Ал. Шлюбскі.**

**Ярошевич Н. К.**—*Сельско-хозяйственные районы Минской губ. и Белорусской Совет. Социал. Республики.* Минск. 1923. 83 стр.+30 картограмм. Изд. Наркомзема Б. С. С. Р.

Яшчэ да рэволюцыі разьвіцьцё экономічных сіл Беларусі настолькі абагнала краязнаўчую веду аб „Западном крае Российской империи“, што меўшыяся ў літаратуры даныя саўсім не адпавядалі сучаснасьці. Разам з тым, адсутнасьць сыстэматызаваных па ўсяму району этнографічнае Беларусі і яе паасобных частак статыстычных матар'ялаў не давала магчымасьці ўявіць сабе выразна экономічны твар Беларусі цалкам і яе краін—райёнаў.

Рэволюцыя разам зьмяніла ўсё: дасьледчая праца на мясцох распачалася, як ніколі; статыстычна-экономічныя працы сталі пападаць часьцей у друк; перабудова экономікі змушала пабудаваць па іншаму адміністрацыйна - гаспадарчы падзел тэрыторыі Беларускага краю. Але разам з тым вынікшыя зьмены экономікі так ператасавалі экономічныя асаблівасьці таго ці іншага райёну Беларусі, політычныя дзеяньні фронту так уласна рэзалі тэрыторыю на асобныя часткі, утвараючы розны характар таго ці іншага зьнішчэньня тэрыторыі, як вынік існаваньня таго ці іншага фронту або окупацыі, што мы засталі Беларускі край з вельмі розным характарам вынікаў франтавой барацьбы і будаўнічай творчай працы рэволюцыі.

Праца М. Ярашэвіча прабуе райёнаваць сучасную тэрыторыю Б. С. С. Р. (6 паветаў былое Менскае губ.) па сельска-гасп. прынцыпам. Работа гэтая выпаўнена цалкам на даных дарэволюцыйных, датычачых прыродна-гістарычных адзнакаў, характарызуючых умовы сельска-гаспадарчай дзеяльнасьці, гушчыні жыхарства і становішча тэй ці іншай тэрыторыі адносна рынку і шляхаў зносін. Такім чынам устаноўлены былі орыентыровачныя райёны, з якімі далей аўтор проціставіў для аналізу т. зв. формацыённыя райёны, выяўленыя ўжо на прыметах, улічваючых склад пасеваў, суадносіны палеткаў, налічча і склад жывёлаў гаспадаркі і т. д. Словам, М. Ярашэвіч карыстаўся спосабамі праф. Нікіціна М. Праца каштоўная, але вельмі формальна-сухая, бо апісальная часьць тут займае апошняе месца, а ў тэксьце пануе адно—сьпіс валасьцей з умоўнымі паметамі, пазваляючымі потым рабіць разьбіўку тых ці іншых райёнаў. Хаця-ж работа і вялася па загаду Цэнтр. Стат. Бюро Б. С. С. Р., тым ня меней далёка ня ўсё тое было ўлічана і прынята аўторам, што высунуў для райёнаваньня М. А. Шкубэр, кіраўнік Ц. С. Б.

Будзем-жа чакаць гэтай восеньню сканчэньня працы шаноўнага М. Шкубэра „Экономічная географія Беларусі“, дзе найдзе сваё месца і навукова агрунтованы мэтад сельска-гаспадарчага райёнаваньня.

**Т. Кулеша.**

**Л. Клейнборт.** *Очерки рабочей интеллигенции.* Том первый (1905—1916 г. г.). Культурно-просветительное кооперативное товарищество „Начатки знаний". Петроград, 1923 г.

„Мова нашых „Очерков"—мова фактаў". Больш таго, аўтор імкнецца —дзе гэта мажліва—меней гаварыць сваімі словамі, болей—словамі рабочых, бо даўно сказана: самы просты, самы верны спосаб уразумець жыцьцё ў сапраўдных яго рысах—гэта дабіцца таго, каб само-ж яно расказала аб сабе.

„Я вельмі хацеў-бы быць об'ектыўным у сваіх „Очерках". Знаю: да вызнаньня маёй працы далёка, як далёка самой рабочай культуры да ўстановы, якая-бы адмячала правіловы яе ўзрост, яе разьвіцьцё. Але прашу выбачэньня ў чытача „Очерков": я спрабую ўсяго абудзіць цікавасьць да малазачэпленых пытаньняў".

Гэткімі словамі канчае аўтор увод у сваю вельмі цікавую працу „Очерки рабочей интеллигенции". Зачэпленае ім пытаньне, сапраўды, мала кім кранутае. Калі ня лічыць працы Н. Рубакіна на гэту тэму, „О писателях - самоучках" М. Горкага, яшчэ некалькіх артыкулаў, раскіданых па часопісах—а ўсё гэта толькі накіды, выпадковыя, пасколькі-пастолькі—то астаецца адзін адным Л. Клейнбарт, які стала і грунтоўна падыйшоў да пытаньня аб рабочай інтэлігэнцыі. Пры гэтым аўтор сам марксысты і праводзіць сваю працу пад сьветаглядам марксыцкім, дасканала сур'ёзна і з належнымі ведамі і компэтэнцыяй.

Л. Клейнбарт на працягу даўгіх гадоў пасьвячаў шмат часу і ўвагі гэтаму пытаньню, друкуючы свае абсьледы „Рабочей интеллигенции" ў часопісах „Новая жизнь" і „Современный Мір". У перадрэволюцыйныя гады (1912-1916 г.г.), як нам вядома, Л. Клейнбарт меў шырокую перапіску з рабочымі—пісьменьнікамі й песьнярамі, атрымоўваў ад іх іх творы і даваў свае парады. Так што, апроч дасканалага завучэньня пролетарскай літаратуры, так сказаць, з надворнага боку, ён мог праглядзець і ва ўсе тыя куткі псыхолёгічных момантаў узросту і фармаваньня рабочай інтэлігэнцыі. Гэты данныя пасобілі аўтору абгледзіць пытаньне з усіх бакоў, даўшы правіловы аналіз разьвіцьця рабочай інтэлігэнцыі і яе ўплыву на рабочы рух. Калі мы праглядзім яго „Очерки", сабраныя ў адну кніжку й прагледжаныя, то мы зьдзівімся тымі шыратою і ўсебаковасьцю ведаў і працы, якія ўложаны ў іх. Сапраўды кажа аўтор у ўводзе да „Очерков", што ён „стараецца сам менш сказаць—няхай кажуць факты". Праз усю кніжку гэтыя факты і гавораць. Апіраючыся на багаты матар'ял, сабраны за доўгія гады, Л. Клейнбарг опэруе ім свабодна і лёгка, даючы поўны праўдзівы нарыс сыграўшай вялікую ролю рабочай інтэлігэнцыі, словамі рабочых. Чытаючы „Очерки", бачыш жывы адбітак яе жыцьця і духоўнага ўзросту.

Праўда, „Очерки" далёкі ад прэтэнзіі на гісторыю—аб гэтым папераджае сам аўтор, яны даюць сыры матар'ял для будучага гісторыка, але матар'ял багаты, добра й аўторытэтна распрацаваны, сыстэматызаваны і скампактованы, чым многа аблягчае далейшую працу.

„Очерки рабочей ителлигенции"—няпрыменная кніжка для кожнага, хто цікавіцца рабочым рухам і яго духоўным сутрыманьнем. Таксама „Очерки" даюць поўную генеолёгію разьвіцьця пролетарскай літаратуры. Прадстаўнікі яе ў большай сваёй колькасьці пахаджаюць з дарэволюцыйнага стану „рабочей интеллигенции", зьяўляюцца дзяцьмі й выхавальнікамі яе.

Уся тая культурная праца, якая праводзілася ў рабочых цэнтрах, якая будзіла самачыннасьць рабочай думкі і якая ў моманты заціша рэволюцыйна-політычнага змаганьня, падтрымлівала „іскру агню"

у рабочых гушчах,—тая праца праняслася на плячох рабочай інтэлігэнцыі. Ёсьць вядома, што апошняя апіралася на рабочага масавіка, атрымоўвала ад яго імпульс да сваечыннасьці і кармілася сокамі яе магутнасьці і сілы.

Толькі з свайго боку ідэёвы паверх, мост ад нізоў да інтэлігэнцыі, дэмократычна разначыннай ляжаў на досыць значным слаі рабочай інтэлігэнцыі. Як галінкі з дрэва, гальлілася яна па ўсіх заводах і фабрыках, злучаючы гэтыя аб'яднаньні рабочых з заводзкім жыцьцём, асьвятляючы нутраное становішча заводу і часта быт рабочага.

Зборнік Л. Клейнбарта абымае шэсьць нарысаў, па парадку: „Умственный под'ём“, „Читатель“, „Вопросы чести и совести“, „Общественная жизнь“, „Национальный вопрос“ і „Проблемма интеллигенции в рабочем сознании“. Усе гэты нарысы разам выяўляюць з многіх бакоў сутнасьць рабочай інтэлігэнцыі і чытаюцца з захопліваючым інтарэсам.

Лёгкая мова, даступнасьць і сочнасьць выкладаньня даюць мажлівасьць поўнае орыентыроўкі і запамненьня вылажанай думкі.

Астаецца быць удзячным аўтору за яго стараньне абсьледаваць гэта цікавае пытаньне, а партыйнай літаратуры пажадаць, каб-жа з свайго боку кранулася гэтага пытаньня. Тым болей, што зараз ёсьць мажлівасьць паглядзець на яго й беспасярэднім выхадцам з рабочае інтэлігэнцыі—пролетарскім пісьменьнікам і літаратарам. А пакуль „Очеркам рабочей интеллигенции“ Л. Клейнбарта трэба пажадаць шырокага распаўсюджаньня, а тым, хто цікавіцца рабочым пытаньнем і гісторыяй рабочага руху, парадзіць прачытаць іх.

З. Ж.

—

**Червоний шлях.** *Місячнік № 6-7, Харків, 1923 і.*

Перада мною 6-7 кніжка ўкраінскага тоўстага журналу „Червоний шлях“. Як і папярэднія, гэтая кніжка надае здавальняючае ўражаньне, як з надворнага боку (тэхніка выданьня), так, асабліва, з боку зьместу. Кніжка складаецца з 269 старонак дробнага ўбёрыстага шрыфту. Зьмест „Шляху“ мае два аддзелы—прыгожага пісьменства і грамадзянска-політычна-навуковы. Апроч гэтага, дадзены багата кнігапіс і хроніка.

У аддзеле прыгожага пісьменства зьмешчана некалькі орыгінальных вершаў (П. Тычыны, А. Панава, Б. Тэна і інш.), поэма Сосюры, пераводныя вершы з расійскай і жыдоўскай мовы, два апавяданьні і адна п'еса. Усё пералічанае з гэтага аддзелу належыць пяру маладых украінскіх пісьменьнікаў. Па сіле й талентнасьці—вядома, рэчы рознастайныя. З вершаў багацейшы хварбаю й музычнасьцю верш „Плач Ярослаўны“ П. Тычыны, з апавяданьняў—здальней „Лілюм“ М. Хвільлёвага. Абадва з аўтараў, П. Тычына і М. Хвільлёвы, з выразным уплывам расійскіх пісьменьнікаў, як у форме пісаньня, пабудаваньні сказу, гэтак і... у манеры пісаньня. М. Хвільлёвы пераймае Б. Пільняка, П. Тычына—часткаю Ціханава, часткаю С. Есеніна. Аўторы другіх рэчаў таксама блізка суседзяць з расійскімі пісьменьнікамі розных новых кірункаў, з іх кароткімі радкамі, многакроп'ямі, вычурнымі вобразамі і замыславатымі параўнаньнямі (у вершах), са словамі з вялікіх літараў і сугалосных. Усё гэта сьцірае орыгінальнасьць аўтораў і аслабляе ўражаньне, аддаючы сухасьцю і адцягненасьцю ад акольваючага жыцьця.

Што датыча цалкам да аддзелу мастацкай літаратуры, то трэба сказаць, што ён замал у параўнаньні з агульным зьместам і выглядае бедным, шчуплым. Звычайна патрабуецца палавінная часьць кніжкі. Таксама траціць аддзел ад няйменьня ў ім повесьці ці раману.

Другі, грамадзянска-палітычна-навуковы аддзел куды багацейшы ад аддзелу мастацкай літаратуры. У гэтым аддзеле зьмешчана 14 артыкулаў на рознастайныя тэмы, сярод якіх: „Псыхоаналіз“, „Нацыянальны склад насяленьня Ўкраіны па навейшым данным“, „Сутнасьць музычнае творчасьці Стэцэнкі,“ „Дзяржава і супольства ў справе выхаваньня“ і інш. Аднак шмат з артыкулаў грамадзянска-палітычна-навуковага аддзелу занадта кароценькія, пахожыя на газэтныя, не паказваючыя грунтоўнасьці і зусім, памойму, не адпавядаючыя тоўстасьці журналу. Гэтак, крытычна мастацкім тэмам адведзена цэлых пяць артыкулаў па 7-8 старонак, калі-б хапіла двух абстайных стацей. Але гэта мала паслабляе ўражаньне ад вартнасьці і багацьця аддзелу.

Аддзел кнігапісу—умеру і цікавы па зьместу. У ім дадзен агляд кніжкам па розных пытаньнях; пры гэтым шмат аглядаў сталых і грунтоўных.

Дужа багаты аддзел хронікі пад назваю „На радянскай Украіні“. У гэтым аддзеле дадзена хроніка эканомічнага характару, як прамысловасьці, сельскага гаспадарства, проблема нажніц і хроніка літаратуры, тэатру, мастацтва, музычнага будаўніцтва, выдавецтва і інш. на Ўкраіне, ува ўсім Саюзе Рэспублік і заграніцаю. З гэтага аддзелу відаць, як у люстры, уся бягучая чыннасьць рэспублікі ў розных галінах жыцьця. У галіне культуры мы бачым з 6-7 кніжкі досыць вялікі гмах творчасьці. Украінская культура сягнула да таго шырока і далёка, што застаўляе ўміляцца ад радасьці з боку яе прыхільнікаў. Сотні пісьменьнікаў заняты кіпучай творчасьцю, нясупынна працуе да дзесятка выдавецтваў, выходзіць шмат часопісаў, агульных і спэцыяльных, друкуюцца фільмы для кіно, закладаюцца вышэйшыя ўстановы, як Інстытут мастацтва і Інстытут кнігазнаўства ў Кіеве і інш. Аддзел хронікі дужа ажыўляе „Червоний шлях“, робіць яго цікавым і захопліваючым.

Наогул, „Червоний шлях“ складае вялікі здабытак украінскай культуры, паказваючы шпаркі разьбег яе разьвіцьця.

**Аглядчык.**

# Хроніка Беларускае культуры.

## Сярод беларускіх пісьменьнікаў.

### 15-цёх гадовы юбілей літаратурнай і грамадзянскай працы Цішкі Гартнага.

Сьвяткаваньне 15-гадовага юбілею пясьнярскай працы першага беларускага пролетарскага поэты Цішкі Гартнага было наладжана Інст. Бел. Культуры 14-га г. м. Бел. Дзярж. Акад. Тэатр быў перапоўнены гасьцямі—прадстаўнікамі розных політычных, культурна-грамадзянскіх і іншых організацыяў і гурткоў.

Пад гукі міжнароднага гымну, выпаўненага оркестрам Б. Д. А. Т., адчыніўся ўрачысты вечар пад старшынством старшыні Інбелкульту—т. С. Некрашэвіча.

Першым выступіў з кароткім дакладам аб літаратурнай творчасьці юбіляра проф. Пятуховіч. У сваёй прамове ён адзначыў самыя характэрныя рысы поэзіі Ц. Гартнага.

Тав. Дыла ў сваёй кароткай прамове пазнаёміў публіку з біографіяй Цішкі Гартнага і ахарактарызаваў яго, як рэволюцыянэра і грамадзяніна.

Замнаркамасьветы тав. Баліцкі павіншаваў юбіляра ад імя Нар. Кам. Асьветы.

Рэктар БДУ—ад імя прафэсуры Ўнівэрсытэту.

Замрэктара Інстытуту С.-Г. гр. Бяляеў—ад імя Інстытуту.

Ад Компартыі—тав. Сянкевіч, які адзначыў, што поэта Ц. Гартны, стары член партыі, зьяўляецца гордасьцю для партыі.

Ад савпрафбелу—т. Рабіновіч.

Ад жыдоўскай сэкцыі пры ЦБ—т. Мішкоўскі, які зазначыў, што гэты вечар юбілею беларускага поэты-рабочага зьяўляецца вечарам сувязі беларускай і жыдоўскай культуры, якія знаходзіліся доўгімі вякамі пад уціскам царызму. Цяпер працоўныя беларускія масы вёскі і жыдоўскія рабочыя гарадоў і мястэчак ідуць рука аб руку ў разьвіцьці сваіх нацыянальных культур.

Ад польскай сэкцыі гарачае прывітаньне казаў т. Клыс.

Рэдактар газ. „Савецкая Беларусь" казаў прывітаньне юбіляру ад супрацоўнікаў тэй газэты, якую Ц. Гартны з'організаваў і паставіў на моцны грунт.

Тав. Чарнушэвіч, прадстаўнік Чэрвенскага пав., зачытаў ад імя чэрвенскіх партыйных і культурных працаўнікоў прывітаньне такога зьместу:

„Прывітаньне барацьбіту-рэволюцыянэру поэту Цішку Гартнаму-Жылуновічу ад урачыстага пасяджэньня ў складзе партыйных, савецкіх і культурных працаўнікоў гор. Чэрвеня 12-XII-23.

Заслухаўшы прамовы т. т. Чарнушэвіча Зьмітро—сэкратара Пав. Ком. Партыі, Пяцюкевіч і Хадыкі, якія далі нам поўны малюнак твайго

жыцьця, як барацьбіта-рэволюцыянэра, поэты-пролетарыя і наогул культурнага працаўніка на фронце адраджэньня працоўнай Беларусі, ад шчырага сэрца вітаем цябе з 15 гадавінаю твае слаўнай дзейнасьці.

Жадаем табе і наўперад працаваць у такім-жа напрамку яшчэ доўгі, доўгі час. Хай твае песьні, „Песьні працы і змаганьня“, абуджаюць і клічуць к лепшай долі, к лепшаму жыцьцю ўсіх працоўных ня толькі Беларусі, якая з гордасьцю ўпіша тваё імя на старонкі свае гісторыі рэволюцыйнай барацьбы і беларускай поэзіі, а таксама і працоўных тых краін, дзе яшчэ пануе політычны гвалт і цемра!

Прэзыдыум пасяджэньня: *Зм. Чарнушэвіч*, *Шатэрнік*, *Пяцюкевіч*.

12-XII—23 г. Чэрвень.

Студэнт Апацёнак вітаў ад імя студэнтаў БДУ.

Т. Паскрэбка—ад студэнтаў Інстытуту С.-Г.

Т. Цьвікевіч—ад Белтрэстдруку. У сваім прывітаньні т. Цьвікевіч адзначыў вялікую працу юбіляра ў справе выдавецтва беларускіх кніг як заграніцай (у Бэрліне), так і ў Беларускай Сав. Рэспубліцы.

Галубянка шчыра віншавала поэту ад імя дзяцей усіх дзіцячых дамоў Менску.

Было яшчэ шмат вітаньняў ад розных організацыяў.

Пасьля, з прычыны позняга часу, прывітаньні былі спынены.

Старшыня Інбелкульту т. Некрашэвіч зачытаў некаторыя з пісьменных віншаваньняў і тэлеграм.

Беларускія песьняры—Янка Купала, Якуб Колас, Зьмітрок Бядуля і Міхась Чарот чыталі свае вершы, ахвяраваныя юбіляру.

Інстытут Бел. Культуры выдрукаваў к дню юбілею спэцыяльны зборнік выбраных твораў Ц. Гартнага, які і прыпаднёс юбіляру старшыня Інбелкульту т. Некрашэвіч.

Былі пададзены юбіляру і іншыя падарункі.

У канцы Цішка Гартны адказаў кароценькай прамовай, у якой дзякаваў за прывітаньні і зазначыў, што ўсе заслугі, якія былі яму прыпісаны прамоўцамі, павінны быць аднесены не яму, а беларускім працоўным масам, з сям'і якіх ён выйшаў.

Пасьля кароткага перарыву адбылося канцэртнае аддзяленьне, у якім спачатку выступіў дзяржаўны хор пад кіраўніцтвам Тэраўскага.

Спачатку была выканана кантата ў чэсьць юбіляра (муз. Тэраўскага, словы З. Бядулі).

Потым хор сьпяваў песьні Гартнага, пераложаныя на музыку Тэраўскім, Ягоравым і Равенскім.

Уперамешку са сьпевамі дэкламавалі вершы Гартнага артыстыя Б.Д.А. Тэатру.

Паміж іншым трэба адзначыць, што паміж рознымі іншымі песьнямі, выкананымі Бел. Дзярж. Хорам, вельмі спадабаліся бел. народныя песьні гармонізацыі старшыні бел. пясьнёвай камісіі ў Маскве—праф. Прохарава.

Вечар юбілею ў тэатры скончыўся беларускай марсэльезай „Адвеку мы спалі“, выкананай оркестрам Б. Д. А. Т. разам з хорам.

Мясцовая беларуская, расійская, жыдоўская і польская прэса ўдзяліла юбіляру шмат месца на сваіх старонках.

### Павіншаваньні Цішку Гартнаму.

Агульны збор беларускай студыі вітае Вас з пятнаццацёхлетнім юбілеем літаратурнай дзейнасьці.

*Ляжневіч.*

———

Вітаем з юбілеем народнага беларускага поэту Цішку Гартнага, пяўца долі працоўных масаў.

*Славінскі*, *Ігнатоўскі.*

———

Вітае юбіляра редакция „Вістей ВУЦВК“: Пролетарю-поэту Цишке

Гартнаму шлемо привит. Загартовуйте молоду Білорусь.

За спілку „Гарт“ *Блакітны*, *Хвалевый*, *Тычина.*

— —

Шаноўны таварыш!

Паўнамоцнае прадстаўніцтва Беларускае Савецкае Социялістычнае Рэспублікі пры ўрадзе Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік ад свайго імя, а таксама ад імя беларускіх політычных, экономічных, культурна-асьветных і студэнцкіх установаў і організацыяў, якія істнуюць у Маскве, вітае Вас у дзень сьвяткаваньня Вашае 15-х гадовае працы ў галіне беларускага прыгожага пісьменства.

Тут, у Маскве, як нельга больш, адчуваецца велічыня Вашае працы, Вашага пачынаньня ў напрамку мастацкага высьвятленьня жыцьця думак і імкненьняў працоўнае Беларусі.

Наша шчырае і гарачае віншаваньне разам з кадрамі маладых працаўнікоў, якія гуртуюцца ў Маскве ў агні навукі і Вашае поэзіі, хай упэўніць Вас, што зерня, пасеянае Вамі, дае ўсходы, а гэта і павінна даць Вам імпэт у далейшай працы, на што мы і спадзяёмся.

Не адмоўцеся прыняцьупэўненьне ў нашай пашане да Вас.

Паўнамоцны прадстаўнік Беларускае ССР пры ўрадзе Саюзу ССР *Міхась Мароз.*

Сэкратар Паўнамоцнага Прадстаўніцтва У. *Дубоўка.*

———

Шчыра паважаны таварыш!

Прадстаўніцтва Народнага Камісарыяту Асьветы Беларускае Савецкае Социялістычнае Рэспублікі ў Маскве і Беларускае Цэнтральнае Бюро Асьветы Народнага Камісарыяту Асьветы Р. С. Ф. С. Р. шчыра вітае Вас у дзень Вашага сьвята, якое разам і нашым сьвятам зьяўляецца.

Сокі з цаліны, якую вы, шаноўны таварыш, узаралі Вашымі песьнямі працы і змаганьня, гадуюць, гартуюць і будуць гадаваць моладзь, нашу надзею на шляху будаваньня беларускае культуры, беларускае савецкае дзяржаўнасьці, першае каменьне ў падмуровак якой паложана Вамі.

Тое, што Вы, прадстаўнік беларускага пролетарыяту і бяднейшага сялянства, запялі аб іх долі, жаданьнях і імкненьнях, выявілі свой талент у часы страшэннага ўціску, які панаваў на Беларусі,—дае нам падставу сказаць, што мае права і будзе жыць беларускі пролетарыят і працоўнае сялянства, калі яны могуць вылучаць са сваіх шэрагаў гэткіх працаўнікоў, як Вы.

Не адмоўцеся прыняць упэўненьне ў нашай пашане да Вас разам з таварыскім прывітаньнем.

Упаўнаважны НКА БССР у РСФСР і загадчык Беларускага Цэнтр. Бюро Асьветы НКА РСФСР

*Міхась Лойка.*

Мэтодысты Бюро *Юрка Вольскі.*

———

Ад дырыжора Беларускага Дзяржаўнага Хору Ў. Тэраўскага дадзена на ўспамінак Цішку Гартнаму кантата, знарок напісаная ім на пасьвячоны яму З. Бядуляю верш.

———

Паважаны дзядзька Гартны!

Студэнты Бабруйшчыны ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў дзень Вашага 15-гадовага юбілею працы на ніве беларускай культуры шлюць вам яшчэ асабліва сваё шчырае прывітаньне і жадаюць, каб вечна Ваш „горан пылаў“ на аўтары працоўных Беларусі!

Менск, 14 сьнежня 1923 году.

*А. Некрашэвіч, Х. Дзіковіч, А. Пешкаў, М. Мамчыц, Ю. Бібіла, Храшэнкаў, Н. Гамакоў, М. Касіловіч, Клемантовіч, Алесь Аніхоўскі, Т. Забелла, Н. Усьпенская, С. Строк, А. Рынейскі, Т. Леваноў, М. Астроўскі, К. Стрыгун* (*подпіс неразборчывы*).

———

Паважанаму загадчыку і таварышу ў дзень пятнаццацёхгадовага

юбілею літарацкай дзейнасьці яго—ад супрацоўнікаў Цэнтральнага Архіву БССР.

Пятнаццаць гадоў...

Пятнаццаць гадоў мінула ўжо, калі ты, слаўны пясьняр беларускі, Цішка Гартны, надрукаваў свой першы верш у беларускай газэце „Наша Ніва"...

Пятнаццаць гадоў, як сон, прайшло з таго часу, калі ты, капыльскі гарбар, Цішка Гартны, пачаў пяяць свае песьні аб жыцьці гаротнага люду...

Пятнаццаць гадоў ты шчыра працуеш на ніве гартаваньня беларускага мастацтва...

Пятнаццаць гадоў прайшло з таго часу, калі ты, слаўны беларускі пясьняр, стаў перад народам з блізкім пачуцьцю яго вершам...

Пятнацаць гадоў твае працы не прайшло дарэмна.

Ты стаў вядомым адукаванаму жыхарству старонкі, твае вершы чыталіся і чытаюцца ў гушчах з імпэтам...

Пятнаццаць гадоў, як ты, наш слаўны беларускі пясьняр, творыш усё новыя і новыя творы...

Пятнаццаць гадоў прайшло з таго часу, калі ты пачаў пяяць песьні працы і змаганьня...

Дык твары-ж і пяяй цяпер ты, вольны, слаўны пясьняр, працавіты капыльскі гарбар, ня пясьні працы і змаганьня, а волі, шчасьця і паўстаньня!

Народ, пяеш на мове ты якога, вольны.

Твае мары споўніліся!

Няхай песьні і вершы твае зычна гудзяць па ўсіх абшарах твае маткі —Беларусі.

Жыві і працуй!

По даручэньню супрацоўнікаў Цэнтральнага Архіву БССР

*Іллары Барашка.*

г. Менск.

---

Шчыра вітаем Цішку Гартнага ў дзень 15-гадовага юбілею яго палітычнай, грамадзянскай і літаратурнай працы.

Мы вітаем яго яшчэ, як першага рэдактара нашай газэты, якой ён палажыў моцны грунт. Жадаем яму яшчэ шмат гадоў творчай працы на карысьць і славу беларускага працоўнага люду.

*Супрацоўнікі газэты „С. Б."*

---

Праўленьне Дзяржаўнага Трэсту выдавецтва і паліграфічнай прамысловасьці, Беларусі „Белтрэстдрук", вітае першага пролетарскага поэту Беларусі Цішку Гартнага з 15-х гадовым юбілеем яго літаратурнай працы.

Жадае яму і далей шмат гадоў працаваць на карысьць працоўных мас Беларусі, будзячы іх сваім моцным пролетарскім словам.

*Праўленьне Белтрэстдруку.*

---

Горача, пакамсамольску, вітаем першага рабочага песьняра—Цішку Гартнага ў дзень 15-ай гадавіны яго літарацкай працы. Шчыра яму жадаем яшчэ шмат гадоў кідаць поўнай жменяй бадзёрыя словы сваіх гучных песьняў на чырвоныя палеткі Вольнай Беларусі.

*Група поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняку."*

---

Мы, наборшчыкі газэты „Савецкая Беларусь", вітаем нашага быўшага рэдактара Цішку Гартнага ў дзень 15-й гадавіны яго літарацкай працы і жадаем яму посьпехаў у далейшай працы на карысьць рабочых і сялян Беларусі.

---

Бабруйскі Пэдтэхнікум вітае песьняра працы і змаганьня ў дзень яго юбілею.

*Дырэктар Імшэньнік.*

* У кастрычніку месяцы прыехаў з Вільні ў Менск вядомы беларускі пісьменьнік *Максім Гарэцкі*. У Менску ён заняты выкладаньнем беларусазнаўства на Рабочым Факультэце Беларускага Унівэрсытэту і асабіста працуе над складаньнем новага курсу „Гісторыі Беларускае літаратуры“ па заказу Камісарыяту Асьветы. Максім Гарэцкі, таксама, гатовіць да друку зборы сваіх бэлетрыстычных твораў.

* *Цішка Гартны* заняты падгатоўкаю да выданьня ў выдавецтве „Савецкая Беларусь“ зборніку апавяданьняў пад назваю „Трэскі на хвалях“. Адначасова ён працуе над распрацоўкай архіўны матар'ялаў па канцыляры́і губарнатара і зьбірае матар'ялы для першага зборніку Істпарта па гісторыі Кастрычнікавай рэволюцыі ў Беларусі і працы Комуністычнай партыі.

* *Міхась Чарот* піша другую частку поэмы „Чырвонакрылы Вяшчун“. Ім-жа прыгатаваны да друку збор бэлетрыстычных твораў, які мае выдаць у гэтым годзе выдавецтва „Савецкая Беларусь“.

* У лістападзе месяцы (21) вярнуўся з Крыму *Янка Купала*, які езьдзіў туды на лячэньне. У Гаспры, дзе Янка Купала жыў, адбыліся зьмешаныя вечарынкі, на якіх поэт чытаў свае вершы і зрабіў вялікае ўражаньне на расійцаў. Янка Купала прыступіў да перагляду сваіх зборнікаў—Жалейка“ і „Huslar“ якія ён думае выпусьціць другім выданьнем.

* Поэта *Алесь Гурло* ўжо трэці месяц хварэе нагою, якую моцна параніў, служачы ў чырвонай флётыліі ў 1918 г. Яму рабілі опэрацыю і ў хуткім часе маюцца рабіць другую. Алесь Гурло знаходзіцца ў цяжкіх матар'яльных варунках.

* *Літаратар Я. Цьвікевіч* заняты рэдагаваньнем сэрыі популярных брашур па розных пытаньнях пад назваю „Сялянская Бібліотэка“. Брашуры прыназначаны для сялян і выдаюцца Белтрэстдрукам. Ужо выдана пяць гэткіх брашур на розныя тэмы.

* *С. Некрашэвіч* складае трэцюю кніжку пасьля лемантара. Гэта будзе чацьвёртая яго праца ў галінах асьветы, на якіх зараз трымаюцца беларускія школы.

* Праф. *У. Ігнатоўскі* заняты апрацоўкаю „Курсу Гісторыі Беларусі“.

* Пісьменьнік *Я. Неманскі*, які зьяўляецца рэдактарам часопісі экономічнае нарады Беларускай Рэспублікі „Народное Хозяйство“, піша п'есу для Беларускага Дзяржаўнага Тэатру.

* *У. Чаржынскім* кончана складаньнем і перакладам буйная праца „Нацыянальнае пытаньне“, якая зараз рэдагуецца да выданьня ў „Савецкай Беларусі“.

* Навуковым Таварыствам пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце было ўладжана адчыненае пасяджэньне, ахвяраванае беларускаму поэту *Якубу Коласу*, якое адбылося 2 сьнежня ў актавай салі Фона. Праф. *Я. Замоцін* прачытаў даклад аб поэме Якуба Коласа „Новая Зямля“, а пр. М. Пятуховіч—даклад аб „Палескай Глушы“. Нарэшце аўтор прачытаў свой новы сказ „Курская аномалія“. Перапоўненая вучнёўскаю моладзьдзю і беларускімі культурнікамі саля гарачымі воплескамі дружна вітала, як самога Якуба Коласа, гэтак і дакладчыкаў.

* *Якуб Колас* перарабляе сваю поэму „Сымон Музыка“. Поэта пакідае толькі канву поэмы, а ўсё іншае мяняе. Адначасова Я. Колас піша сваю п'есу „Вайна да пабеднага канца“ і шэраг новых апавяданьняў.

* *Я Лёсік* працуе над сынтаксісам беларускае мовы ў навуковым асьвятленьні.

* Беларускі пісьменьнік, аўтор апавяданьня „Праклёнашы“ і супрацоўнік „Нашай Нівы“ *Л. Гвозд* жы

ве зараз у Ўладывастоку, маючы каля 55 год. У яго на руках знаходзіцца болей шасьцёх п'есаў і шмат апавяданьняў. Сярод п'есаў ёсьць рэволюцыйныя, бытавыя і гістарычныя.

* Пры Камсамольскай беларускай часопісі „Маладняк“ організаваўся гурток маладых беларускіх песьняроў пад назваю „Маладняк“. Гурток мае заданьні ладзіць „літаратурныя панядзелкі“, праз якія знаёміць шырокія колы працоўных мас з беларускай літаратурай і мастацтвам, з іх зьместам і напрамкамі. Апроч гэтага, „Маладняк“ будзе ладзіць літаратурныя вечарыны ня толькі ў Менску, а і ў провінцыі Савецкай Беларусіі выдаваць, творы сваіх сябраў.

* Загадчыкам мазырскага аддзяленьня цэнтральнага архіву БССР т. Даўгаполавым знайдзен у аднаго грамадзяніна г. Мазыру рукапіс твору вядомага беларускага пісьменьніка XIX стагодзьдзя Вінцука Дунін-Марцінкевіча. Рукапіс напісан пісьменьнікам у 1860 г. на беларускай мове; па характару—опэра пад назвай „Розна міласьць бывa“. Аб рукапісе дагэталь ніхто ня ведаў.

* Беларускія поэты і пісьменьнікі паслалі гэткую прывітальную тэлеграму расійскаму песьняру Валерыю Брусаву ў дзень яго 50-гадовага юбілею: Москва, Большой театр, Валерию Брюсову.

У пяцьдзесятую гадавіну слаўнага вашага жыцьця, пасьвячонага службе мастацкаму слову, мы, беларускія поэты і пісьменьнікі, шлём Вам свае найлепшыя пажаданьні ў далейшай Вашай творчай працы. Мы рады адзначыць вашу шчырую працу на карысьць Саюзу Савецкіх Рэспублік і іхніх гаспадароў—рабочых і сялян. Народная беларуская літаратура, якая разьвівалася на працягу сваёй кароткай гісторыі ў цесным ядначьні з рэволюцыйным рухам, у цяперашні час сьвяткуе завяршэньне задач, пастаўленых ёю ў першы пэрыяд свайго разьвіцьця—вызваленьне беларускіх працоўных мас ад політычнае, экономічнае і нацыянальна-культурнае няволі. Лічым сабе за гонар, што ў цяжкія для нас дні вы зьвярнулі сваю аўторытэтную ўвагу на беларускую літаратуру, перадаўшы сваім вялікім мастацтвам яе ўзоры расійскаму чытачу. Прывітаньне Вам братняе.

*Купала, Колас, Гартны,*
*Бядуля, Чарот, Гарэцкі.*

* 12 сьнежня на агульным сходзе Інстытуту Беларускай Культры расійскі поэта Валеры Брусаў абраны ганаровым членам Інбелкульту ў пашану яго пяцідзесяцёхгодняга юбілею.

## Выдавецтва.

Зараз выдавецтва „Савецкая Беларусь“ шырока разьвярнула працу па выданьню падручнікаў для ніжэйшай і сярэдняй школы. Адначасова друкуюцца і хутка выйдуць у сьвет тры падручнікі: „Роднае Слова“ I ч. С. Некрашэвіча (40 тыс. экзэмп.), „Выпісы з беларускае літаратуры“ (Хрэстаматыя беларускай літаратуры. Новы й найноўшы кругабегі) у 8 тыс. экз. і „Правапіс“ Я. Лёсіка—30 тыс. экз. Выдавецтвам апрацован плян выдавецкай працы на ўвесь наступны год. Плян складаецца з 4 аддзелаў: 1) Падручнікі, 2) Політычная літаратура, 3) Прыгожая пісьменнасьць і часопісь „Полымя“ і 4) Дзіцячая літаратура. У аддзеле „Падручнікі“ маецца багата рукапісаў па ўсіх галінах ведаў, як: Прыродазнаўства, Фізыка, Гісторыя Беларусі, Геомэтрыя, Альгэбра і інш. З прыгожага пісьменства значацца творы Янкі Купалы (1 том верш.), Якуба Коласа (Сымон Музыка), Цішкі Гартнага (том апавяданьняў), М. Чарота (1 том апавяданьняў) і інш. З аддзелу „Політычная літаратура“ ў першую чаргу пойдуць да друку: „Комуністычны маніфэст“ у перакладзе Лёсіка, „Зборнік па нацыянальнаму пытань-

ню“ пад рэдакцыяй У. Ігнатоўскага, „Програма Р К П б.“ і інш.

* Дзяржаўным выдавецтвам Белтрэстдрук прыступлена да выданьня літаратуры на беларускай мове. Ужо выдана ім да дзесяцёх маленькіх кніжачак пад сэрыяй „Сялянская Бібліотэка“, якую рэдагуе Я. Цьвікевіч. Кожная кніжачка пасьвечана асобнаму пытаньню і напісана на папулярнай мове. У гэтую сэрыю войдуць і бэлетрыстычныя творы беларускіх пісьменьнікаў, а таксама і пераклады.

* Інстытут Беларускае Культуры к пятнаццацёхгодзьдзю літаратурнай працы сябра Інстытуту поэты Цішкі Гартнага выпусьціў пасьвечаны юбіляру зборнік пад назвай „Цішка Гартны. На дзень пятнаццацёхгадовай яго літаратурнай працы. 1908—1923 г.“ Зборнік зьмяшчае ў сабе: 1) Аўтобіографію, 2) Крытычны нарыс творчасьці юбіляра—М. Пятуховіча, 3) пасьвячэньні Янкі Купалы, Якуба Коласа, Ясакара і М. Чарота і 4) Выбраныя творы Цішкі Гартнага. Зборнік надзелен патрэтам Ц. Гартнага і выданы на добрай паперы з вокладкаю, малёванаю мастаком Гуткоўскім.

* Уцык Беларусі гатовіць да друку вялікую колектыўную працу „Савецкая Беларусь“. Праца павінна быць выдана на першае студзеня 1924 г.

* Выдавецкі аддзел пры Наркамземе Беларусі гатуе да выданьня вось якія кніжкі: „Рахунковы аналіз сялянскай гаспадаркі“—А. Чэлінцава, „Культура лубіну, як зялёнае ўдабрэньне — агр. Каліхінскага“, „Лекцыі па агульнаму жывёлаводзтву—Е. Ліскуна“, „Практычнае агароднiцтва—Штэйнбэрга“ і інш.

* Гатовіцца да друку другі нумар „Маладняка“.

* Інстытут Беларускай Культуры зьбіраецца друкаваць навуковы зборнік „Навуковыя Запіскі“. Зьбірае матар'ял і рэдагуе сябар Інстытуту Я. Цьвікевіч.

* Народным Камісарыятам Асьветы пастаноўлена надрукаваць пабеларуску лацінкаю „Лемантар“ „Першую для чытаньня кнігу“ для зьмешаных беларуска-польскіх школ.

## Тэатр і мастацтва.

*) 16 сьнежня адбыўся 10-цігадовы юбілей артысты Беларускага Дзяржаўнага Тэатру Ўладзімера Крыловіча. Для юбілею была пастаўлена п'еса Міровіча „Кастусь Каліноўскі“, у якой юбіляр грае галоўную ролю. Публікі ў тэатры, ня гледзячы на павышаны кошт білетаў, было поўна. Пасьля трэцяга вобразу, пры адчыненай заслоне віталі юбіляра ад розных беларускіх устаноў (ад тэатру, хору, студыі, выдавецтва „Савецкая Беларусь“ і яго супрацоўнікаў і ад жыдоўскай трупы). Пры вітаньні юбіляру паднясьлі падаркі.

*) У сьнежні месяцы адбываецца гадавіна часопісі „Полымя“. Рэдакцыйная колегія ладзіць 24 сьнежня знарочысты вечар, пасьвечаны часопісі. Вечар складацьмецца з 1) дакладаў, 2) чытаньня вершаў аўторамі, надрукаваных у апошнім № 7—8 „Полымя“ і 3) концэртнага аддзяленьня.

* Балетмайстар Беларускага Дзяржаўнага Тэатру *Аляксютовіч* рыхтуе да пастаноўкі ў гэтым тэатры балет „У Купальскую ноч“. Балет складаецца з двух актаў і чатырох вобразаў.

* Галоўны музэй у Маскве выдаў Беларускаму Дзяржаўнаму Музэю дзевяць вобразаў работы першаклясных расійскіх мастакоў, камплект бронзы і некалькі фігур. Усё гэта дастаўлена ў Менск і разьмешчана ў Музэі.

* У Беларускім Дзяржаўным Тэатры вядзецца падгатоўчая праца да пастановак п'ес: Мольера—„Мешчанін у шляхоцтве“, Рамановіча—„Усё добра будзе“ і драма Гарбацэвіча—„Чырвоныя кветкі Беларусі“.

* На пасяджэньні 4 лістапада калегія мастацкіх працаўнікоў сцэны

Беларускага Дзяржаўнага Тэатру пастанавіла ў канцы сэзону 1923—24 г. выдаць тэатральны штогоднік. Усім сябром калегіі запрапанована зьбіраць у працягу сэзону патрэбныя для выданьня матар'ялы.

* На беларускім сэктары Ўнівэрсытэту народаў Захаду рыхтуецца пастаноўка п'есы „Босыя на вогнішчы" ў інсцэніроўцы Ляжневіча, загадчыка Беларускай Студыі.

* У Беларускай Драматычнай Студыі ў Маскве рыхтуюцца гэткія паказныя пастаноўкі: „Цар Максіміліян" і п'еса (пакуль бяз назвы), якая ў парадку імпровізацыі апрацоўваецца самімі студэнтамі.

* У Дзяржаўным Беларускім Тэатры ладзяцца панядзелкавыя зачыненыя артыстычныя вечары, на якіх будуць чытацца лекцыі па мастацтву і выпускацца свая тэатральная вусная газэта.

* Згодна газэты „Савецкая Беларусь" трупаю У. Галубка з 6 жніўня да першага сьнежня г. г. пастаноўлена каля трыццацёх спэктакляў у розных частках гораду Менску, выключна на ўскраінах. Рэпэртуар гэтых пастановак амаль ня ўвесь самога аўтора. Усюды трупа мела посьпех.

## Музыка і песьня.

* Хор Беларускага Дзяржаўнага Тэатру, будучы ў Маскве на Ўсесаюзнай выстаўцы, напяяў на грамафонныя пласьцінкі некалькі нумароў свайго рэпэртуару, як, напрыклад: „Адвеку мы спалі", „Гэй, сябры ўдалыя", два дуэты з музычнае драмы „На Купальле" пад акомпанімэнт квартэту і інш. Пласьцінкі атрыманы ў Менску і дэманстраваліся перад знаўцамі музыкі й песьні. Запіс зроблены здавальняюча.

* Наркамасьветы Беларусі камандыраваў у Маскву ў консэрваторыю дзеля вывучэньня тэорыі компазыцыі і дзеля працы ў Дзяржаўным Інстытуце Музычных навук па абсьледваньню беларускае народнае песьні маладога беларускага композытара *Равенскага*.

* Вядомы організатар беларускага хору У. Тэраўскі, апроч кіраваньня Дзяржаўным хорам, злажыў і нарыхтаваў досі стройны хор пры Беларускім Пэдагагічным Тэхнікуме ў Менску. Гэты хор часта выступае на вечарынах і ўрачыстасьцях, якія наладжваюцца пры Тэхнікуме.

* Зложаная ў Маскве Народным Камісарыятам Асьветы камісія па апрацоўцы сьпеваў у складзе композытараў Іпалітава-Іванава, Грэчанінава, Прохарава, Аленіна і інш. Гармонізавала да гэтага часу каля 150 беларускіх народных песьняў. 80 песьняў ужо атрымана Інспэкцыяй Навуковых Устаноў у Менску і могуць быць сьпісаны жадаючымі для карыстаньня. Усе гармонізаваныя песьні будуць надрукованы ў наступным годзе ў Маскве.

* Да п'есы „На Купальле" музыкантам оркестру Дзярж. Бел. Тэатру Маркевічам зроблена пераробка музыкі Тэраўскага. 2 сьнежня адбылася рэпэтыцыя музыкі, якой усе засталіся здаволенымі. Асабліва добра перароблен уступ першага акту і прадапошняга нумару трэцяга акту.

## Краезнаўства.

* У Вітабску пры саюзе працаўнікоў асьветы залажыўся гуртор краезнаўства. На чале гуртка стаіць Васілеўскі.

* У Чэрвені адчыніўся гурток краезнаўства. Організатары гуртку—сябры Пісарчык і Шатэрнік.

* Пры Беларускім Дзяржаўным Музэі адчыняецца сельска-гаспадарчы аддзел.

* Інстытут Беларускай Культуры падаў у Саўнарком Беларусі законапроэкт аб ахове старасьведчыны, мастацтва і прыроды.

* Глаўпалітпрасьвет Наркамасьветы Беларусі загатовіў дыапозытывы беларускіх пісьменьнікаў—Янкі Купалы, Якуба Коласа і З. Бядулі

каля 200 відаў па этнографіі, быту і краевідаў.

* У Слуцку адчыніўся мясцовы музэй.

* Аршанскі рабфак запрасіў у Наркамасьветы Беларусі прыслаць яму лектара па выкладаньню беларускае мовы.

* Агітпроп Смаленскага губкому рассылае ў паветы атрыманыя ад Белсэкцыі пры Наркамасьветы РСФСР беларускія падручнікі.

* У Смаленску пачала атрымоўвацца беларуская газэта „Савецкая Беларусь", якая чытаецца з вялікаю ахвотаю студэнцтвам, служачымі пошты і тэлеграфу, вокругу сувязі і інш.

* Пры Новазыбкаўскім сельскагаспадарчым тэхнікуме і пры Рагачоўскім пэдтэхнікуме організаваны гурткі па вывучэньню Беларускага краю: першы—з боку экономічнага, другі—з боку этнографічнага (культура, быт і інш.).

* У Бабруйскай павятовай хаце беларускай культуры й мастацтва, ня гледзячы на цяжкія матар'яльныя ўмовы, праца ня спыняецца. Асабліва старанна працуе літаратурнагістарычны гурток, у якім што тыдзень чытаюцца даклады на розныя пытаньні. 24 лістапада быў прачытан чарговы даклад на тэму „Нашаніўская пара". Дакладчык с. Івашын і судакладчык с. Імшэньнік добра адзначылі тагочасны рух з соцыяльнага і нацыянальнага боку. Даклад зрабіў моцнае ўражаньне на прысутных.

У інстытуце імені Ламаносава ў Маскве організавалася беларускае зямляцтва ў ліку 300 чал. У нядзелю 25 лістапада адбыўся агульны сход зямляцтва, пасьля якога адбыўся концэрт, у якім прымала ўдзел беларуская студыя. Студэнтамі інстытуту была пастаўлена камэдыя Родзевіча „Зьбянтэжаны Саўка".

* У гэтым вучэбным годзе ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце чытаюцца па беларуску вось якія дысцыпліны: „Гісторыя Беларусі",—У. Ігнатоўскі, „Беларуская літаратура"—М. Пятуховіч, „Географія Беларусі",—М. Азбукін, „Беларуская мова"—Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, К. Міцкевіч, Рудніцкі, М. Гарэцкі, „Заходня-Эўропэйская літаратура"—М. Пятуховіч, „Асновы Савецкай Конституцыі"—М. Гуткоўскі, „Археолёгія" А. Васілевіч і „Гісторыя польскае мовы"—М. Цьвяткоў.

* У Вітабскім Пэдагагічным Інстытуце ў гэтым годзе маюць выкладацца пабеларуску: Беларуская мова, Беларуская Літаратура, Гісторыя Беларусі і Этнографія Беларусі.

## Асьвета.

* У Менску залажыўся колектыў выкладчыкаў беларусазнаўства, які ладзіць частыя сходы для абгавору розных пытаньняў, якія зьвязаны з выкладаньнем беларусазнаўства. На другім чарговым сходзе колектыў абгаварваў пытаньне аб школьных падручніках.

* У Рагачоўскім павеце (Гомельшчына) адчынілася яшчэ тры беларускіх школы першае ступені.

* Калегіяй Народнага Камісарыяту Асьветы Беларусі пастанавіла адчыніць пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце Беларускі Дасьледчы Інстытут.

Гэта ўстанова ставіць сваёй мэтай гэткія пытаньні: 1) Навуковадасьледчая праца ў зьвязку з вывучэньнем Беларусі, 2) дасьледчая праца ў зьвязку з вырашэньнем практычных пытаньняў, якія будуць высоўвацца дзяржаўнымі ўстановамі БССР і 3) падрыхтоўка настаўнікаў у вышэйшыя школы Беларусі па пытаньнях, якія зьвязаны з вывучэньнем краю.

У Інстытуце будзе працаваць некалькі сэкцыяў.

* Беларускі Камісарыят Асьветы адчыняе гадавыя курсы беларусазнаўства для падгатоўкі высока-кваліфікаваных кадраў настаўнікаў сямёхгадовай школы і тэхнікумаў н беларускай мове. Курсы разьлічаны

на 50 чал., з якіх 35 падае на БССР і 15 чалавек на Гомельшчыну, Вітабшчыну і Смаленшчыну. На курсы прымаюцца настаўнікі з поўнай вышэйшай ці інстытуцкай асьветай. За сямейнымі настаўнікамі Камісарыят захоўвае іх пэнсію для сем'яў. Вучэбны плян курсаў складаецца з гэткіх дысцыплінаў: 1) Беларуская мова—180 гадзін, 2) Беларуская літаратура —132 гадз., 3) Географія Беларусі ў зьвязку з агульна-эканамічнай географіяй—48 гадз., 4) Гісторыя Беларусі—84 гадз., 5) Гісторыя грамадзянскага і рэволюцыйнага руху на Беларусі—36 гадз,, 6) Палітычная эканомія—60 гадз., 7) Гісторыя рэволюцыйнага руху—60 гадз., 8) Гістарычны матар'ялізм—72 гадз., 9) Арганізацыя народнай асьветы—162 гадз., 10) Увядзеньне ў агульнае мовазнаўства (для філёлёгаў)—48 гад. 11) Флёра і фауна Беларусі (для прыродазнаўцаў)—48 гадз., 12) Матэматычная тэрмінолёгія (для матэматыкаў)—48 гадз.

* Усе агульна-асьветныя прадметы ў павятовай партыйнай школе выкладаюцца на беларускай мове. Асаблівая ўвага аддаецца беларускай мове, літаратуры, гісторыі і географіі.

* На першым курсе прававога аддзяленьня факультэту грамадзянскіх навук Бел. Дзярж. Унівэрсытэту склаўся гурток у 30 чалавек, якому „агульная тэорыя права“ выкладаецца выключна на беларускай мове. У гэтым гуртку пабеларуску вядуцца ўсе практычныя работы па „агульнай тэорыі права“: пішуцца рэфэраты, вядуцца залікі і інш.

## За рубежам.

* У Нясьвіжы залажыўся гурток, апрацаваўшы і падаўшы на легалізаваньне статут „Таварыства Беларускай школы“.

* У Коўне Міністэрствам Беларускіх спраў пры літоўскім урадзе друкуецца зложаны К. Дуж-Душэўскім і У. Латоўскім „Слоўнік геомэтрычных і трыгономэтрычных тэрмінаў“.

* У Коўне 25 кастрычніка адбыўся сход беларускіх культурнікаў. На сходзе К. Душэўскі зрабіў даклад аб патрэбе ўтварэньня „Лігі Беларускай культуры“, якая ў першы чарод аб'яднала-бы беларускую інтэлігэцыю ў эміграцыі і выпрацавала-бы яе працаздольнасьць у кірунку літаратурна-навуковым, а падругое—Ліга, зьвязаўшыся з краёвымі беларускімі культурнымі ўстановамі, магла-бы прычыніцца да сыстэматызацыі большай пляновасьці ў працы на ніве беларускай культуры. Дзеля гэтага, паводле дакладчыка, Ліга павінна: а) падлічыць і ўгрупаваць каля сябе беларускія сілы, б) зрабіць распадзел працы, в) узяць у свае рукі ініцыятыву апрацоўкі патрэбных кніг для беларускай школы ў паразуменьні з іншымі беларускім установамі. і

Сабраньне выбрала камісію дзеля апрацоўкі статуту „Лігі Беларускай Культуры“.

* Пэдогагічная Рада Люцынскай Беларускай Гімназіі огранізавала штанядзельнае чытаньне рэфэратаў. Першыя рэфэраты будуць чытаць настаўнікі, а потым—вучні.

## Увага!

**Па недагляду карэктара пад поэмаю „Чырвонакрылы вяшчун“ не пастаўлены подпіс аўтора—М. ЧАРОТ.**

*Рэдактар* **А. Сяньневіч.**

*Выдавец—в-ва* **„Савецкая Беларусь“.**

# Зьмест 7—8 нумару.

## Зьмест № 1 (сьнежань 1922 г.).



---

## Зьмест № 2 (студзень 1923 г.).

## Зьмест № 3—4 (люты—сакавік 1923 г.).



---

## Зьмест № 5—6 (красавік—май 1923 г.).